

# БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ

*Легенды, паданні, сказы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 84 Бел 7
Б 99

*Складальнік А. І. Гурскі*

В сборник вошли белорусские легенды, предания, устные сказания, в которых отражаются национальные черты жизни народа, его мировоззрения. Произведения взяты из рукописных архивов, а также из фольклорно-этнографических сборников Е. Романова, П. Шейна, А. Сержпутовского, Н. Добровольского, М. Федоровского, из литературных источников и записей самого составителя.

Тексты адаптированы с расчетом на массового читателя.

Б $\frac{4702120205-055}{М\ 302(03)-90}$ 138—90

ISBN 5-340-00254-3



## АСІЛКІ

Даўно-даўно, калі яшчэ людзі жылі па лясах дрымучых, прыйшлі ў цяперашнюю Утужыцкую абшчыну асілкі і занялі два месцы: адно на рэчцы Вараусе ў Заборышчах, а другое — на Іванісе пры той жа самай рэчцы. У тых месцах тады ніякага народу не было, месцы былі вольныя па ўсёй Жанвіль-Утужыцкай старане. У лясах вадзіліся ўсякія звяры: мядзведзі, ваўкі, ласі, кабаны, лісіцы ды рысі, а па рэках і азёрах жылі выдры; рыбы хоць апалонікам чэрпай.

Асілкі тыя былі людзі здаравенныя, росту ў касы сажэнь, у плячах — аршыны з два, а голас мелі, як звон немалы, бывала, калі крыкне каторы на ўвесь голас ды свісне, дык якое б дзерава ні было вялікае, а зваліцца. Вось якія былі яны людзі, тыя асілкі. І жонкі іхнія былі па іх: вялікага росту, дужыя і раджалі кожны раз па двое, па трое дзяцей.

Гаспадаркі яны ніякай не трымалі, не было ў іх ні худобы, ні скацінкі свойскай, ні прыпасу, ні запасу. Ні хлеба, ні лёну не сеялі. Карміліся тым, што лавілі па лясах звяроў ды ў водах — рыбу. Адзенне сабе яны шылі са звярыных шкур. Вось так і жылі. Пра бога зусім не дбалі. Ніхто ніколі не чуў нават ад старых, каб мелі дзе-небудзь царкву альбо папа.

Крыху пажыўшы на рацэ Вараусе, асілкі вельмі ўпадабалі Жанвіль-Утужыцкую старану. Вось і задумалі яны тут пасяліцца і пачалі адразу будаваць два гарадзішчы — Забыркі і Іваніху. Гарадзішчы гэтыя і цяпер захаваліся на рацэ Вараусе, вось хоць ідзі і пагдядзі.

Інструменту ў іх амаль ніякага не было. Кажуць, што была на ўсіх адна сякера, ды і тая не жалезная. Але хоць асілкі і не мелі інструменту, а гарадзішчы ўсё ж будавалі. Меўшы ўсяго адну сякеру, асілкі перакідвалі яе з гарадзішча на гарадзішча, бо не хацелі траціць часу на пераход. Крыкне, бывала, асілак з аднаго гарадзішча ў другое — сякеру давай, а другі возьме сякеру дый кіне яму. Такая была ў іх сілішча, за тое і называліся яны асілкамі. Гэта яшчэ нішто — сякеру перакінуць вярсты за тры,— а то, бывала, трэба на будынак бярвенне, дык пойдзе каторы ў лес, вырве дрэва з карэннем ды так і валачэ на гарадзішча, а то камень прыйдзецца прыставіць, дык ён возьме яго дый шыбане за вярсту ці больш, проста на гарадзішча. Некаторыя кідалі такія вялізныя камені, што былі ў паўсажня велічынёю, але не заўсёды гэтакія камені далятал да гарадзішча. А то ёсць мясціны, што зусім закіданыя каменнем. Дзяды казалі — тут асілкі адзін супроць аднаго ваявалі... Яны і звяроў забівалі каменнямі, ад таго камені і ляжаць аж да сягоння па лесе. А далей гаварылі старыя, што асілкі пайшлі адсюль, як толькі пераваліся ў лясах звяры і паменшала ў вадзе рыбы. З таго часу і гарадзішчы іхнія запусцелі, бо пасля іх не скора прыйшлі сюды нашы дзяды, якія абралі сабе лепшыя мясціны, каб сеяць жыта і скаціну разводзіць.



## ПАЛЕШУКІ І ПАЛЕВІКІ

Было ў бацькі дванаццаць сыноў, ды ўсе яны былі вельмі ўдалыя хлопцы. Жылі ў цёмным лесе, дзе вадзілася шмат усялякага звяр'я, пасвілі сваё гаўяда ды лавілі зверыну.

Суседзі жылі далёка і рэдка рабілі ім шкоду, бо баяліся ўдалых хлопцаў. Жылі тыя разам і слухалі старога бацьку, а ён ужо сівенькі, бы лунь, сядзеў сабе ў кажушку ды камандаваў. І быў у іх лад, і ўсім было добра.

Яны ўсе пажаніліся і мелі шмат дзяцей, але ўсе слухаліся старога, і кожны рабіў сваю справу.

Толькі вось памёр стары бацька, і пачалі жанкі сварыцца паміж сабою, пачалі калаціцца ды падбухторваць сваіх гаспадароў. І такая ў іх пайшла калатня, што і жыцця няма. Ведама, калі бабы чаго захочуць, то і сам чорт іх не пераставіць. А тут яны ў адзін голас крычаць: дзяліцца ды дзяліцца.

Пачалі браты дзяліцца. Калаціліся, калаціліся яны, пакуль дзялілі гаўяда ды ўсё дабро, а як пайшлі дзяліць зямлю, дык так пачалі біцца, што чуць адзін аднаго не пазабівалі.

Калоцяцца браты паміж сабою за зямлю, захопліваюць чужыя дзялянкі, і няма ў іх спакою.

Толькі два малодшыя браты жылі паміж сабою вельмі згодна: куды адзін, туды і другі. Не захацелі яны калаціцца з братамі; кінулі сваю бацькаўшчыну дый пайшлі ў свет шукаць сабе зямлі.

От занялі ды і пагналі яны свой статак, зрабілі

з двух дубоў з карэннямі вялізныя сані, запрэглі дванаццаць пар валоў, наклалі ўсялякага дабра, яшчэ пасадзілі жанок з дзецьмі ды і паехалі па пяску.

Працяглі трохі валы дый сталі, не могуць цягнуць сані па пяску. От большы брат давай падкладваць упоперак пад палазы круглыя калодкі. Коцяцца калодкі, і сані паўзуць уперад.

Надакучыла меншаму брату падкладваць калодкі пад палазы, от ён і кажа:

— Давай, братка, зробім такую прыладу, каб калодкі заўсёды круціліся пад палазамі,— ды зрабілі яны колы.

Лёгка пацяглі валы, так што яшчэ браты самі селі на воз. Едуць яны, едуць і пад'язджаюць да вялікай рэчкі. Шукалі, шукалі, нідзе не знайшлі плыткага месца, каб пераехаць уброд. А тут усхадзілася вялікая бура. Лес раве, бы звер. Вецер ломіць дзераўлякі, бы баба кастрыцу, дый кідае на зямлю і ў раку. Плыве па вадзе дзерава, бы плыты.

Зірнуў на тое малодшы брат ды і здагадаўся, як перабрацца цераз раку. От давай яны з братам лавіць на рацэ дзерава, звязваць яго разам і рабіць плыт.

Сунялася бура, падагналі яны той плыт шчыльна да берага, запрэглі валоў і ўзвезлі воз на плыт. Стаяць на плыце, кіруюць доўгімі жэрдкамі, а плыт сам і плыве з вадою.

Аднесла плыт далёка, але вось ён і прыстаў да другога берага. Пабачыла гаўяда, што валы паплылі па рацэ на другі бок, кінулася яно ў ваду ды і пераплыло цераз раку.

Паехалі браты далей і забраліся ў такі лес, што і канца яму нямашака. Не могуць далей ехаць — лес не дае. Пачалі яны церабіць дарогу ды масціць грэблі. Але дзе там: чым далей, тым лес гусцее, а ў ім такая тхлань і нетры, што і выбрацца нельга.

От і кажа большы брат:

— Астануся я тут, не магу выбрацца з лесу.

І застаўся ён сярод таго лесу. І назвалі яго і дзяцей яго палешукамі.

Малодшы ж брат настойліва працярэбліваў дарогу, масціў грэблі, клаў кладкі і ехаў усё далей. Можа, і цяпер на Палессі яшчэ ёсць тыя прасекі ды грэблі, што нарабіў той упарты чалавек. Ці доўга яны ехалі на сваім возе, як убачылі, што лес пачаў радзець, пачалі трапляцца прагаліны, палянкі ды палі; яны спыніліся там і сталі разрабляць поле. Затым-то і назваліся яны палевікамі.

Потым размножыліся і палешукі, і палевікі, занялі пусты лес дый пачалі жыць адны каля другіх побач.

Праз немалы час у палешукоў і палевікоў развялося шмат гаўяда, дый усялякага звяр'я ў іх лясах было больш, чым у тым месцы, дзе засталіся тыя дзесяць братоў. От гэтыя дзесяцера братоў пашкадавалі, што пусцілі сюды меншых і што далі ім шмат гаўяда, пашкадавалі дый уздумалі адабраць назад. Даведаліся палешукі і палевікі, што тыя падходзяць да іх з разбоем, нарабілі ў лесе завалаў, накапалі глыбокіх ямаў дый накрылі іх мохам, а самі пахаваліся ў гушчэчы і цікуюць, што будзе далей.

Вось падышлі тыя разбойнікі дый пачалі падаць у ямы, а ў іх была вада. Адны патапіліся, а другія заблыталіся ў засеках дый пагінулі ў нетрах без яды. От адагналі апошніх разбойнікаў палешукі і палевікі дый давай выхваляцца адны перад другімі. Палешукі кажуць, што гэта яны сваімі засекамі ў лесе загубілі разбойнікаў, а палевікі — што разбойнікі пагінулі ў ямах, што палевікі выкапалі.

Пайшлі яны выхваляцца ды спрачацца. Спрачаліся, спрачаліся — ды за чубы, ды за калы... І пайшла тут такая перапалка, што горш як ад разбойнікаў.

Б'юцца палешукі з палевікамі, паляць вёскі, нішчаць дабро ды парываюцца спрэс загубіць адны другіх, горш як самыя лютыя ворагі. Доўга біліся яны, але не могуць адолець адны другіх, толькі што далей, то ўсё больш слабеюць як тыя, так і гэтыя.

Дачуліся ворагі, што палешукі і палевікі калоцяцца паміж сабою, што яны не бароняць свае рубяжы, от яны зноў сабралі вялікае войска дый пайшлі паліць вёскі ды забіваць як палешукоў, так і палевікоў.

Ачомаліся палешукі і палевікі, годзе калаціцца самі з сабою, давай біцца з ворагам. Біліся яны, біліся, можа, палавіна іх палягло, а нічога не зробяць, бо ворагі лезуць усё новыя і новыя. Шмат палягло ворагаў у чыстым полі, шмат заблудзілася ў лесе, у балотах і там загінула ад голаду, ад холаду ці патапілася ў гразі, але яшчэ шмат засталося. Лезуць яны, як свінні ў агарод, лезуць ды забіраюць палешукоў і палевікоў у палон, забіраюць іх зямлю, гаўяда і ўсё дабро, а старых і малых забіваюць ці цкуюць сабакамі. Забілі яны ў калодкі ўсіх палешукоў і палевікоў дый загадалі сабе служыць. Нічога на парадзіш.

Служаць палешукі і палевікі тым ворагам, бо не свая воля, служаць год, служаць два, а можа, і больш.

Працуюць яны на ворагаў бы чорны вол і ніякае палёгкі не маюць, працуюць, гаруюць ды праклінаюць сваё жыццё.

А ворагі пануюць ды здзекуюцца з простых людзей, а тыя рады, што хоць засталіся жывыя.

Бачаць паны — простыя людзі змірыліся, от і скінулі з іх калодкі.

Рады простыя людзі, дзякуюць богу і за тое. І пачалі яны працаваць на паноў так шчыра, як самі сабе. А панам тое толькі і трэба. Працуюць простыя

людзі, а паны адно падганяюць ды падганяюць. І адвучыліся паны ад усялякае работы, ды так адвучыліся, што без простых людзей не могуць і жыць, бы тая птушка, як яе выпусцяць з клеткі на волю.

Бачаць тое простыя людзі ды толькі смяюцца з паноў. Яны смяюцца, а паны — хоць бы што, балююць сабе ды яшчэ больш прыбаўляюць народу работы.

— Бо яны,— кажуць,— рагочуць, бы жарабцы, затым, што мала дзела.

Яшчэ горш стала, і пачалі людзі рабіць панам помсту: то свіран спаляць ці гумно, то кароў загоняць у такую тхлань, што яны там і пагінуць, то свіней патопяць, але ад таго і самі не маюць чаго есці, бо, ведама, жывуць па ардынар'і: пана чорт не бярэ — ён у суседа дастане, а людзі падыхаюць ды пухнуць з голаду. Што тут рабіць, што парадзіць? Ні з якога боку нельга пазбавіцца ад тых паноў.

Але вось прыходзіць якісь старэнькі дзядок дый кажа:

— Людзі, людзі, вас шмат, а паноў жменя, і гэтая жменя здзекуецца ды ездзіць у вас на карку. Ці гэта ж вы людзі, а не авечкі?

Пагаманіў ён гэтак у адным месцы, у другім, от і схамянуліся людзі і пачалі варушыцца.

Знайшліся ўдалыя хлопцы, сабралі сабе добрых малойцаў ды і пайшлі пярэсціць ды мясіць тых паноў. Бачаць тыя, што гэта не пярэліўкі, ды і кінуліся наўцекача: хто ў лес, а хто ў чужыя краі.



## ВЕКАВЕЧНАЯ МЯЖА

Жыў калісь у нашай зямлі князь Радар, які спярша кавалём быў, а пасля ж яго выбралі ў князі. А ў Ляцкай старане жыў кароль Лях, у якога быў Змей Крагавей. Панадзіўся Змей Крагавей у нашу старану хадзіць: прыйдзе, людзей паядае, а што не з'есць — пабівае. Думаў-думаў Радар: што рабіць? І пачаў ён лемяшы каваць ды дубы ламаць: задумаў велізарную саху зрабіць. Кожны лемех па пяцьсот пудоў, а паліцы са старога дубу, а лейцы з найбольшых сосен, якія былі ў пушчы. Зрабіўшы саху, занёс Радар у поле, палажыў яе пад лесам, а сам давай камяні цягаць ды вежу мураваць. Замураваўся ў каменнай вежы, запёрся на трое жалезных дзвярэй, а дружыну схаваў пры сабе. Прыбягае Змей, а Радар яму:

— Стой, Змей, не чапай людзей, а вось, калі ты пралізнеш гэтыя трое дзвярэй, то я табе сам сяду на язык і ты мяне з'ясі,— тады рабі што хочаш у маёй старане.

— Добра,— кажа Змей.

І ён раз лізнуў, другі раз — лізнуў і пралізаў трое дзвярэй. Тады Радар цап яго за язык кляшчамі ды давай гваздзіць яго па галаве стопудовым молатам, а дружына чым барзджэй упрагаць Змея ў саху.

Змей вярцеўся, круціўся, а ўрэшце скарыўся:

— Давай,— кажа,— будзем мірыцца!

— Добра,— кажа Радар,— давай мірыцца. А каб

нам назаўсёды ведаць, дзе чыё, то валачы саху, правядзём граніцу.

І вось аралі яны лес, аралі луг, аралі поле і даараліся да вялікай ракі; тут Радар крыкнуў Змею, кіруючы яго ў ваду:

— Гайда, бух! — значыць, каб ён скакаў у раку.

Змей скочыў з прыгорка, ледзь не ўтапіўся, але сахі пазбыўся: яна сарвалася з хамута і патанула рагачамі ўверх. Рады Змей, што жыў застаўся, не азіраецца, пыліць дамоў, у нару пад гарой, дзе жыў князь Лях. Як убачыў свайго князя Змей, то яшчэ ў страху тым здалёк крычыць яму:

— Помні, Ляша, па Бух наша! — і як толькі дапаў сваёй нары, то і апрогся.

З гэтых часоў на векі вечныя тая разора, якую празвалі Бухам, ці Бугам, сталася граніцай паміж нашым і ляшскім краем. А вежа, якую будаваў тады Радар, і дагэтуль стаіць у мясцовасці, Камянцом званай. Доўга і тыя жалезныя лемяхі тырчэлі з ракі і цяпер, кажуць, ляжаць там на дне.



## ЧОРТАЎ МОСТ

Даўней не так было, як цяпер: людзі жылі па гарадах ды па месцах. Кожнае племя па сваім месцы празывалася. Вось і ў нашым баку над Свібельскім возерам жылі даўней два народы, адзін народ па гэты бок, дзе цяпер Клюеўская воласць, і празываўся свевы, а па той бок — празываўся лівы, дзе цяпер

і царква Ліўская ёсць... У кожнага народа быў свой цар, і яны часта хадзілі адзін на аднаго вайною, бо блізка жылі. Кажуць, што на тым месцы, дзе цяпер вёска Пешыўка, быў свеўскі горад і ў ім жыў іхні цар. Быў ён чалавек разумны, багаты і дужа сільны. Меў жонку, кажуць, дужа прыгожую, і празывалася яна Ягодай. Спарадзіла Ягода дачку, ды такую красуню — у тысячу разоў прыгажэй за сябе, а сама з тых родаў і памерла. Цар дужа гараваў, плакаў, нудзіўся, хацеў другую жонку ўзяць, але больш не знайшоў такой прыгожай і застаўся ўдаўцом. Гадуе ды мілуе сваю дачку, якую ён сам і людзі празвалі Рожай. Расла, гадавалася Рожа пры ўсякім дастатку. І вырасла на здзіўленне ўсяму свету, бо была такая прыгожая, такая пышная, як усход сонейка: белаліца, бы сняжынка, а вочы гарэлі, як зоркі нябесныя. І душа ейная была ад усіх людзей адменная, бо бацьку свайго яна шанавала, паважала, народ свой любіла, як сваю душу, усякаму, хто што прасіў, аддавала, пра сябе забываючы; здарыцца няшчасце якое, яна і парадай, і справай дапаможа. Рожа была такая разумная, што другой такой тады і на свеце не было. І бацька ейны, свеўскі цар, дужа яе паважаў і заўсягды з ёй раіўся.

Ад жаніхоў ёй не адбіцца было. Сваталі яе і свае, і суседскія жаніхі, прысылалі сватоў да яе з далёкіх бакоў — царскія і княжыя сыны, нават аж з-за мора прыязджалі сватацца, ды яна ні за каго не хацела выходзіць; ніхто яшчэ па сэрцы не прыйшоўся ёй. Толькі ліўскі цар не сватаўся, бо не бачыў яе. Вось якая была свеўская царэўна.

Адзін раз захацелася ёй па возеры пагуляць, села яна ў лодку з дзяўчатамі, і паплылі на Свібельскія астравы. Вось плывуць яны з вострава на востраў, гавораць, смяюцца, вядома, як і заўсёды, цешацца

на волі дзяўчаты, а таго не бачаць, што на неба чорная хмара паднялася з іх роднага берага. Паднялася тая хмара ды як пусціць па возеры вецер у ліўскі бок; узяліся хвалі баранчыкамі, падхапілі лодку з дзяўчатамі, панеслі з шумам яе, кідаючы з боку ў бок і залiваючы дзяўчат пырскамі белымі, а дождж — зверху. Прапалі і жарты, і смех, перапужаліся ўсе, лямантуюць, адна толькі царэўна спакойна сядзіць ды ўсміхаецца, угаворвае сваіх сяброўак не журыцца, а сама тым часам кіруе як след, быццам рулём, ды з такою сілай, што гожа б і добраму малойцу павучыцца.

Прыбіла іх да берага ліўскага, і ўгледзеў іх сам ліўскі цар, ён на той час якраз рыбу лавіў. Хацеў ён паклікаць народ свой, каб забраць дзяўчат у палон, ды як зірнуў на царэўну, дык аж самлеў, ані з месца, стаіць, разявіўшы рот, і вачэй не зводзіць з яе. А царэўна на яго паглядзела дый кажа:

— Хто ты ёсць, чалавек?

А ён маўчыць, не можа слова сказаць, замерла ягонае сэрца ад радасці, што ўбачыў такую прыгажуню-дзяўчыну. Пачакаўшы трохі, яна зноў давай пытаць у яго, а сама тым часам глядзіць яму ў вочы з ласкаю і ўсміхаецца, бо сваім сэрцам яна адразу згадала, што дужа спадабалася яму. Ад ласкавых слоў ды ад усмешкі яе і свет цару змяніўся, а як прыйшоў ён да памяці, дык і кажа ёй:

— Я ліўскага народа цар Ліграй, хачу забраць вас, дзяўчат, у палон.— А сам смяецца і не ведае, што рабіць, дае ёй рыбу.

Узяла царэўна тую рыбу дай кажа:

— Што ж ты не пытаешся, хто я такая ёсць і адкуль тут з'явілася?

— Не трэба,— кажа цар,— здагадаюся. Ты, мусіць, свеўская царэўна Рожа, з сяброўкамі гуляеш.

Пра цябе я ўжо даўно шмат добрага чуў, што ты і разумніца, і прыгожая, ды, прызнацца, не думаў, што такая ёсць. Застанься,— кажа,— тут, будзь мне за жонку.

— Не, не магу,— адказала царэўна,— трэба перш у таткі спытацца, калі ён дасць дазваленне, дык з усёй душой рада за цябе пайсці, бо ты мне прыйшоўся па сэрцы.

Пакуль тое ды сёе, хмара перайшла, вецер сціх, і зноў сонейка пачало свяціць і грэць. Развіталася царэўна з ліўскім царом і, вярнуўшыся дамоў, усё расказала свайму роднаму татку. Пачала яна прасіць дазвалення выйсці замуж за цара Ліграя. Цар і рад бы, але, пакуль дачка гуляла па возеры, прыбыў да яго нямецкі рыцар Ліхдзей, які прывёз з сабою нейкі незразумелы народ з пікамі ды з мушкетамі, прывёз на конях шмат золата і серабра, самацветных каменняў і папрасіў аддаць за яго царэўну, пагражаючы, што, калі цар адмовіць яму, то ён, Ліхдзей, забярэ ў палон цара разам з народам яго і дачку ўсё роўна возьме за сябе.

Ні са скуры, ні з твару не спадабаўся Ліхдзей цару. Але што тут рабіць! І павёў цар дачку ў пакой, дзе быў тым часам Ліхдзей. Паглядзела царэўна на Ліхдзея і жахнулася: доўгі, худы, тонкі, як трэска, ногі быццам з палак выструганыя, абцягнутыя вузкімі штанамі з гузікамі і абутыя ў жоўтыя чаравікі з бліскучымі спражкамі; надзета на ім нешта такое куртатае, а зверху накрыта не то хусткай, не то абрэзкам якім; каля шыі пушчаныя белыя кругі, адзін на адзін пакладзеныя, як бліны, з краёў зморшчаныя. Мабыць, з той прычыны, што шыя дужа доўгая, як у чаплі. Рыжы, з твару вузкі, бародка падобная на казлінную, вусы пушчаныя стрэлкамі. Языком лапоча, вачамі так і шнырыць па ўсіх кутах, а голас скрыпіць, як нямазаныя колы. Народ ягоны — такі ж, як ён.

Убачыў Ліхдзей царэўну Рожу ды і закруціўся каля яе, бы чорт перад ютранню, давай да яе пад'язджаць. Падарункі ёй совае ў рукі, языком так і лапоча, лапоча няведама што, абяцае і тое, і сёе, а сам у вочы не гляне, мусіць, чыстыя дзявочыя вочы яму страшныя былі.

Паглядзела, паглядзела на яго царэўна і, слова не сказаўшы, пайшла да сябе ў пакой і татку з сабою павяла.

— Ну,— кажа,— гэты чалавек загубіць нас. Не аддавай ты мяне за яго, бо будзе ліха і мне, і табе. Скажы Ліхдзею, што даўно маеш крыўду на ліўскага цара і, пакуль за тую крыўду не адплоціш яму, ні пра што думаць не можаш. І яшчэ скажы ты яму, каб ён за адну ноч праз возера мост каменны пабудаваў, тады аддасі мяне за яго, а калі не зробіць моста, дык ён ніхто, а толькі хвалько. Смела скажы яму так, бо я маю надзею на падмогу ліўскага цара.

Сказаў свеўскі цар Ліхдзею, як навучыла яго дачка, каб ён за адну ноч мост праз усё возера пабудаваў, а без таго, кажа, дачкі табе не аддам.

Паморшчыўся Ліхдзей і адказаў:

— Цяжкую ты мне работу даў, ды я не баюся яе.

І пайшоў языком лапатаць.

Так ды сяк і дзень прайшоў, настала ночачка. Падняліся на возеры гул, гоман ад безлічы галасоў, быццам з цэлага свету сабраліся сюды людзі на ігрышча — крычаць, рагочуць, смяюцца, свішчуць і няведама што лапочуць. Па возеры нібыта вецер ходзіць, такі шум, якога не бывае і восенню ў ветраныя дні. Вада так і плёскае, валы пайшлі, а кругом возера ўсё ціха, ні вятрынкі, ні шалясцінкі, чутно толькі, што на возеры бултыхаецца вада, стукаюць камяні адзін аб другі, бразгае жалеза.

Ад гэтага шуму, ґулу ды бразгату прабудзіўся

свеўскі цар. Прабудзіўся дый думае: авой, ліханька, што ж гэта значыць, кругом ціха, а на возеры людзі пасабіраліся? Ды як успомніў: можа, ліўскі цар даведаўся, што ён дачку сваю абяцаў аддаць рыцару Ліхдзею ды плыве па возеры да яго з вайною,— так перапалохаўся, што ледзьве знайшоў свае боты. Неяк сабраўся, выскачыў з хаты і пабег на возера паглядзець, што там такое дзеецца.

Прыбег да берага, бачыць — людзей не відаць, а шум, гул, рагатанне, бразгат, боўтанне — страх якія: ён прыжмурыўся ды як прыгледзеўся добра, дык і ўбачыў, што па небе самі лётаюць камяні і кідаюцца ў возера. Ужо нават зазначыўся каменны мост, больш як на тры чвэрці, праз усё возера.

Не пужлівы быў свеўскі цар, умеў пастаяць за сябе на вайне ў чыстым полі, нікога з ворагаў сваіх ніколі не баяўся, а тут так перапалохаўся, што і ножанькі крэпкія падагнуліся, і ручанькі дужыя затрэсліся і не рухаюцца. Здагадаўся свеўскі цар, чыя гэта работа. У тую самую хвіліну са страшэнным гулам праляцеў і з трэскам чмякнуўся вялізны, сажні на два, калі не большы, камень, блізенечка ад яго; цар адхінуўся і ледзь-ледзь на нагах устояў, бо зямля кругом закалыхалася, вада ад берага адкацілася, і зашумеў ад ветру лес. Пасля на возеры ўсё сціхла, быццам і не было нічога. Паглядзеў цар на ваду — стаіць як шкло: рыба гуляе, вакол лясы, быццам заснулі, ніякага шуму, у небе ціхія, ясныя зоры гараць так роўна ды спакойна, як царэўніны вочкі. І ўспомніў тут цар пра дачку сваю, і хутчэй пабег дамоў, бо баяўся, каб Ліхдзей не ўкраў яе. Пагледзеў — аж дачка спіць спакойна. Прылёг і ён крыху адпачыць.

Раніцай выйшаў цар з дачкою і з народам на возера і вачам веры не дае; дзівяцца ўсе: з камення па-

будаваны ледзь не праз усё возера, вярсты на паўтары, здаецца, мост. І калі б яшчэ трошкі, то ўпёрся б у іхні бераг, а на беразе, супроць моста, ляжыць камень з невялікую гару, раней тут ніколі яго не было. Рыцар жа Ліхдзей са сваім войскам прапаў, быццам скрозь зямлю праваліўся. І не засталося аб ім нават пагаласу.

Царэўна радавалася, што цяпер можна праз мост да ліваў хадзіць. Але ліўлянам не спадабалася гэта, яны думалі, што сваўляне знарок пабудавалі мост, каб на іх вайною пайсці. Таму яны пакінулі сваё гарадзішча і пайшлі да сіняга мора, там яны абралі сабе новае месца, аселі на ім, пабудавалі дамоў і назвалі новае гарадзішча Ліваніяй.

Царэўна як спярша радавалася мосту, так пасля, як пайшлі да мора ліўляне, глядзець на яго не магла. Зірне, бывала, на мост і на возера ды як укінецца ў слёзы, што аж сэрца замрэ глядзець, як яна заліваецца. І з твару змянілася, і схуднела, і вочы смутныя сталі. Сяброўкі колькі ні суцяшалі яе, нічога зрабіць не маглі. Яна ім не гаварыла пра сваю любоў да ліўскага цара, не гаварыла і таго, што ліўскі цар знарок адышоў ад сіняга мора, каб не ваяваць са свеўскім царом. Зналі пра гэта толькі яна сама ды яе бацька. Кажуць, што блізка года прайшло з таго часу, як ліўляне адышлі ад мора, а царэўна ўсё плакала ды гаравала і ні на якіх жаніхоў глядзець не хацела.

Прайшлі восень і зіма, надышла вясна другога года, а царэўна ўсё спадзявалася ўбачыць свайго мілага Ліграя.

Пайшла гэта яна адзін раз з сяброўкамі на ліўскую старану паглядзець на тыя месцы, дзе жыў- быў яе мілы цар Ліграй, мусіць, ёй хацелася сваю душаньку адвесці, успомніць, як бачыла яна яго першы і

апошні раз у сваім жыцці. Прыйшлі яны на тое месца, куды ветрам прыгнала іх некалі, зірк, аж цар Лігрaй ловіць рыбу.

Убачыў ён царэўну Рожу, кінуў нерат — і да яе. Яна так і кінулася яму на шыю, як раненая галубка. І радыя ж былі яны! Хапіла тут усяго: і плакалі, і смяяліся, і цалаваліся, і расказвалі, перабіваючы, адно аднаму пра сваё жыццё, пра свае гаротніцтва, ад шчасця не ведалі, што рабіць.

Ну і вяселле было ў свеўскага цара, тыдні тры балявалі! Як ужо ажаніўся Лігрaй з царэўнаю Рожай, дык і народы іх і два царствы зліліся ў адно на векі вечныя, і возера з таго часу таксама на-новаму завецца — Свеўліў.

Цяпер гэта возера людзі называюць розна: адны — Свібло, другія — Свеўла, а іншыя — Свеўліўскім...

Пра ўсё гэта нам расказалі нашы дзяды і прадзеды, якія жылі тут спакон веку.



## ДЗЯДЫ РАСКАЗВАЛІ

А былі ў Пагосце і туркі, даўно-даўно. Нам пра іх дзяды расказвалі, а ім — іхнія дзяды. Глуміліся туркі над нашымі людзьмі. Людзі хаваліся ад іх па зарэччы, у лесе, дзе прыходзілася. У полі і ў далінах хаваліся, дзе капялюшніку багата. Залезе чалавек у даліну, галаву з вады высуне, каб дыхаць можна было, а галавы не бачна, бо капялюшына зверху прыкрывае.

Вот адзін раз паўцякалі людзі ад туркаў з сяла, хаваюцца дзе хто. Некаторыя — у Дзедавай даліне, што каля панскага поля, пад капялюшнік пахаваліся. Сядзяць ды чакаюць, пакуль туркі з сяла пойдуць. Аж некі чалавек ідзе паўз бераг да па-нашаму нашых людзей гукае:

— Куліна-а-а, Марына-а-а, хадзі, пайшлі-і-і!

А ў вадзе якраз нека Куліна і сядзела. Паверыла, на гэты голас вылезла да таго чалавека. Мокрая ўся. Падышла, аж бачыць, што гэта турак — чорны, з вусамі, з шабляю, толькі ў наша адзенне пераадзеты. Уцякаць — не пабегла — дагоніць да яшчэ засячэ. Загадаў ён ёй у сяло ісці да свае хаты.

Зайшлі ў яе хату, дык ён загадаў яду яму згатовіць ды вады багата нагрэць, каб яму памыцца. Запаліла яна печ, прыставіла там нешта, мо бульбу, мо крышаны, мо боршч, бог яго ведае, і вады яшчэ ў вялікім чыгуне прыставіла, як турак і загадаў.

Агонь у печы гарыць, у чыгунах да гаршках вада кіпіць, нешта варыцца, а Куліна каля печы стаіць. А турак сеў на парозе, сцеражэ яе. Ды бачыць яна, што галава яго на бок пахілілася, вочы зліпліся. Задрамаў турак. А вада ў вялікім чыгуне парыць моцна. Куліна гэты чыгун вілкамі з печы выцягнула, абматала шматкаю, узяла дзвюма рукамі ды як лінула кіпень на галаву! Апарыла яго, дык ён і кончыўся. Вот так Куліна турка накарміла і сама жыва засталася.



## АДКУЛЬ РУБЕЖ

Пра войны тыя нам дзяды расказвалі, ну а ў кніжках, можа, і не так, як мы знаем. Тут і шведы былі, і палякі, і французы, ну, усіх іх і пабілі. Во, можа, чулі: тут недалёка Рубеж, дак то яшчэ ад татар. Прыйшлі яны і сталі супроць нашага войска. А раней дак перш біліся князі ці асілкі, а за імі ўжо войска. Выйшлі на поле татарын і рускі, біліся конныя, потым пешыя, ну ніхто не пераможа. На другі дзень, аддыхнуўшы, зноў сышліся. І зноў таксама ніхто не перамог. Так і прастаялі сем дзён, пакуль не знайшоўся такі малады хлопец, што як схапіў таго татарына ды як кінуў яго вобземлю, так і забіў. А за ім і ўсё войска на татар пайшло, пабілі іх многа, некаторых пабралі да паразганялі. Дык ад таго і Рубеж завецца, што доўга на ім стаялі. А ў капцах недалёка татары закапаныя.



## КАПЦЫ КАЛЯ ВЁСКІ СУКРЭМНА

Белы арап разарыў усю зямлю рускую, спаліў гарады і сёлы і з лютай жорсткасцю нішчыў народ: мужчын раздзіраў надвое, прывязваючы да двух сагнутых дрэў; жанчынам адразаў грудзі, а цяжар-

ным распорваў жываты і даставаў дзяцей; малых заганяў у хату і ставіў ля сцяны за лаваю, а тады прыціскаў яе да сцяны, задушваючы адначасова ўсіх. Людзі хаваліся ў лесе, але арап акружаў лес шоўкам, і, калі хто выходзіў з лесу ўначы, рваў шоўк, арап пасылаў у той лес войска, і яно забівала людзей, што там хаваліся. Гэтыя забітыя і ляжаць у курганах.



## ПРА ТАТАРСКІЯ КУРГАНЫ

У Вілейскім павеце за дзесяць вёрст ад мястэчка Куржэнец (Куранец) у лесе пры дарозе ў маёнтку Губы стаіць дагэтуль старажытная земляная крэпасць. Гэта велічнае гарадзішча, якое народ называе Замкавай гарою. Яно акружана глыбокім ровам і валам... Цераз дарогу насупраць гарадзішча выцягнуліся ў лінію на паўвярсты восемдзесят тры курганы... Пра тыя курганы расказваюць: татары напалі на гэты край — палілі сёлы, рабавалі цэрквы, лютавалі над жанчынамі, дзецьмі і старымі. Хто з жыхароў змог — уцёк і хаваўся ў лесе. Татары пачалі іх выклікаць рознымі хрысціянскімі імёнамі, крычалі, што татары ўжо ўцяклі. Тыя, што падмануліся, загінулі ў страшэнных пакутах. Знішчаючы ўсё агнём і мячом, татары прыйшлі на берагі Віліі да вёскі Малмыгі. На другім беразе ракі стаяў яшчэ адзін вялікі атрад татараў. Бог паслаў на іх слепату, пакараўшы за лютаванне... Не пазнаўшы сваіх і падумаўшы, што гэта русіны, пачалі нішчыць адзін аднаго да апошняга. Ад іх і ўтварыліся курганы.



## ВІТАЎКА

Тут, дзе цэрква цяпер стаіць, колісь быў груд, а на тым грудзе стаяў двор дужа багатага баярына, на імя Віт. Жыў той Віт па праўдзе, у веры, і бог быў да яго дужа ласкаў. Вось жа пайшла трывога вялікая, што швед у наш край наехаў, і горш усякага татарына грабіць, і пустошыць, і над народам здзекуецца. Віт быў удавец і меў адну дачку, вельмі красную панну. Вітаў двор быў прыродаю схаваны ад ворага: спераду непраходным балотам, што і цяпер цягнецца абапал рэчкі Хамычкі, хоць шмат ужо сушэйшае, як за тым часам: а за балотам і за дваром цягнуліся бясконцыя, адвечныя лясы,— тая старана і цяпер пушчаю завецца. Віт з дачкою, гэта цямячы, былі спакойныя ў сваім двары. Але, знаць, слава пра яго багацце далёка ішла.

І вось раз ноччу, калі ў двары ўсе крэпка спалі, спаў і сам баярын Віт, спала і красная яго дачка, чуе гэта Віт праз сон зычны голас:

— Віце, Віце! Устань і выстралі!

Віт прахапіўся, аж нідзе нічога не чуваць. Ён ізноў стаў засынаць ды ізноў чуе:

— Віце, Віце! Устань і выстралі!

Ён і гэтым разам, прахапіўшыся і нідзе нічога не бачачы і не чуючы, стаў драмаць ды зноў чуе:

— Віце, Віце! Устань і выстралі!

Тады ён ужо мусіў устаць, узяўшы стрэльбу, выйшаў на двор і бачыць, што шведы ўжо гаспадараць у яго на двары. Ён, тое ўбачыўшы, дужа спало-

хаўся і як трымаў стрэльбу, так і выстраліў на вецер, а сам пабег у пакоі дачку будзіць. Толькі пабудзіў,— чуюць, на двары якісь гоман падняўся. А калі яны выйшлі паглядзець, бачаць — шведы ў вялікай заменшчы хочуць з двара ўцячы ды, не папаўшы ў вароты, ціснуцца на платы, душацца, калечацца, а каторым і ўдалося з двара выбрацца, тыя, чуваць, ратунку крычаць, папаўшы ў балота або ў рэчку. Так да раніцы ніводнага з тых шведаў жывога не засталося, бо ад Вітавага стрэлу ўсе пагінулі, каторыя ў двары падушыліся, каторыя ў рэчцы і балоце патапіліся, а каторыя патрапілі ў лес, тых звер люты парэзаў.

Вот на тую памяць паставіў ён сярод свайго двара цэркву мураваную і вельмі яе ўкрасіў.

Жывуць так Віт з сваёю дачкою, краснаю паннаю, ізноў у багацці і супакоі. Адно нячыстая сіла не дрэмле і пакусы вялікую сілу маюць. І ўпаў наш баярын у вялікі грэх, так што зямля нават здрыганулася. І аступіўся той узгорак, на каторым двор стаяў, і рынуліся мураваныя палацы, і пахавалі пад сабою грэшнага баярына. Дачка ж таго баярына зышла дзесь у далёкі манастыр і там веку даканала. Чэлядзь па свеце разышлася, а двор той штораз болей і болей стаў у балота апускацца і аднае ночы саўсім затануў. Завецца тое месца Вітаўка, або Вітавец.

Там і цяпер у балоце можна абмацаць кавалкі муру.



## БІТВА ПАД ЛЯСНОЙ

Швед, разбіты пад Лясной, трапіў у балота Чыстая Лужа. Там патанулі ў дрыгве яго гарматы, коні, людзі, а голоўны начальнік іх — Левенгаупт — кінуўся цераз Брадзілаў мост на Прапойск. Прапойскія перавознікі на вачах у шведаў панішчылі паромы на Сожы... У той самы час на левым баку Сожа, у Старынцы і Краснаполлі, з'явіліся казакі. Яны не дапусцілі шведаў да пераправы і пагналі іх далей, на Рудню... Тут шведы пакідалі свой вайсковы рыштунак у балота і разбегліся па лясах, ратуючыся ад пагоні рускіх... Начальнікі шведскія кінуліся да Сожа, закапалі там пад сасновым крыжам кучу золата і срэбра... І давай уцякаць услед за сваім каралём.



## ПРА ШВЕДАЎ

За адну вярсту ад мястэчка Лыскава, на ўсход, і цяпер ёсць невялікі лясок, які называюць Акопы. У час вайны рускіх са шведамі на Акопах засталося мноства чалавечых трупаў, якія тутэйшыя жыхары павінны былі пахаваць. Пераносячы ў магілу аднаго

забітага, заўважылі на пальцы дарагі пярсцёнак і сталі здымаць яго, але не змаглі, а таму адсеклі палец і толькі тады ўзялі пярсцёнак. Доўга пасля гэтага ў вёску прыходзіў па начах бяспалы мярцвяк і трывожыў людзей, асабліва ў той хаце, дзе быў пярсцёнак, пакуль яго разам з пальцавымі костачкамі не паклалі ў магілу.



## ПЯВУН-ЗВОН

Гадоў сотню, мо і болей таму, на беразе гэтага возера высіліся манастырскія муры. І даўней, як цяпер, людское жыццё не далятала да гэтых берагоў. Толькі птушкі пялі тутака ў летнюю пару ды вольны вецер гуляў на прасторы.

Адзін манастырскі звон гудзеў, разліваючыся ў паветры. Далёка навокал ляцелі прыгожыя гукі. І сціхала ўсё, слухаючы яго. Птушкі раптам абрывалі сваю песню. Сціхалі ў траве скакуны. Слухаў у імшары воўк. Нават вецер і той супакойваўся, хаваючыся ў гушчары. Так чароўна звінеў манастырскі звон. Манахі празвалі яго певуном. Доўгі час званіў так пявун на высокай вежы сярод манастырскага двору. Доўга ратавалася ў такой цішы шмат манахаў. Але неўзабаве заглянулі ў манастырскія муры трывожныя весткі.

— Ідуць французы.

Дзе пройдуць яны, ні-ні не застаецца, ніводнае

чалавечае душы, ніводнае будыніны, усё нішчыць іх меч і агонь.

Зышліся манахі на манастырскія двары і, памаліўшыся богу, пачалі раіцца, што рабіць. Доўга не маглі яны нічога прыдумаць, але вось выйшаў з грамады стары манах і пачаў гаварыць:

— Браты, захаваем увесь манастырскі скарб, а певуна аддадзім хвалям гэтага возера на захаванне і самі разойдземся хто ў які бок.

На гэта згадзіліся ўсе манахі.

Як узышло сонца на другі дзень, ужо ўвесь манастырскі скарб быў пахаваны, заставалася зняць певуна. Ізноў зышліся манахі на двары і, памаліўшыся богу, пачалі знімаць звон з вежы, на якой ён вісеў ужо колькі вякоў. І астатні раз з медных грудзей вырваўся чароўны кліч і заціх недзе далёка-далёка... Горка заплакалі манахі і панеслі звон да возера. Астатні раз пачуліся яго зыкі ў паветры, і пявун ціха апусціўся ў ваду. Манахі, сказаўшы певуну «прасці», разышліся ў розныя канцы свету.

І цяпер, кажуць, калі прыйсці перад усходам сонца да гэтага возера, дык чутна, як звоніць з вады пявун-звон.



## КАЗАЦКІ ГАЁК

Было гэта даўно, яшчэ за тым часам, як польскія паны з казакамі ваявалі. На поўдзень ад нашае вёскі цягнулася вялікае балота. У той час, як ваявалі

польскія паны супраць казакаў, каля нашае вёскі быў бой. Панскіх войск было болей, чым казакаў. Разбілі яны казацкі атрад. Аднаго казака пагналі паны ў тое балота. Казак доўга ехаў па балоце, і, калі даязджаў ужо да берага, балота пад ім правалілася, і багна праглынула ездака разам з канём. На тым месцы застаўся вялікі дол. Пасля ён парос высокім трысцём. Але на сярэдзіне долу заўсёды, зімою і летам, стаіць вада, не высыхае і не замярзае. Дол захаваўся і па сённяшні дзень як успамін аб даўно мінулай вайне. Людзі ж у памяць па казаку назвалі дол Казацкім гайком.



## ПАКАРАННЕ

Жыў у адным сяле шавец — чалавек дужа сярдзіты, п'яніца ды да таго яшчэ бедны-бедны. І адкуль быць багаццю! Работы не пільнаваўся, слова не трымаў... Паўдня шые, паўдня п'е; што заробіць — прапівае; няма грошай — апошнюю адзежыну прап'е. Прыйдзе п'яны дамоў — давай жонку біць. А жонка яго такая была добрая кабеціна, што цяперашнім светам не хутка знойдзеш. Работніца, як кажуць, дай бог усякаму: і дзяцей гадавала, і ў хаце прыбірала, і мужу дапамагала, шчыра гора гаравала. Увішная такая была, да ўсяго здатная.

І нацярпелася ж яна мукі ад свайго паганага мужа! Біў ён яе ці трэба, ці не трэба, біў чым папала: і пацягом, і капылом, і паленам — што ў рукі трапіць.

А яна хоць бы слова сказала: маўчыць, не пярэчыць, толькі цішком уздыхае.

Была ў тым царстве каралеўна-злосніца, нягодніца, палымянка, такая, што не дай бог. Усё ёй не ў лад, усё не пад нораў. Толькі і спакойна, калі спіць. Прачнецца — шыпіць, кіпіць, усіх муштруе. Не толькі сваіх дваровых — усё царства змардавала. То яна войны ваюе — людзей галушыць, то кажа горы капаць — золата шукаць, то людзей з месца на месца ганяе — сялібу мяняе, то ў няволю прадае, то цяжкія паборы накладае. Стогне народ, гаруе.

З'явіўся ў гэтых краях якісьці чарадзей, пашкадаваў ён народ, пашкадаваў і тую бедную шаўчыху. Зрабіў ён так, што шаўчыха апынулася ў каралеўскіх пакоях, а каралеўна — у шаўцовай хаце.

Прачнулася шаўчыха, усхапілася з пасцелі: ай, думае, заспала, трэба снеданне згатаваць, у хаце прыбраць, пакуль муж устане. Зірнула вакол — і чуць не абамлела. Дзе я, думае, ці не на тым свеце? Пакоі такія прыгожыя, так добра, як у раі. Можа, я сплю яшчэ? Не, не сплю.

А слугі на дыбачках пад дзвярыма паходжваюць, падслухоўваюць, ці не прачнулася каралеўна. Як толькі пачулі, што прачнулася, зайшлі пакаёўкі і пытаюцца: якое адзенне падаць?

— Якое дасце, дык і ладна,— кажа шаўчыха, і такім гэта голасам ласкавым, што слугі дзіву даюцца.

Дзень прайшоў — ніхто не быў біты, нікога ў астрог не пасадзілі, хто што зробіць, усё ладна. Па ўсім каралеўстве пайшла пагалоска, што каралеўна характар змяніла, стала ціхая, спакойная, жаласлівая, міласэрная. Усё каралеўства ўзрадавалася, бо ўсім стала лёгка жыць.

Ну, а той каралеўне прыйшлося зусім інакш. Звечара шавец быў на падпітку, моцна заснуў, бо

ведаў, што жонка парою разбудзіць. Прачнуўся ён, бачыць, зусім позна, а ў хаце не прыбрана, снеданне не зварана і жонка спіць. Як схапіла яго злосць, як схопіць ён капыл, як пачне мясіць бакі каралеўне:

— Уставай, паганая, каб ты акалела! Дзе дратва? Чаму не насучыла? Чаго разаспалася? Чаму ў хаце не прыбрана? — І лупіць, і лупіць.

А каралеўна нічога не разумее, толькі крычыць нема:

— Гвалт, ратуйце! Рэжуць, б'юць!

А шавец яшчэ больш ад гэтага ў злосць уваходзіць і яшчэ больш яе б'е. Збіў на горкі яблык, аж абамлела яна, аж сам шавец спужаўся, стаў вадой адліваць. Ачуняла яна трохі, ляжыць, стогне.

— Ну-ну! Годзе стагнаць, не пярвінка, уставай, работу рабі! — крычыць шавец.

— Я каралеўна! — кажа яна.

Ізноў зазлаваў шавец:

— Ты каралеўна? Я ж табе пакажу каралеўства!— І давай яе зноў біць.

Яна слуг заве на дапамогу, а ён больш б'е. Няма чаго рабіць, мусіла за работу брацца, але нічога яна не ўмее, а шавец за ўсё б'е.

Гора ўсяму навучыць! Навучылася і каралеўна мужыцкай рабоце і такая зрабілася ціхая, мяккая, як ядвабная.

Так і засталіся назаўсёды: шаўчыха — у палацы ў каралеўны, а лютая каралеўна — у хаце ў шаўца.



## МЕСЯЦ

Былі ў бацькі два сыны, два ўдалыя малойцы. Не захацелі яны жыць дома, рабіць чорную мужыцкую работу, а пайшлі ў свет шукаць лёгкага хлеба ды добрага жыцця. Выйшлі яны з дому разам дый пайшлі па адной дарозе, але хутка падышлі да раздарожжа. От большы і кажа:

— Чаго нам хадзіць разам? Разам мы знойдзем толькі адно дабро, а як пойдзем асобна, то можам трапіць на два.

— Хадзем асобна,— пагадзіўся малодшы брат,— але калі хто на што-небудзь натрапіць, што дабудзе, то тое будзе яго, тое зробіць яму славу.

Як сказалі яны, так і зрабілі. Большы пайшоў направа, а меншы — налева. Свет вялікі. Доўга яны хадзілі, доўга шукалі шчасця; кожны па-свойму шукаў тое, што яму падабалася. Большы брат прыйшоў у чужое царства, наняўся там на службу да аднаго багатага і знакамітага пана. А той пан ездзіў аж да самога цара дый браў з сабою свайго вернага ды лоўкага слугу. Пабачыў раз яго цар, упадабаў дый забраў да сябе. Жыве большы брат у цара пан панам, усяго яму даволі, хіба ж птушынага малака не хапае. Жыве, ніякай бяды не ведае.

Доўга хадзіў і малодшы брат па ўсім свеце, шмат бачыў і добрага і ліхога, але ліхога больш, чым добрага. Яму не хацелася сядзець ды спажываць тое дабро, якое меў, але хацелася ўсё ўбачыць, усё паспрабаваць, ці то салодкае, ці то горкае. От так ён

хадзіў як непрыкаяны, пакуль натрапіў і сам туды, дзе быў большы брат. І пачаў ён там вучыць людзей, як на свеце жыць, каб усім было добра, каб усе былі шчаслівыя. Пайшлі пра яго гаварыць вакол, пачалі да яго збірацца людзі ды слухаць разумныя рэчы. Дачуўся большы брат, пайшоў і ён паглядзець, які такі з'явіўся мудрэц, што вучыць ды бунтуе людзей. Прыйшоў, але не пазнаў брата, паслухаў дый данёс цару, што з'явіўся такі-сякі чалавек, які бунтуе народ. Узлаваўся цар дый загадаў схапіць бунтара. Захацеў большы брат яшчэ лепей выслужыцца перад царом, сабраў хеўру царскіх слуг, пайшоў ды забіў меншага брата. Але яму стала так прыкра і страшна, што не ведаў, куды дзецца.

От бяжыць ён аб ноч паўз лес, зірне на Месяц, аж і той бяжыць, пераймае яго. Ён стане, дык і Месяц стане. Ён пабяжыць, дык і Месяц пабяжыць. Бег ён, бег, пакуль не выбіўся з сілы ды не ўпаў. Ляжыць ён ды пазірае на Месяц. Прыгледзеўся, аж там і бачыць, як брат забівае брата. Тагды ён і здагадаўся, каго гэта забіў сваімі рукамі. Але тут і дух з яго далоў.

От з тых часоў заўсёды відаць, што на Месяцы стаіць брат над забітым братам.



## ВОСЬ ЯК ДАЎНЕЙ СТАРЫХ БАЦЬКОЎ КІДАЛІ

Даўней у нас, старажылы расказваюць, была такая пастанова: як чалавек пастарэе, то сын вывезе яго ў пушчу і кіне звярам.

Ну, аднаго разу вязе сын свайго бацьку (а ён яго, гэта, надта любіў, толькі што рабіць, калі такая пастанова).

Аж бацька кажа:

— Няўжо ты, сынку, мяне пакінеш?

— Я вас, татку, не пакіну, але вязу наўмысна, каб мяне не каралі, а ўночы вас забяру дамоў, і будзеце жыць у каморачцы.

Ну, ноч надышла, сын у лес паехаў зноў, узяў бацьку і прывёз дахаты.

Праз год здарылася, што град жыта выбіў і не было чым нават пасеяць.

Сын і кажа бацьку:

— Так і так, як мы жыць будзем?

— Не бядуй,— адказвае той,— сынку, як ты яшчэ быў малы, я гумно ставіў, а быў тады надта вялікі ўраджай, і я немалочаным жытам гумно крыў, цяпер абдзяры і будзеш насенне мець.

Прайшоў якісь час, адно ж хлеба няма.

І зноў кажа сын бацьку:

— Так і так...

— Не бядуй,— адказвае той,— сыночку, у хаце пад катухом шмат грошай я закапаў, дастань, то будзеш найбагацейшы за ўсіх гаспадароў.

І праўда, усе з голаду паміралі, а ён пірагі пёк. Людзі дзівіліся, адкуль гэта ён іх бярэ.

Тады няма куды дзявацца — прызнаўся.

З тае пары ўжо не кідалі дзеці старых бацькоў.



## АДКУЛЬ СЯЛЯНЕ І ПАНЫ

Бог зляпіў пана з пшанічнага цеста, а мужыка — з гліны ды, паклаўшы, каб сохлі, пайшоў абедаць. А пад той час — дзе ён узяўся! — прыбег сабака, просты мужыцкі падваротнік, панюхаў мужыка, шкрабануў усімі лапамі і, дабраўшыся да пана, чыста яго з'еў. Толькі стаў аблізвацца, калі вось прыходзіць Бог. Як пабачыў ён, што зрабілася, то, ухапіўшы сабаку за хвост, давай трусіць. З сабакі і пасыпаліся паны, і пабеглі куды папала, а дзе які спыняўся, так Бог яго і называў. Спыніўся пад бярозаю — пан Беразоўскі, пад дубам — пан Дубінскі, пад сасною — Сасноўскі, пад елкаю — Ельскі, пад алешынаю — Альшынскі, пад гарою — пан Падгорскі, а як каторы ачуўся за балотам або за ракою, то пан Заблоцкі і пан Зарэцкі.

Дык вось адкуль сяляне і паны.



## ПРА ПАНА КОШЧЫЦА

Блізу ста гадоў таму гаспадарыў у Мядзелі Кошчыц... Ён меў больш за ўсіх сваіх суседзяў маёнткаў і багацця. На адным з самых высокіх узгоркаў каля Мядзеля ён паставіў слуп, каб кожны, хто прыязджаў

сюды, здалёк ужо адчуваў яго магутнасць. На партрэце ён выглядаў поўным, чырванатварым мужчынам, амаль дзедам, з гладка паголеным тварам, але з каротка падстрыжанымі вусамі і з шырокаю істужкаю цераз плячо. Чалавек ён быў жудасны і як пан да сваіх прыгонных, і як гаспадар, і як сем'янін, асабліва да жонкі. Жонку ён тыраніў з той прычыны, што нарадзіла дачок і ніводнага сына. Яна колькі разоў ад яго збягала і хавалася ў суседзяў і сваякоў, якім пагражала наклікаць на сябе бяду. Нарэшце, хоць яна і нарадзіла яму сына, але хутка зусім збегла за мяжу, там і памерла, наказаўшы адаслаць сваё сэрца ў сярэбранай урне ў Мядзель.

Мала таго, што ён амаль штодзень катаваў сялян, дык яшчэ здзекаваўся з жанчын і дзяцей. Ен проста прагнуў крыві і смерці людзей. Забіць чалавека было ў яго справаю звычайнай..., такой лёгкаю, як пакруціць вус. Любімай яго забаваю было — злёгку падстрэльваць яўрэяў, яго цешылі людскія пакуты. Калі доўга не выпадала ўтварыць што-небудзь падобнае, ён пачынаў сумаваць, браў стрэльбу і выходзіў у лес на паляванне, не на звяроў — не, на людзей. Разбэшчаная дазвання натура гэтага чалавека нястрымна вяла яго да пагібельнага канца. Гэта ў хуткім часе адбылося...

Калі ў Кошчыца нарадзіўся сын, ён акружыў яго неймавернай раскошаю і пяшчотаю, але не зрабіўся ад гэтага менш крыважэрны. Калыску сыну выпісалі з Англіі, нібы сярэбраную, за дзесяць тысяч рублёў.

Аднойчы Кошчыц, звычайна злосны, убачыўшы, што набліжаецца навальніца, загадаў запрэгчы каляску і паехаў у лес. А незадоўга перад тым адзін з яго прыгонных сялян прабраўся ў лес, каб ссекчы дрэва на дровы, мяркуючы, што ў буру яго ніхто не ўбачыць. А Кошчыц угледзеў селяніна каля дрэва

і адразу застрэліў яго. У гэты ж момант пачалася страшэнная бура; дрэвы выварочвала з карэннем, у лесе зрабілася цёмна, як уначы, коні пачалі спатыкацца і не хацелі ісці. Раней Кошчыц толькі ў буру і любіў прагулянкі, але цяпер, пасля забойства, нейкая нястрыманая сіла пацягнула яго дадому; ён доўга працівіўся гэтаму, але не змог і загадаў як мага хутчэй ехаць назад.

Ледзьве пераступіўшы парог свайго дому, адчуў нешта нядобрае. Кінуўся ў пакой да свайго сына, аж той — мёртвы.

А здарылася вось што. Мамка дзіцяці, якой не даводзілася спаць ночы, бо дзіця ні на адну хвіліну не адступалася ад яе, была страшэнна стомлена. І вось, калі пан паехаў у лес, легла яна ў пасцель, каб не спаць, а хоць крышку адпачыць, а дзіця паклала каля сябе. Але супроць волі моцна заснула і заспала дзіця. Прачнулася, пабачыла, што яна нарабіла, і, ведаючы, што ёй за гэта будзе, пабегла ў возера тапіцца. Між тым Кошчыц, ашалеўшы ад лютасці, бегаў па пакоях, шукаючы мамку, а тады кінуўся за ёю, дагнаў амаль на самым беразе возера, і тут жа загадаў закапаць яе жыўцом у зямлю, і сам у гэтым памагаў.



## ПРА ПАНА ОШТАРПА

Шмат паноў валодала Дукорай. Ды самы жорсткі быў пан Оштарп. Яго імем маткі нават дзяцей пужалі.

Не баяўся ён людскога суда. І здзекі чыніў з народа страшэнныя.

Былі дажынкі. Хлопцы і дзяўчаты ішлі з панскага поля. А ўперадзе натоўпу — Фроська з Дукоркі. У вяночку з палёвых кветак, са снапом панскага жыта на руках.

Далі знаць Оштарпу, што ідуць дажынальнікі. Выйшаў ён на ганак, сеў у крэсла з фамільным гербам. Фроська ўкленчыла, працягнула сноп жыта, песняй пачала велічаць Оштарпа, прасіць, каб літасцівы быў пан да сваіх прыгонных.

Прыгожая была Фроська, вельмі прыгожая. І загарэліся старэчыя вочы. Паклікаў Оштарп лёкая Францішка, паціху пытае:

— Хто такая?

— Каваля Тодара дачка,— адказвае той,— у нядзелю вяселле яе з Васільком.

Нічога не сказаў тады Оштарп.

А ў нядзелю наляцелі на вясельны поезд гайдукі конныя, схапілі Фроську, памчалі ў палац да пана.

Назаўтра сядзеў Оштарп у сваім улюбёным крэсле. Стаяла такая спёка, і задрамаў гвалтаўнік, забыўшыся на Фроську. Бярэ тады дзяўчына кухонны нож, паціху падкрадаецца да пана і заносіць над ім руку. Ды закукавала зязюля ў заморскім гадзінніку. Уздрыганулася Фроська, стукнуў аб каменныя пліты нож. Падхапіўся Оштарп, закрычаў нема.

На стайні ў сцяне была ніша. І па загаду Оштарпа замуравалі туды Фроську жывую.

Васілёк сабраў сяброў, і, калі Оштарп вяртаўся з Мінска, падпілавалі хлопцы мост. Шаснаццаць коней цягнулі панскую карэту, што важыла дзвесце пудоў. І рынула яна разам з Оштарпам у Свіслач.



## ПРА ПАНЕ КАХАНКУ

Адзін з самых уладарных і багатых князёў Радзівілаў быў Караль Радзівіл. Сярод польскіх паноў яго звалі Круль Нясвіжа. А празвалі яго яшчэ Пане Каханку, бо гэта былі ўлюбёныя князевы словы. Нават да няшчаснага, засуджанага князем на смерць за якуюсь правіну, князь усё роўна казаў «Пане Каханку...».

Караль Радзівіл, кажуць, нідзе не вучыўся, жыў разгульна, характар меў жорсткі і падступны. Некаторыя знатныя сучаснікі сцвярджалі, што ў князя нораў, як у дзіка. Караль Радзівіл меў трох жонак, не прамінаў карыстацца правам «першай ночы» ў сваіх прыгонных, якіх меў вельмі шмат. Балі, якія наладжваў Пане Каханку, былі сапраўды каралеўскія па раскошы, а паляванні на звяроў здзіўлялі сваёй жорсткасцю.

На паляванне князь разам са сваімі гасцямі і чэляддзю выязджаў за Нясвіж у свой Альбянскі парк з паблізным лесам. Парк быў прарэзаны васьмю каналамі, якія сыходзіліся да вострава. Паляўнічыя, размясціўшыся там, на востраве, маглі без усялякай перашкоды расстрэльваць зацкаваных звяркоў, якія кружылі ўздоўж вострава. Пане Каханку забіваў па 27 ласёў і дзікоў зараз. У Альбянскі замак запрашалі і польскага караля Станіслава Панятоўскага. У часе адной з забаў Пане Каханку польскі кароль, убачыўшы, як мядзведзі рвуць ласіху, не вытрымаў жорсткага відовішча і стрэліў

у мядзведзя. На гэта Пане Каханку ўсміхнуўся і сказаў: «Баба ты, а не кароль!»

Пужаючы народ, забаўляўся Пане Каханку і яздою ў санках у мядзведжай запрэжцы шасцерыком па летняй дарозе, высыпанай соллю. Соль у тую пару была дарагая. Два з палowаю фунты каштавалі якраз столькі, колькі дванаццацігадовая прыгожая дзяўчына.



## ПРА ЧОРНУЮ ДАМУ

Князі Радзівілы, што валодалі Нясвіжскім замкам, належалі да вельмі старажытнага і знатнага роду. Многа пакаленняў гэтага роду каля пяцісот гадоў былі ўладарамі шматлікіх маёнткаў на Беларусі. Тое, што расказваюць, адбылося каля 50-х гадоў XVI ст.

Князёўна Барбара Радзівіл — сястра грознага князя Мікалая Чорнага рана пайшла замуж, але ўжо ў 22 гады заўдавела. Муж яе — князь — быў забіты на вайне. Маладая ўдава-княгіня жыла ў Вільні ў доме нябожчыка мужа. Барбара была вельмі прыгожая, разумная і адукаваная жанчына. У той самы час у Вільні жыў княжыч, пляменнік вялікага князя Літоўскага — Жыгімонт. Аднойчы юнак убачыў Барбару і закахаўся ў яе. Яны пачалі патаемна сустракацца. Малады княжыч быў наследнікам вялікага князя. Барбара была старэйшая за юнака на тры-чатыры гады. Можа, яна таксама шчыра кахала яго.

А можа, разумная і хітрая княгіня проста хацела зрабіцца жонкаю будучага караля.

І вось аднойчы, калі ў месячную салаўіную ноч закаханы пералез праз высокую каменную сцяну ў сад да сваёй любай, яго схапілі. Ён мусіў ажаніцца з княгіняй, і іх таемна звянчалі ў касцёле ў Вільні. Неўзабаве ён стаў польскім каралём Зыгмундам Аўгустам II. Але польскі сейм і духавенства не хацелі прызнаваць Барбару Радзівіл каралевай. Яны хацелі, каб польскай каралеваю стала багатая прынцэса, якая папоўніла б каралеўскі скарб. Але кароль Сігізмунд дабіўся, што яго жонка была прызнаная каралевай. Барбара была бяздзетная, і спадкаемца прастолу не было. А праз год пасля каранацыі яна памерла. Кажуць, што яе пад выглядам лекаў атруцілі. Пасля смерці Барбары кароль вельмі засумаваў і пакінуў цікавіцца дзяржаўнымі справамі. Жаніцца ён больш не хацеў, бо моцна кахаў Барбару. Прыдворныя і духоўнікі запрасілі з Англіі чарнакніжніка, каб той вызваў дух Барбары, які загадаў бы каралю жаніцца. І вось аднойчы ў цёмную залу, дзе сядзелі кароль і яго світа, увайшла дама, апранутая ва ўсё чорнае. Кароль кінуўся да яе і са словамі: «Басенька, мая Басенька» схапіў яе за рукі. Але адразу пачуўся выбух, і пакой запоўніўся трупным пахам. Гавораць, што дух Барбары ў вобразе Чорнай Дамы пасяліўся ў Нясвіжскім замку. Ходзіць сярод людзей і такое, што апоўначы месячнай ноччу ў замку з'яўляецца Чорная Дама. Яна нібы спрыяе закаханым і заступаецца за бяздзетных жанчын. Таму, на каго яна паглядзіць, выпадае шчасце.

* * *

Вось кажуць пра гэтую Чорную Даму людзі страхі нейкія: нібыта здань яе з'яўляецца па начах у былым замку князя Радзівіла. А хто запозніцца часам і ўначы ідзе каля замка ці ў яго двор, то, калі закалышацца галіна якая на дрэве, ці куст, або нешта затрашчыць, ці які другі таямнічы гук пойдзе, кажуць, вось Чорная Дама ходзіць па замку. Але каб бачыць, дык яе ніхто не бачыў. Гэтая Дама ніколі не хадзіла, нават як жывая была, бо хварэла моцна, і ад той хваробы не магла ні хадзіць, ні нават ляжаць. Казалі, што небарака і памерла седзячы. І пахавалі яе так, нібыта і ў труне яна сядзіць. Недзе гадоў за трыццаць таму (добра не памятаю) прыязджалі да нас нейкія людзі, казалі, вучоныя. Аглядалі радзівілаўскія пахаванні ў склепах Нясвіжскага касцёла. Адчынялі некаторыя мармуровыя княжыя труны. Цікавіліся і Чорнай Дамаю. Знайшлі яны ў склепе мармуровую труну з высокім, накшталт конуса, векам. Калі ж ускрылі, то ўбачылі, што пад гэтым высокім векам — звычайная труна, а пасярод яе стаяла прыгожая пазалочаная ваза з вянком кветак — вельмі тонкай работы рэч. Адчыніўшы труну Чорнай Дамы, угледзелі забальзамаваную жанчыну, адзетую ва ўсё чорнае. З таго часу ўжо болей не вераць у Чорную Даму, у тое, што ходзіць яна па радзівілаўскім замку. Ляжыць яна сабе, як і ўсе нябожчыкі там, дзе яе некалі пахавалі. Праўда, калі людзі хочуць каго напалохаць ці выпрабаваць яго смеласць, то і цяпер кажуць, што Чорная Дама па начах Нясвіжскі замак наведвае.



## ДУБ І САСНА

Па дарозе ў Нясвіж растуць, абняўшыся, два дрэвы — дуб і сасна. Кажуць, было гэта яшчэ за князем Радзівілам. У князя была прыгожая дачка, і пакахала яна пастуха. І пастух яе таксама кахаў. Але пажаніцца яны не маглі, князь пра такое і слухаць не хацеў. І вось яны рашылі ўцячы з замка. Даведаўшыся пра гэта, князь разгневаўся, кіламетраў за шэсць дагнаў іх са сваёю світаю. Не пашкадаваў князь ні дачкі, ні пастуха: там і пакончыў іх жыццё. На тым месцы вырас дуб і сасна, якія і цяпер растуць, навекі абняўшыся.



## ЛЕГЕНДА КАХАННЯ

Дзесьці непадалёк сустрэліся юнак і дзяўчына. Суджана было ім спаткацца, моцна пакахаць адно аднаго, ды не выпаў лёс застацца на ўсё жыццё разам. Бяды не здарылася б, каб не краса дзяўчыны. Была яна гнуткага стану, з доўгай чорнаю касою і вабным, нібы раніца, тварам. Заўважыў красуню адзін мецэнат з радзівілаўскіх палацаў. І вырашыў забраць «пекную» дзяўчыну іграць у панскіх «балетах».

Пахіліліся ў горы юнак і дзяўчына. Бязвоблачнае неба іх сонечных дзён зацягнулася чорнаю хмарай. Пра жаніцьбу нельга было і думаць. Набліжаўся дзень апошняй сустрэчы. Сэрцы, поўныя кахання, напаўняліся вялікім жалем і смуткам. І вось аднойчы юнак і дзяўчына спаткаліся, каб разлучыцца назаўсёды. Ніхто не чуў і не ведае, колькі слоў было сказана ім, колькі слёз пралілося з яе вачэй. Толькі дуб і сасна, што раслі побач, былі сведкамі гэтай сустрэчы. Нават іх праняў пякучы боль чалавечых сэрцаў, апёк агонь нязведанага пачуцця. У жальбе і спачуванні людскому гору дрэвы міжволі пахінуліся адно да аднаго, перапляліся ствaламі ў цесным абдымку, нібыта шчаслівыя ад таго, што ім не пагражала пакутлівая гадзіна расстання. Так і засталіся стаяць, перашэптваючыся ў кронах, поўныя таямнічага пачуцця...



## ПОМНІК ВЕРНАМУ КАХАННЮ

Было гэта вельмі-вельмі даўно ў маёнтку Алешкавічы. Суровы і хцівы пан быў у тыя часы. Многа слуг было ў гэтага пана. Жорстка распраўляўся пан са слугамі за кожную дробязь. Не любіў ён простага люду. Асабліва маладога дворніка Янкі. Дужы быў Янка, прыгожы, не адна дзяўчына ў наваколлі паглядала на яго.

Аднойчы Янка, як заўсёды, падмятаў двор. У той час па надворку праходзіла маладая паненка — дачка старога пана. Яна ўбачыла Янку і пакахала яго.

Часта сустракаліся яны, а потым вырашылі пажаніцца. Аб гэтым дазнаўся стары пан. Каб не зганьбіць свайго роду, ён вырашыў пакараць дачку і парабка самым суровым законам. Хлопца загадаў забіць. А на дачку сваю загадаў выкапаць яму і на ваччу людзей жывую закапаў.

Прайшоў час, шкада было пану дачкі, і ён паставіў на тым месцы высокі помнік.

Ён і цяпер стаіць, разбураны крыху, ля вёскі Ятвеск як памяць аб верным каханні.



## МАРЫСІН ПАРК

Навокал Нясвіжскага замка, які некалі належаў князям Радзівілам, раскінуўся на берагах возера стары дзіўна прыгожы парк. Тая яго частка, што на левым беразе возера, завецца Марысіным паркам. Вось што пра гэта расказваюць людзі.

Некалі ў князя Радзівіла была дачка Марыся, прыгожая і вясёлая. Тады ёй было шаснаццаць гадоў. Выхоўвалі яе так, як і належала выхоўваць князёўну. Верхавой яздзе яе вучыў прыгожы, смелы і спрытны хлопец з князевай прыслугі. Здарылася так, што маладыя людзі моцна пакахалі адно аднаго. Колькі працягнулася шчасце закаханых — невядома, толькі вось Марысю ўсваталі за аўстрыйскага прынца. Прынц гэты, вельмі знатны і багаты, быў стары і пляшывы. Марыся моцна тужыла і плакала. Князь даведаўся аб усім і адразу загадаў прыбраць хлоп-

ца, што адважыўся кахаць князеву дачку. Хлопец прапаў. Кажуць, што яго забілі.

Пасля каляд прызначылі вяселле з прынцам. Бедная Марыся не захацела жыць без каханага. Вось пайшла яна за возера ў парк і засталася там на ўсю доўгую і лютую калядную ноч. Пахавалі яе ў парку на тым самым месцы, дзе яна і памерла.

Другія кажуць, што не замерзла Марыся, а кінулася ўніз з высокай вежы Нясвіжскага замка.

У парку на левым беразе нясвіжскага возера, на паляне, якая звалася некалі Крыжовай, стаіць высокі каменны слуп на каменнай пліце. На ім адно слова «Марысін». Быў там некалі і фантан, з якога падалі тонкія струменьчыкі празрыстай крынічнай вады. Фантан гэты людзі называлі Марысіны слёзы.



## ПРА БЯРОЗУ МІЦКЕВІЧА

Развітваючыся са сваёй каханай Марыляй, Міцкевіч пасадзіў у Туганавіцкім парку, што непадалёку ад возера Свіцязь, бярозу: «Няхай расце на памяць аб тым, што былі часы, калі дзяўчаты выходзілі замуж не па любові». Марыля палівала гэту бярозку слязамі тугі. Дрэва вырасла стромкае. Аднойчы ноччу гэтую бярозу пашчапала маланка.

Дзяўчаты з навакольных вёсак вераць, аднак, што бяроза жыве. І той дзяўчыне, якая знойдзе яе, бяроза прынясе шчасце і сына — паэта.

На купалле замест таго, каб шукаць кветку папараці, дзяўчаты з навакольных вёсак шукаюць бярозу Міцкевіча.



## ПРА КНЯЗЯ СЛУЦКАГА І ЯГО ЗАМАК НА КНЯЗЬ-ВОЗЕРЫ

...Возера было велічэзнае, як мора, а пасля пачало сохнуць, змяншацца і ўрэшце зрабілася зусім маленечкае. Людзям жыць стала лепей, а рыбам горш. І вось астравок пасярэдзіне гэтага маленькага люстэрка вады аблюбаваў князь Алелькавіч-Слуцкі з пакалення Альгерда. Пабудаваў тут замак і стаў княжыць, распеpазаўся так, нібы над акругаю панаваў не чалавек, а д'ябал. А людзі цярпелі, мучыліся, елі кару. І праходзіў Падарожнік, які ведаў усё, і прайшоў паўсюль, і чытаў усе кнігі, нават Галубіную, што ўпала з неба. Убачыў, што не толькі яго ніхто не можа накарміць, а нават дзеці кладуцца спаць галодныя. І сказаў, што калі злaдзействам князя не будзе мяжы, калі яны «пройдуць прадзел», і людзі ўсё ж будуць цярпець, то рыбам зноў будзе добра, а людзям дрэнна. Ніхто яго не паслухаў.

А князь лютаваў. Узненавідзеў брата і пасадзіў яго ў вечна сырыя замкавыя сутарэнні, якія былі ніжэй возера. І сваю былую палюбоўніцу засадзіў туды. І нявесту аднаго хлопца, якая не хацела скарыцца князю, кінуў у тыя самыя падзямеллі. І многіх іншых людзей.

Тады прыйшла мяжа цярпенню зямлі. У адну ноч пачалі біць шалёныя маланкі, грымець перуны, аж калацілася цвердзь, а замак і ўсё наваколле пачалі правальвацца ў возера. Страшныя хвалі пабеглі на зямлю, злізвалі хаты, лясы. Замкавыя вежы зніклі

ў пене на вачах. А трэба сказаць, што цярпенне ў людзей скончылася ў тую самую ноч, і яны выйшлі з хат з доўбнямі і віламі, якраз тады, калі д'яблава гняздо пачало тануць. І вось тут, убачыўшы, што цярпенню людзей прыйшоў канец, зямля злітавалася. Сціхлі воды, і толькі замкавыя муры і вежы дазвання і назаўсёды зніклі пад вадой. Панаваць у замку, жыць у пакоях, слізгаць у байніцы сталі рыбы.



## ПРА ПАНА КАРПІНСКАГА І ЧОРТАВА ВАКНО

Недалёка ад вёскі — глыбокае возера. Раней яго не было. Тут, на гэтым месцы, стаяла высокая гара, сто метраў вышыні. На гары стаяў палац пана Карпінскага. Людзі служылі яму паншчыну. Ён быў лядачы ля людзей. Едзе ў карэце, трыбух выставіўшы, і гоніць на работу. А хай баба садзіць хлеб у печ, так як джгне бізуном праз галоў, так баба булку хлеба кіне пад печ і ляціць на работу ні піўшы, ні еўшы. Людзі яго не любілі і ўсяляк клялі. І, мусіць, праклялі, бо ён разам з палацам праваліўся скрозь зямлю.

Убачылі людзі на месцы палаца возера, узялі вяроўкі і пайшлі мераць яго глыбіню. Прывязалі камень да вяроўкі і давай апускаць у возера. Апускалі, апускалі, а дна ўсё няма. Прывязалі другую вяроўку, потым трэцюю, а да дна ўсё не дастаюць. Хацелі прывязаць ужо чацвёртую, як раптам з возера пачуўся голас:

— Не мерай вяроўкаю, бо памераем галоўкаю!

З таго часу больш ніхто не адважваўся мерачь глыбіню гэтага возера, толькі празвалі яго Чортавым вакном. І цяпер ёсць гэтае возера, яно ніколі не замярзае.



## ЯК ПРЫ ПАНАХ ЖЫЛОСЯ

У пана Барадоўскага быў вельмі вялікі маёнтак. У тым маёнтку працавалі сяляне штодня гадзін па семнаццаць — васемнаццаць. Галодныя, голыя, босыя працавалі, а палучаць нічога не палучалі.

Сялянскія жонкі пралі ніткі пану. Прыносілі іх і здавалі пані Ядзі, якая за самае малое карала сялян.

Вось адна сялянка Агата напрала ніткі, ды троху грубаватыя. За гэта пані Ядзя хапіла Агату за пальцы і павывернула іх.

Сялянка Марыя, у якой было пяцёра дзяцей, служыла ў пана ў доме.

Аднаго разу, метучы спальню, Марыя незнарок скінула са стала і разбіла гадзіннік.

Бедная сялянка спужалася і не ведала, што рабіць. Пайшла хавацца.

Лютыя панскія прыслужнікі знайшлі Марыю і пакаралі яе смерцю.

Засталося пяць бедных сіротак.

Сялянка Рыпіна, што жала на полі, пайшла дамоў карміць дзіця малое. За такую правінку пан загадаў свайму войту зараз жа гэтую сялянку даставіць у палац.

Даставілі яе ў палац.

Войты — злосныя, ходзяць з бізунамі ў руках вакол Рыпіны.

Надышла часіна злая, Рыпіну пачалі катаваць. Войтаўскія бізуны заляскалі па яе худых плячах.

Рыпіна нема закрычала: «Злітуйцеся! Паночкі, злітуйцеся!»

Войты нібы і не чулі, працягвалі біць Рыпіну.

Жанчына крычала-крычала і скора змоўкла — памерла.

Дзеці таксама паўміралі ад голаду і холаду...

Вось як жылі...



## КАМЕННАЯ ТРУНА

Непадалёку ад мястэчка Дзісна, з правага боку тракту, што ідзе на Германавічы, праязджаючы, убачыце стракатую горку, парослую лесам. Горка гэтая абкружана гразкім балотцам, а наверсе яе, на самым шчыце, ляжыць вялізарная каменная труна. Калі, хто і на якую памятку палажыў там гэтую труну, ніхто не ведае, а народ перадае з пакалення ў пакаленне цікавую гісторыю.

Калісь-то, даўным-даўно на горцы стаялі пышныя харомы багатых баяр Няміраў. Кругом — дубовы частакол і роў, заліты вадой. Далёка славіліся між ворагаў недаступнае няміраўскае гняздо, а яшчэ далей — іх родавая акружная слава. У збройніцкай святліцы няміраўскіх харомаў на пачэсным месцы

віселі каваны, упрыгожаны золатам шчыт і меч слаўнага Грымона Няміры, што хадзіў з Алегам на грэкаў. Гэткі-то быў род Няміраў.

Ды толькі цяперашні нашчадак роду, пануры Бутрым, пагоршыў славу роду свайго. Не перамогамі ў бітвах з ворагамі памнажаў ён сваё багацце, а разбоямі і крыўдай паднявольнага люду. У глыбокіх падхаромных падвалах поўна было закаваных людзей, якіх сваімі рукамі любіў катаваць Бутрым. Праходзячы міма няміраўскага двара, часта чулі людзі стогны і плач, а часам азёрныя хвалі выкідалі на бераг чалавечыя целы.

Цяжка жылося ў пануры́х няміраўскіх харомах Бутрымавай жонцы, прыгожай пані Мары. Аднойчы ў ноч маёвую пані Мары асабліва цяжка зрабілася ад горкае свае долі, у садку стоячы, у адчаі схіліла яна галаву на плячо баярчыцу Стаўру Рамашковічу і горка заплакала. У гэты момант у садок зайшоў баярын Бутрым. Грозна ён кінуў вокам на жонку і на маладога баярчыца. Моўчкі спыніўся, пляснуў у далоні. Калі ж з'явіліся стральцы яго — сказаў панура баярын:

— Сягоння ў нас будзе гучны банкет тут. Распаліце смалістыя лучніцы, пастаўце сталы цясовыя, наліце мёду і вінаў заморскіх поўныя вёдры ды паклічце скрыпача майго.

Мігам служба паставіла сталы і каля сталоў дубовыя лавы, абабітыя мядзведжымі шкурамі, а баярыну і яго жонцы прынеслі два глыбокія, у грэкаў прадзедамі здабытыя, аблямаваныя золатам крэслы. Смалістыя лучніцы ярка асвятлялі сад. Скрыпач са скрыпкай стаяў напагатове. Баярын падышоў да скрыпача, узяў з рук у яго скрыпку, крануў рукою струну і сарваў, крануў другую — і сарваў, і гэтак да апошняй.

— Кепскія ў цябе, малойча, струны,— сказаў баярын.— А я хачу сягоння музыкі ёмкай, гучнай. Гэй, верныя мне стральцы-патужнікі. Станько, Гойніч і Рэзан, вазьміце во гэтага падсуседзіча майго, Рамашковіча, за белыя плечы і нарабіце да банкету струн. А ты, красная пані, жонка мая, сядай побач са мной у залатое крэсла і, пакуль слугі мае зматаюць матэрыял на струны на тую во белую яблыньку, будзеш піці са мною, спраўляючы трызну па гладкім баярчыцу.

Страшныя нават у Бутрымавай дружыне Станько, Гойніч і Рэзан, бліснуўшы толькі вачыма, узяліся за крывавую справу: павалілі баярчыца на зямлю, распаролі жывот і пасля, водзячы вакол яблыні,— той самай, пад якой паўгадзіны таму назад ён стаяў з краснай паняй Марай,— наматвалі на яе струны...

Не мінула і гадзіны, як струны былі прамытыя, пасушаныя на агні і нацягнутыя на скрыпку.

Музыка зайграў вясёлую застольную песню, але ні песні той, ні голасу скрыпкі не чула красная пані Мара. Бледная, яна спакойна спала ў крэсле вечным сном: сэрца ў яе не вытрымала мужавага банкетнага пачастунку і разарвалася. Толькі баярын да ўсходу сонца трызнаваў з дружынай над маладымі нябожчыкамі, слухаючы плач скрыпкі ды заліваючы сумленне віном.

Многа гэткіх спраў рабіў баярын Бутрым і не суніма́ўся ў ліхадзействе сваім.

Кажуць, харомы потым праваліліся скрозь зямлю, а на месцы іх засталася каменная труна, у якой і цяпер ляжыць скамянелы баярын Бутрым Няміра.



## ПРЫЛУКІ

Не летась, не залетась, а калісь у старыну, як мы самі сабою яшчэ жылі, тое, што казаціму, было.

У адным месцы абапал Птыча-рэкі высяцца дзве горкі дужа красныя, а пасярод ракі востраў ляжыць. На той гарэ, што па правым беразе, стаяў двор знатнага баярына, іменем Яраслаў.

Дый красен жа той двор быў, увесь у садах, будынкі ўсе спраўныя былі, а ўвакруг тынам белым абведзены; ад двара дый да шляху былі прысады ліповыя.

Быў дзень ясны, харошы, ведама, як у пачатку лета бывае, калі яшчэ лукі зіхацяць кветкамі, птушкі заліваюцца рознымі галасамі, рыба ў рэчцы раз у раз плюхае, разганяючы шырока вакорыну, пчолы і ўсякія мошкі ды казяўкі цэлымі раямі завіхаюцца каля кветак. Дзе ні глянь — усюды жыццё кіпіць, а сам пазіраеш на ўсё гэта неяк радасна.

І вот па прысадах тых, у прыемным халадку, любуючыся прыродаю і самі сабою, прахаджваліся малады баярын Яраслаў са сваёю паняю, маладою жаною, краснаю Люблянаю. Ходзяць яны і цешацца, ажно дарога задуднела, і на запененым кані паявіўся ўвесь запылены княжны ганец і, сукланіўшыся баярству, павяшчае нядобрую навіну, што вораг рубеж перайшоў і дужа наш край пустошыць і што князь наказаў усім сваім баярам на вайну, чым дужы паспяшаць.

Баярын рады чыну даказаць, сабе славы пры-

дбаць; хутка сабраў сваю дружыну і паехаў.

Спачатку баярын слаў часта ганцоў да любай жонкі, а далей — ні ганцоў, ні самога штось не чутно стала. І затужыла вельмі красна пані Любляна — усё выходзіць на шлях ды ўдаль пазірае, ды ўсё дармо.

Прайшло лета, настала зіма, а любага Яраслава як няма, так і няма. Прыйшла ізноў вясна. Выйшла раз красна Любляна ў канец прысад і як толькі на шлях зірнула, так дужа і зрадзела: бачыць, коціць дружына, а наперад любы вараным канём едзе. Ды нядоўга яе радасць была, бо як той пад'ехаў бліжэй, пазнала, што гэта другі.

Той пад'ехаў, сукланіўся, а яна і думае: «Можа, ён што пра майго ведае?..» Просіць яго к сабе ў палацы спачыць трохі. Той рад, прыстае, ідзе за ёю ў святліцу. Яна, яго за стол пасадзіўшы, гукнула на слугі, сказала прынесці піва, мёду і ўсялякай стравы; стала яго частаваці і яго пытаці пра мужа любага. Той, пагадаўшы, так ёй павядае: «Не хочацца мне табе, красна пані, жалю задаваці, ды мушу... Вото ж бачыш, твой муж, а мой друг сардэчны, быў цяжка ў баі ранены і, уміраючы, кажа мне так: «Слухай, дружа! У мяне е жонка, дужа красная пані, а ты яшчэ не жанаты, так успакой мяне перад смерцю, бо мне скора канец,— пакляніся заступіці ёй маё месца!» Што ж я меў рабіць? Мусіў прысягнуць, і цяпер ад прысягі адступіціся мне нельга... Так пані няхай мяне выбачыць і будзе прыхільна!»

Тая тое як учула, давай плакаць, галасіць і слухаць яго не хоча.

Плакала яна дзень, плакала другі, а на трэці і падумала: «І чаго я гэтак плачу?.. Што я тым памагу?.. Адно лічка сваё красна папсоваю...» — І на чацвёрты дзень гутарку з ім прыязну павяла, а на пяты — так і жартаваць сталі, а далей і пабраліся.

Прайшло ізноў лета, прайшла зіма, а за зімою — вясна, а за вясною і лета настала. Сядзяць гэта той прыезджы баярын з краснаю Люблянаю, як галубкі ў парачцы, і сабою цешацца ды любуюцца. Ажно разам Любляна як крыкне і, хапіўшыся за сэрца, абамлела. Той — зірк: бачыць — перад ім Яраслаў стаіць...

Хапіліся спярша за шаблі, а далей Яраслаў, адумаўшыся, кажа: «Адзін з нас павінен умерці, дык няхай Бог судзіць каму. Вазьмі ты сабе лук і сагайдак з стрэламі і ідзі на гару за рэчку, а я вазьму сабе і стану на гэтай гары, і будзем страляцца».

Як сказаў, так і ўчынілі: выпусцілі па страле — нічога, выпусцілі па другой — нічога, а па трэцяй як выпусцілі, так абодва аж асунуліся, як два падкошаныя каласочкі.

Тое месца з тых пор Прылукамі стала звацца. І цяпер там стаяць мураваныя харомы і ліповыя прысады, і жыве там пан дужа багаты, толькі той пан цяперашні не наш, а прышлы з памор'я, але дабраваты сабе.



## ЧАМУ КАЖУЦЬ: У ПАДЦАЦКІХ ЖЫВЫМІ ХАВАЮЦЬ

Яшчэ ў далёкія-далёкія часы, калі сярод людзей розныя пошасці хадзілі, у вёсцы Падцацкія здарылася такая гісторыя. Каб спасціся ад нейкай страшэннай хваробы, што касіла людзей, мусіць, халера, ці

што, жыхары вёскі надумаліся каго-небудзь закапаць у зямлю жывым і гэтак уратавацца ад ліха. Зразумела, нікому не хацелася ні самому паміраць, ні страціць сваіх родных. Тады вырашылі закапаць сірату. Вось ад таго і ідзе нядобрая слава пра вёску Падцацкія:

— А, гэта там, дзе жывымі хаваюць?



## АДКУЛЬ ЗЯЗЮЛЯ ЎЗЯЛАСЯ

Калісь праз вякі, у нашым краі, жыў багаты зямянін,— Властам яго звалі, і меў ён тры дачкі: Мляву, Здану і Зязюлю, як кветкі красныя, ладныя, як птушкі, але крашчая за ўсіх, то Зязюля была. За гэта завідушча Млява проціў Зязюлі зло на вуме мела.

Раз, пад вечар, пасля спякоты, прыбягае Млява да сясцёр і кажа:

— Сястрычкі, кветачкі, пойдзема на возера купацца!

Тыя, вядома, як дзяўчаты,— рады падурэць, кінуліся навыперадкі. Зязюля апярэдзіла ўсіх, бо спраўнейшая была; за ёю і Здана пабегла.

Кінуўшы вопраткі на беразе, паскакалі ў ваду і давай плёскацца, а Млява тым часам спраўне ўвінулася: вопратку Зязюльчыну скраўшы, патапіла ў возера і сама, як бы нічога не ведаючы, палезла купацца.

Купаюцца гэта яны, ажно загрымела — зірк! — бура, навальніца надходзіць.

— Сястрыцы, уцякайма! — крычыць Млява і, не чакаючы другіх, схапіўшы вопратку, духам дамоў. За ёю і Здана паджгала. А Зязюля ходзіць па беразе, рукі ломіць, усё вопраткі шукае, шукае ды глядзіць. А вецер-то свішча, а на неба аж страх глянуць: хмары з рэхатам адна на другую пруцца, барукаюцца, варочаюцца,— няйнача як у гаршку. Ходзіць Зязюля, галосячы,— зірк! — з-за куста паніч выходзіць — красен, што крашчага ў свеце не знайсці, і вопратку Зязюльчыну ў руках трымае. Зязюлька хацела ўцякаці, але, глянуўшы яму ў вочы, стала як прыкована і глядзіць, вачэй адвесці не можа; штось да яго цягне, а сэрца як бы чым цёплым аблілося, а яшчэ як загаварыў, дык Зязюля не вытрымала — кінулася яму на шыю. І забраў той закляты княжыч Зязюлю да сябе ў крыштальныя палацы, у возера.

Жывуць яны ў шчасці, што лепшага і не згадаць, год, другі і трэці, а далей — згадала Зязюля бацькоў, і захацелася ёй пераведаць іх, і просіць мужа:

— Саколе мой ясны, пусці мяне дадому збегаць, бацьку ды маці пацешыць!

Той хоць нехаця, але дазволіў і кажа:

— Глядзі, Зязюля, не баўся, перад ноччу назад вяртайся, і як прыйдзеш на бераг, то клікні тройчы: «Якуб!» — і выплыве вуж вялізны, а ты не лякайся яго, бо то я буду і забяру цябе!

Прыйшла гэта Зязюля к бацькам, а тыя радыя — не знаюць, як яе прымаці: на кут пасадзіўшы, белым пірагом ды салодкім мёдам трактавалі. А Мляву, гледзячы на тое, яшчэ горш зло бярэ. Як толькі маці з Зязюляю засталіся самі ўдзвюх, стала маці пытаціся, дзе яна жыве, як і з кім, як яго зваці. Тая, бедная, вядома, як матцы, і выказала ўсё, а таго не ведала, што Млява пад дзвярыма ўсё чуе. Прагаварылі так да вечара і не агледзеліся, як стала цямнець.

Тады бачыць Млява, што Зязюля да мужа збіраецца, сама, узяўшы тапор, чым дужа — на бераг і кліча:

— Якуб! Якуб! Якуб!

Ён, небарака, не распазнаўшы голасу, выплыў, а яна як трэсне тапаром яго па галаве, так напалам і рассекла, а сама наўцёкі. Счакаўшы крыху, прыбягае і Зязюля, але, знаць, сэрцам чуе нядолю, бо і губы пабялелі, і ручкі чагось трасуцца, а сэрца аж здалёк чуваць, як калоціцца. Стала на беразе і кліча:

— Якуб! Якуб! Якуб!

І жаласць бярэ яе вялікая... З той вялікай жаласці зрабілася яна птушачкай, і ляціць Зязюля на вярбу, з вярбы ў лес, і так з дрэва на дрэва ляціць і кліча:

— Якуб! Якуб! Якуб!



## ПРА ЗЯЗЮЛЮ

Жылі-былі брат і сястра. Брат быў вельмі бедны, а сястра — дужа багатая. Аднойчы пайшоў брат да сястры, каб хоць кавалкам хлеба дапамагла. Сястра скупая была, сказала, што ключы ад клеці згубіла. І пачала яна нібы шукаць ключы, а брат стаяў, стаяў пад акном, чакаў, чакаў і нарэшце не вытрымаў і пайшоў. На дарозе паваліўся і памёр ад голаду. Сястра зразумела, што зрабіла дрэнна, і стала клікаць брата:

— Якуб, Якуб, вярніся, ключы знайшліся.

Праз сваю скупасць яна зрабілася зязюляй і цяпер у весь час кліча:

— Якуб, Якуб!
Толькі чуваць:
— Ку-ку, ку-ку!



## ЯК ДЗЕЦІ ГАДАВАЛІСЯ

Мая бабка Мар'яна доўга працавала за прыгонам.

Тады прымушалі працаваць усіх сялян, нават жанчын з маленькімі дзецьмі. Дзяцей ніхто не забаўляў, а калі яны крычалі, галодныя, іх запіралі ў ёўню.

Войт казаў:

— Хай там поўзаюць. Заснуць і плакаць не будуць.

І прыходзілася маткам са слязамі на вачах заносіць маленькіх дзяцей у цёмную ёўню.

Там яны поўзалі ўпоцемку і крычалі да хрыпоткі.

Пасля такіх «доглядаў» дзеці былі хрыплыя ад крыку.



## ЯК МЫ ВУЧЫЛІСЯ

Бацька наш памёр, пакінуў сям'ю з шасці душ. Працаваў я адзін — грузіў дровы на станцыі, а маці дома ўвіхалася каля астатніх пяці маленькіх.

Ніхто з нас не вучыўся.

Блізка ад нашага дома была царква. Там поп адчыніў школу. Звалі яе васкрэснай, бо займаліся па нядзелях, адзін раз на тыдзень.

Маці аддала мяне ў гэтую школу. Там чыталі псалтыр, часаслоў; навука была — нікуды. Вучыў нас айцец Якаў — худы і высокі поп, злосны, як яшчарка. Калі не вывучыш што-небудзь, дык ён абавязкова лінейкай па плячах лясне. Але больш за ўсё ён любіў цягаць за валасы.

— Я вам,— кажа,— пакажу зараз гару Арарат,— і цягне за валасы, ажно свет з авечы хвост здаецца.

Хлопцы, вучні нашай школы, дзеці рабочых, былі ціхія і забітыя і часта заплаканыя ішлі дадому.

Я быў хлопец зухавы, і надумаліся мы з Антонам зрабіць папу такую штуку.

Зарабляў я ў дзень трыццаць капеек. Маці аддаў тады дваццаць, ■ дзесяць капеек узяў сабе.

Раніцай, як толькі хлопцы пайшлі ў школу, я сабраў усіх, хто быў з доўгімі валасамі, і павёў да цырульніка, які жыў каля царквы. Ён за гэтыя грошы і пастрыг усіх пад першы нумар.

Прыйшлі ў школу. Сядзім, чакаем папа. Заходзіць.

А мы пацціху смяёмся ў кулак. Пытаецца поп у Янкі:

— Вывучыў?

Той вочы апусціў да зямлі.

— Не ведаю,— кажа,— урока.

Бацюшка падышоў, толькі нацэліўся за чупрыну ўзяць, аж яе і няма.

Раззлаваўся ён, глядзіць — усе голеныя. І тут усё зразумеў.

Але хітры поп з таго часу пачаў цягаць нас за вушы.

Вось так і вучыліся.



## ЗДАРЭННЕ З ПРЫСТАВАМ

Жыў у нашым Пінску ў старыя часы адзін царскі прыстаў. Тоўсты быў, вусаты, важны. Такое пуза адгадаваў сабе, не дай бог! Усе называлі яго Бочкай, а якое было сапраўднае прозвішча — ніхто і не помніў. Неяк паехаў гэты Бочка з Пінска ў адну далёкую вёску, бо Пінскі павет быў, каб ведалі, надта вялікі. Даўно збіраўся прыстаў у тую вёску, ды ўсё не было як. Нарэшце паехаў. Мабыць, не толькі па службовай справе. Была, напэўна, і яшчэ нейкая прыватная выгода. Не такі той прыстаў быў дурань, каб ехаць у далёкую і нялёгкую дарогу толькі дзеля службы, без сваёй патрэбы. Кажуць, быў вялікі хабарнік гэты царскі служка. Цягнуў і з жывога і з мёртвага, хто яго не ведаў! Але як бы там ні было, паехаў. І паехаў, трэба вам сказаць, позняй восенню, калі трохі падмерзла. Дачакаўся першых марозаў. Паехаў і знік без вестак. Назад не вярнуўся. Дома чакаюць, на службе чакаюць, а яго ўсё няма ды няма. Прайшлі зіма, вясна, лета, восень. Прystава няма. Толькі пад канец другой зімы вярнуўся Бочка ў Пінск.

А было так, што да той далёкай вёскі дабраўся Бочка зімовай дарогаю, цераз замёрзлае балота, а калі хацеў вярнуцца ў Пінск, то пачалася адліга і трымалася доўга. Зіма выпала цёплая, няўстойлівая. Балота не замярзала, а пра вясну і казаць няма чаго. Усё наваколле надоўга было затоплена. Вы ж ведаеце, як у нас бывае вясной, калі ўсе нашы рэкі

ды рэчкі выйдуць з берагоў, ды злучацца між сабою, ды зальюць разам вялікія прасторы! Ого! Усю балоцістую нашу мясцовасць ператвораць у такую топкую дрыгву, што ні прайсці, ні праехаць, ні пераплысці. Пеша не пройдзеш, бо загразнеш у багне, і на лодцы не перабярэшся, бо вада, хоць і вялікая, але ж амаль усюды такая неглыбокая, што лодка не пройдзе. Не ўсюды прабярэшся і не на ўсякай лодцы... Вось і не мог той прыстаў выбрацца з вёскі, хоць і быў па тым часе немалы начальнік. Так і жыў там, на невялікім пясчаным астраўку, да наступнай зімы. А што яму? Піў, пэўне, гарэлку, еў кілбасы ды вяндліну, ласаваўся мёдам. Сёння ў адной хаце, заўтра ў другой. Давалі ж, мусіць, бясплатна. Заўсёды знойдуцца такія, каму трэба пачаставаць начальства! Нарэшце надышлі вялікія маразы і дрыгва замерзла як мае быць. Цэлы год мусіў гэтага чакаць!.. Не было ж тады ні добрых дарог, ні машын, ні самалётаў. Дзіва што — такія нетры! Як у нас кажуць, хоць ты цалы месёнц ідзі, то да краю нігды не дацягнешся! Ад вёскі да вёскі, ад астраўка да астраўка, зімою вёрстаў пятнаццаць, калі наўпрост, па лёдзе, цераз балота. А каб трапіць летам з адной вёскі ў другую, трэба ехаць у абход усе дзвесце, як не трыста вёрстаў, калі ласка!..



## ПАН БАГУШЭВІЧ ВАС СЛУХАЕ

Аднаго разу да Багушэвіча ў Кушляны прыехаў здалёк якісьці нетутэйшы панок па нейкай судовай

справе. Падышоў ён да Багушэвічавай хаты — бачыць чалавека з раскідзістай барадой у грубай сялянскай світцы і пытаецца ў яго, дзе ён можа ўбачыць пана Багушэвіча.

Чалавек у світцы хітра прыжмураным вокам кінуў на залётнага госця і кажа:

— Зараз я яго паклічу.

Праз колькі хвілін на парозе з'явіўся той самы прысадзісты чалавек з вялікай раскідзістай барадою, але ўжо ў чорным адвакацкім фраку і наўмысна ўрачыста апавясціў:

— Калі ласка, пан Багушэвіч вас слухае.



## ДЗЯДЗІНА

Ну і дзядзіна ў мяне была, а багатая дык багатая!

Было ў яе сем моргаў зямлі, адна каза, сем хлявоў, тры гумны, і ўсе поўныя: у адным мак, у другім — так, а ў трэцім цапы віселі. А як пойдзе, бывала, дзядзіна казу даіць, ды покуль казу найдзе, аж у мазгі зайдзе, а як зачне яе даіць, дык нясуць малако цэбрамі, вёдрамі, кадушкамі...

А масла дык білі на гумнішчы цапамі і маслянку ў застрэшкі змяталі; бедныя людзі дык ішлі з мяшкамі і з гаршкамі, з рэзгінамі: хто з чым прыйшоў, той з тым пайшоў.

А парсюкі кормленыя ў дзядзіны дык такія былі, што праз парог не маглі пралезці; але пад парогам дзірачка была, дык туды лазілі.

А грэчка ў маёй дзядзіны як зарадзіла! Вось дару божага было!

Калі палажылі стог на слупе ля прыпечка, дык вось быў стог!

Але зрабілася няшчасце: дзядзіна хусту вязала, хтосьці дзвярамі стукнуў, стог перавярнуўся ў начоўкі, і ратуначку не было!

Вось тут мая дзядзіна і збяднела. А дзяцей — з асьмін, а карміць няма чым.

Убачыўшы гэта, панскі аліндар як прыстаў да дзядзіны:

— Прадай казу ды прадай!

Ведаў, каб яго немач, што добрая каза.

Дзядзіна думала, думала — глядзіць, што няма чым карміць, і прадала казу.

Аліндар — казу браць, а каза ў лес наўцёкі, а воўк ды з лесу, ды яе за горла.

Покуль мы даляцелі, яна толькі крыкнула: «Мааагда!» — і зарэзаў яе воўк. Не так дзядзіне шкада было той казы, як таго, што каза імя яе ведала...



## БОГАМАЛЕННЕ

Жыў адзін чалавек, што не ўмеў Богу маліцца і ў царкву ніколі не хадзіў, а добрай душы быў чалавек. Жыў ён у адзіноце, нікому злога не рабіў, не з'ядаў чужога дабра, не піў сіроцкіх слёз, не смактаў людскога поту. З усходам сонца ўставаў, браўся за работу, працаваў шчыра, да поту; з заходам спаць ла-

жыўся. Устаўшы ранкам і кладучыся спаць, пойдзе, бывала, к калодзе і скача цераз яе, скача і прыгаворвае:

— Табе, божа! Мне, божа! Табе, божа! Мне, божа!

Раз трыццаць пераскочыць калоду — і ўсё яго богамаленне. Доўгага веку дажыўся ён, і людзі яго шанавалі за справядлівасць. Але, вядома, дурняў ёсць нямала: думалі, што кепска яму будзе на тым свеце за тое, што ён не ўмее Богу маліцца і ў царкву не ходзіць. І сталі гэта яго ўгаворваць.

— Схадзі ды схадзі ў царкву хоць раз у сваім жыцці, без гэтага,— кажуць,— і ў рай не пападзеш.

Паслухаў ён людзей і пайшоў з імі на Вялікдзень у царкву. Каб хутчэй дайсці, пайшлі яны пуцінкамі. Прыходзяць к рацэ, цераз раку моста не было, а так, ляжала кладачка. І сталі людзі пераходзіць на другі бераг па кладачцы, а гэты чалавек пайшоў проста па вадзе, як па сухому. Перайшоў і нават ног не замачыў. Людзі аж здзівіліся.

Прыйшлі ў царкву. Народу сабралася многа-многа — вядома, Вялікдзень. Усе гэта ціснуцца ўперад, штурхаюць адзін аднаго, самі не моляцца і другім не даюць. Бабы сабраліся ў кутку і, як тыя сарокі, сакочуць, адна адну абгаворваюць, толькі сваркі заводзяць, а іншыя дрэмлюць стоячы. Хлопцы з дзяўчатамі смяюцца. Папы бяруць на малебны, гандлююць, свянцонае свенцяць, мяркуюць, каб сабе болей адрэзаць: вядома, паповы вочы ніколі не поўны.

Вось табе і богамаленне, і ратунак душы. Адзін сорам...

Скончылася богамаленне, пайшлі людзі дамоў разгаўляцца. Ідучы назад, паспрабаваў гэты чалавек перайсці цераз раку — і да каленяў апынуўся ў вадзе. Аж заплакаў, небарака, азірнуўся ён да людзей і кажа:

— Добрыя людзі, ішоў я ў царкву, грахоў не меў, з царквы вяртаюся і грахі нясу: гэта яны мяне ў ваду пацягнулі. Мабыць, што ў царкве і я саграшыў.



## ЯК МІКОЛА І ПЁТР КОНЕЙ НА УКРАІНЕ КУПЛЯЛІ

Бог завёў свет не так, каб усюды ўсяго было пароўну: людзей, рагатай жывёлы, коней. Спачатку было ўсяго болей на Украіне.

Надышла вясна. Бачыць Бог, што беларускаму мужычку араць няма чым — коней няма. Не прападаць жа, хоць сабе і нашаму брату, з голаду.

Даў Бог Міколу і апосталу Пятру грошай і паслаў іх абодвух на Украіну купляць коней.

Мікола надта любіў выпіць, і зайшлі яны з Пятром у карчму. Узялі паўштоф, другі. Як завяло ў Міколы ў галаве, дык і забыўся ён пра ўсё, прапіў грошы, што яму Бог даў,— да капейкі. Няма за што цяпер Міколу з Пятром і коней купляць...

Глядзяць, аж бягуць два табуны коней. Мікола сеў на першага каня і пагнаў табун перад сабою, а Пётр ускочыў на каня з другога табуна і таксама пагнаў перад сабою.

Гоняць яны гэтых коней і думаюць: усё чыста зрабілі, бачыць ніхто не бачыў, акрамя толькі вароны, сарокі і зязюлі...

Прыводзяць яны коней да Бога. Вось ён і пытае ў іх:

— Вы гэтых коней купілі?
— Купілі.
— А сведкі ў вас былі, як куплялі?
— Не, сведкаў не было.

Тут прылятае варона (яны пра варону і забыліся) і крычыць:

— Укр-алі, укр-алі.— Сядзіць на галінцы ды сваё гарлапаніць.

З'явілася сарока.

— Што ты скажаш, сарока?

Сарока з жэрдачкі на жэрдачку пераскоквае і крычыць:

— За гэта ім трэба чы, чы, чы.

Нарэшце прыляцела зязюля і пачала заліваць:

— Яны купілі ды ку-у-пі-лі, ды ку-у-пі-лі.

Пётр і Мікола ўзрадаваліся, што хоць зязюля іх руку трымае. Тады гавораць:

— Вось ты кукуй толькі да Пятра, а там табе далей свабодна. Вы ж, сарока і варона, што так сказалі,— вам увесь год крычаць, не будзе роздыху ніколі.

Дык вось як Мікола з Пятром ашуканствам займаліся.



## ІЛЬЯ І ПЯТРО

Было гэта тады, калі аддаў Бог увесь свет Ільі і Пятру. Але, ведама, дзе два паны, там ніколі ладу няма. Адзін пасылае дождж, а другі — пагоду. Плачуць хмары, не ведаюць, што рабіць, каго слухаць.

Пойдзе дождж, Пятро бяжыць ды крычыць, лаецца на чым свет стаіць:

— Што вы робіце, нашто мочыце сена, цяпер жа людзі косяць!

— Нам,— кажуць хмары,— Ілья загадаў.

— Ах, вы,— лаецца Пятро,— я вам пакажу Ілью. Ілья заўсёды наробіць гнілля.

Ухопіць Пятро мятлу і паразганяе хмары па кутках, неба чысценька падмяце.

Ды вось, ні стуль ні ссюль тарахціць, едзе Ілья крычыць, як на жывот, аж неба і зямля дрыжаць. Хмары таўкуцца, бы непрытомныя, вылазяць з куткоў, і ўжо ліне такі дождж, што не толькі берагі, але і груды паплывуць.

Жаляцца людзі Богу, што паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трасуцца, жаляцца і просяць, каб Бог даў пагоду.

Прызывае Бог Ілью, сварыцца на яго, а той кажа, што столькі развялося нечысці, трэба яе громам пабіць, бо ўвесь свет запаганіць.

Прызывае Бог Пятра і кажа, што няхай Ілья трохі папалюе чарцей.

А Ілья тым часам падымае такія грымоты, аж зямля стогне: няма ні дня, ні ночы; хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, як у гаршку; маланка бліскае, аж у вачах цёмна робіцца, а пярун смаліць раз-поразу, паласуе хвоі і дубы ды паліць будоўлю альбо стагі.

А Ілья ездзіць па небе — камандуе:

— Так-так-так! Го-го-го! Яшчэ, яшчэ... Лупі, лупі яго... От так-так... Го-го-го! Лясні яго па карку! У патыліцу, у патыліцу лупі яго, гада! Трах-трах! Так-так-так! Го-го-го!

Просяць людзі напрамілы бог, каб уняліся грымоты, а Ілья не слухае.

Ходзіць Пятро ды плюецца бяззубым ротам ад злосці.

Нацешыцца Ілья, пачысціць сваю каляску і паедзе да сонейка ў госці.

Тут Пятро падмяце неба ды давай сушыць зямлю.

От надыходзіць пара сеяць жыта, а зямля сухая, як прысак,— зноў бяда! Бяда ўжо, што няма дажджу. Ілья сваволіць сабе з сонейкам, а пра зямлю забыўся.

Не маюць вока адзін на аднаго Ілья і Пятро, сярдзітыя, баяцца, каб і не сустрэцца.

Але вось раз уздумалі яны пахадзіць па зямлі, папытаць у людзей, каго тыя больш любяць: Пятра ці Ілью? Як сышлі яны на зямлю, так па немалым часе і сустрэліся.

Ідуць разам і спрачаюцца: Пятро кажа, што яго больш любяць людзі, а Ілья кажа — яго.

Як дакапацца, чыя праўда?

Бачаць яны, аж чалавек сее грэчку.

— От,— кажа Пятро,— давай папытаем, каго мужыкі больш любяць.

— Папытаем,— згаджаецца Ілья.

— Памагай Бог! — кажа Пятро.

— Дзякаваць...

— Скажы, добры чалавеча, каго вы больш любіце: Пятра ці Ілью?

Мужык зняў з плячэй сявок, паставіў яго на зямлю, пачухаў патыліцу дый кажа:

— А багі яго знаюць, каго мы больш любім: мо Ілью, мо Паўла-Пятра.

— Ты не гарадзі плота,— гаворыць Пятро,— кажы проста.

— Ілья і Павел-Пятро — добрыя святкі: мы іх і любім.

— А каго больш?

Бачыць мужык, што тут не выкруціцца, і кажа:

— Пэўне ж, Паўла-Пятра.

Аж затросся Ілья ад злосці.

Пайшлі яны далей, а Ілья і кажа.

— Ото ж спяку за гэта яму ніву — нічога не зародзіць.

— А я намачу і зараджу,— кажа Пятро.

— Калі так, дык я зраблю вось як: хто першы ўкусіць з гэтай нівы перапеч, той адразу ж і падавіцца.

Ухмыльнуўся Пятро, і пайшлі яны далей.

Было вельмі добрае тое лета: аб дзень пагода, цяпло, а ўначы ці цёплая раса, ці ціхенькі цёплы дожджык.

Расце ўсё як на дражджах; здаецца, пасадзі на полі дзіця, дык і тое вырасце.

Зарадзіла грэчка ў пояс. Набіў мужык паўгумна.

Вось намалаціў ён грэчкі, намалоў, і напякла баба свежых перапеч поўну печ.

На той час прыходзяць у сяло Ілья з Пятром і заначавалі ў таго мужыка.

Забыўся Ілья, не пазнаў яго.

Селі яны вячэраць.

— Вось жа, дзякаваць Богу,— кажа мужык,— зарадзіла цяпер грэчка, паспытайце, госцейкі, свежых перапеч.

А Ілья такі добра выгаладаўся. Ён як хопіць перапеч, так і падавіўся. Туды-сюды ён, і вадою запіваць, і кулаком біць у грудзі і ў спіну — хоць бы што. Здагадаўся ён, што гэта праклятыя ім перапечы, і давай прасіць у мужыка і ў Пятра прабачэння.

Ледзьве ачомаўся.

З тае пары: годзе Ілья мяшаць людзям сена касіць.

Але ўсё было б добра, каб Ілья не быў такі стары і глухі. Бог кажа:

— Пасылай тады дождж, як людзі просяць.

А ён недачуе ды пасылае дождж, як людзі косяць.



## ПРАВІЛЬНЫ СУДДЗЯ

Араў адзін мужык у полі на кабыле, у якой было жарабя. Ішоў міма святы Мікола з трысцінкаю. Узяў і забраў жарабя з сабою.

Мужык крычыць:

— Куды ты, стары, жарабя забраў?

— Як куды? Гэтае жарабя,— гаворыць,— ажарабіла мая трысцінка.

Пачалі яны тузацца. Тузаліся, тузаліся, пакуль не прысталі. І давай ужо згаджацца на суд.

Мікола пытае ў мужыка:

— А дзе ж ты ведаеш такога суддзю, які б нас мог рассудзіць па ўсёй праўдзе?

— Ёсць у нас суддзя, вярсты за тры ад вёскі нашай жыве; пойдзем да яго, ён нас разбярэ.

Прыходзяць да суддзі, мужык і расказвае сваю крыўду: так і так, маўляў.

Суддзя выслухаў усё дый кажа:

— Пасядзіце тут трохі, цяпер мне некалі вас судзіць.

— А куды ты паедзеш? — пытае Мікола.

— На мора авёс сеяць,— адказвае суддзя.

— Дык на моры ж авёс не сеюць! — гаворыць Мікола.

— Ну й трысцінка жарабя не ажарэбіць,— адказвае суддзя.

На гэтым суд і закончыў. Мусіў Мікола аддаць жарабя мужыку.



## БУТРЫМАВА ПРЫГОДА

У Засуллі, у сяле, што абапал рэчкі дзвюма вёскамі раскінулася, быў гаспадар, Бутрымам празываўся. Тады ён быў яшчэ малады, гадоў колькі як жанаты, ды любіў часам загуляці.

Што буду гаварыць, то не выдумка якая — сама жонка яго, Марцэля, будучы ўжо ўдавою, клялася ды бажылася.

Сышоўся гэта той Бутрым са сваім кумам у Мэндалевай карчме, павялі гутарку пра сёе-тое і згадалі пра грошы.

— Ведаеш,— кажа Бутрымаў кум,— дзе нам грошай узяці?

— А дзе? — пытае Бутрым.

— А ў панскім лесе... Я ўчора нагледзеў на Папоўшчыне, каля балота, брускі ляжаць. Дык ты пайдзі запражы вала ды едзь пад Туры, а я там чакаціму цябе. А там узложыш адзін і — у Стоўбцы... Вот і будзе які рубель...

Як параіў, так і зрабілі. Бутрым запрог вала. Прыехалі пад бруссе, паклалі адзін на воз і паехалі. Не праехалі яны і дзвюх вёрст, як валы чагось ута-рапіліся. Калі глядзяць — ажно на дарогу чалавек выходзіць. Яны дужа спалохаліся, бо думалі, што хтось са двара. Адно, прыгледзеўшыся, пазналі, што гэта хтось чужы: у кароткім сурдуціку, у вузенькіх штоніках, у капелюшы і, залажыўшы рукі назад, як бы кійком памахвае. Сказаць пан — не пан, бо на пана затонкі... Адным словам, хтось такі незнаёмы.

А каб яны лепей прыгледзеліся, дык убачылі б, што гэта ззаду ў яго не кіёк, а хвост касматы, а ён адно, дзеля прыліку рукі залажыўшы, яго прытрымлівае і што з-пад капелюша рожкі невялічкія тырчаць. Ды ім гэта няўцямкі было.

— Куды гэта, людцы, едзеце? — пытае той ягомасць.

— У Стоўбцы, паночку,— кажуць мужчыны.

— Гэ, гэ! Ды вы,— кажа,— заблудзілі.

— Не можа быць, паночку! Мы ж не толькі дарогу, а кожную хвою тутака знаем.

— Аднак жа вы заблудзілі, вот прыгледзьцеся добра.

Калі сталі прыглядацца, дык і ім здалося, што заехалі ў незнаёмае месца, і, скрабучы за вушамі, кажуць:

— А-а, дык вашая праўда! І што мы цяпер рабіцімем?.. Хіба, панок,— будзь так ласкаў,— і пакажы нам дарогу!

— Дык добра, я вас аж у Стоўбцы завяду, бо і сам туды ж іду. Вярнеце налева і едзьце за мною!

Тыя, яму падзякаваўшы, паехалі за ім. То як стаў ён іх вадзіць па нейкіх невядомых дарожках, па карэнні ды па балоце, а яны скрозь за ім.

І немаведама, як доўга б ездзілі, але адзін вол паў. Тады яны, здагадаўшыся, давай хрысціцца ды Богу маліцца, дык той храпт перш усё корчыўся, пляваў, а далей — як зарагоча ды ў балота як скоча — адно пырскі выш лесу паляцелі.

А нашыя мужчыны назаўтрае на адным вале дамоў прыбіліся.



## ЧОРТ ДУРЫЦЬ ПАДАРОЖНЫХ

Гэта недалёка было, у суседнім сяле, ці што. Я быў на варце ў воласці, дык там расказваў адзін чалавек, маўляў, яго стрэчны брат якраз ехаў з дзецюкамі з месца, куды яны збожжа вазілі, дык іх нячысцік дурыў чуць не ўсю ноч у дарозе. Дык вось як тое было.

— Ссыпалі,— кажа,— мы збожжа ў свіран, пахарчаваліся трохі ў карчме дый паехалі ўлегцы дадому. Ужо цямнела, як мы выехалі з месца. Марозік быў невялічкі. Едзем, шуткуем, смеімося, а адзін дзяцюк аж заспяваў песню. Пад'ехалі мы да карчомкі, вось дзецюкі і кажуць:

— Ніпачом сем карчом, абы грошы, дык усе абайдзём,— дый супыніліся. Зайшлі ў карчомку люлькі закурыць дый выпілі па чарцы, па другой, а можа, больш, але ніхто не быў п'яны. Ні ў водным воку! Паехалі мы далей. Толькі праехалі лясок, з пярэдняе фурманкі хтось і крычыць:

— Дзецюкі, не туды мы паехалі.

Не туды, дык не туды. Павярнулі коней. Толькі трохі праехалі, зірнулі на грушку пры дарозе — здаецца нам, што не так едзем. Зноў павярнулі назад і хутка прыехалі да той самай карчомкі, адкуль выехалі, толькі не з таго боку. Чорт ведае што гэта такое! Знаёмая карчомка, але калодзеж не там. Зайшлі мы ў карчомку. Выпілі дзеля прыліку па чарцы, па другой, а можа, і больш, закурылі люлькі дый паехалі. Дарога была добрая, коні трохі прамерзлі. Чуць мы

селі на сані, дык не трэба было і паганяць, нашы каня-кі духам пруць, толькі скрыпіць пад палазамі. Мінулі каплічку ды крыж, што стаіць ля дарогі і пад якім пахаваны якісь стары, зірнулі наўкола — аж зноў збіліся. Згрудзіліся мы і давай гаманіць, куды тут ехаць. Адзін кажа — проста; другі — назад; трэці — трэба павярнуць направа; чацвёрты — што варта трымацца левага боку. Нарэшце закрычалі ўсе разам, дык і сам чорт не разбярэ, куды ехаць.

Вось так цалюсеньку ночку мы і ездзілі з аднаго месца ў другое. Ужо надыходзіў дзень, а нячысты ўсё нас дурыў ды круціў у полі. Нарэшце, мабыць, і яму надакучыла з намі валэндацца, дык ён кудысьці знік, а мы адразу сваю вёску і ўбачылі.



## ПРА ЧАРТОЎ

Недалёка ад нашай вёскі Азябы (Беластоцкі павет) ёсць возера Горбач. Расце там малады багун. Цяпер дайсці да возера можна дарогаю праз лугі і лес. Калісьці гэты лес і навакольныя абшары былі недаступнаю дрыгвою. Здарылася, што хтосьці ноччу, зблытаўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады чынілася самае страшнае.

Нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Той, хто ішоў следам гэтай з'явы, трапляў у нетры, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюды адвячоркам, то праходзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае

месца. Старэйшыя гавораць, што даўней жылі тут чэрці і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'явіўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя і хацелі яму па-свойму падзякаваць за гэта.

Цяпер усе старыя і маладыя згодна гавораць, што чарцей тут няма. Чэрці даўно адсюль ужо ўцяклі немаведама куды, і ніхто іх не бачыць. Мо пайшлі на пенсію?



## НЕЧЫСЦЬ ЗАМАНЬВАЕ Ў БАЛОТА

Што вы ні кажэце, а я сам добра чуў, як пішчала нячыстая сіла, як падманьвала мяне да зазывала перш у лес, а потым у балота. Вось як было тое здарэнне. Як цяпер памятаю, павёў я на круговіну пасціць коні. Я ўжо быў хлопец ладны, можа, гадоў дванаццаці, як вось бацька кажа:

— Вазьмі, дзетка, да папасі коней. Чаго яны ў хляве галодныя зубамі звоняць. Завядзі на круговіну, ці што, няхай паходзяць, пакуль нямашака заедзі.

Я, ведама, як хлапчук вельмі любіў ездзіць на конях. Вось надзеў я на коней аброці, ускочыў на каня — а кабылу вяду поруч — дый пагрукацеў на круговіну. Мой бацька жыў на хутары. Да круговіны было, можа, з паўвярсты. Я хутка па вузкай дарожцы праехаў праз густы лес, саскочыў з каня каля круговіны, пусціў коней на пашу, а сам садраў бяросту да давай рабіць кузобчыкі на ягады. Толькі я скруціў у ражок бяросту, як чую, аж блізенька ў хвойнічку плача

дзіця. Я кінуў кузобчык дый пабег проста туды. Расхіліў я густы маладняк, пралез у саму гушчарню, аж чую, што дзіця плача зусім блізенька, але ў другім баку. Доўга не думаючы, кінуўся туды. Чую, дзіця плача ў мяне ззаду. Пабег я туды. Яно далей. Я бегчы, а яно ўсё ад мяне ўцякае. Я даганяць, а яно далей. Вот здаецца, яно плача так блізка, бы каля самых ног, але нічога не відаць і ніяк нельга дагнаць. Бег я, бег, аж засопся, чуць вочы не выдраў у гушчарні, а ўсё ж не магу дабегчы да таго дзіцяці. Адбег я ўжо, можа, з паўвярсты дый упёрся ў балота. А балоты ў нас гразкія да глыбокія, так што можна зусім праваліцца ў такую тхлань, што й не вылезеш. Тут толькі я здагадаўся, што гэта не дзіця, а нечысць кпіць з мяне да пад'юджвае, каб заманіць у балота. Спалохаўся я, ды ледзьве знайшоў свой хутар — у такую гушчарню да нетру завёў мяне паганец. Кінуў я й коней дый кажу бацьку, што не пайду ў круговіну. Ён пытае, чаму. Я й расказаў, як мяне падманьваў нячысцік. Бацька кажа: можа, шуткаваў сусед, пасля толькі пакруціў галавою дый пайшоў сам па коні, запытаўшы, аднак, куды я палажыў аброці. Дык вось якое са мною здарэнне было.



## ЧОРТ У ВІХРЫ

Гэта было ўлетку, якраз каля макавея. У нас вырасла вельмі добрая атава на поплаве. Дзядзька памог мне скасіць такі добры кусок. Накасілі мы, можа, вазоў са тры вельмі пахучага сена. Было добрае

надвор'е. Сенца высахла, аж трэцца. Забраў я жанчын, і пайшлі мы грэбці тое сена. Згрэблі перш у валы і толькі пачалі класці ў копы, аж прыходзіць Сцяпан Дазорцавых закурыць люльку. Ён, бачыце, згубіў краменьчык, і не было чым выкрасаць агню. Вот убіў ён граблі ў зямлю, паклаў у люльку тытуню дый пачаў красаць агонь. Тым часам жанчыны зладжылі тры ці чатыры капы сена дый кажуць:

— Ой, зірнеце вы толькі на захад, што гэта там такое! Мабыць, будзе дождж.

Азірнуліся мы, аж на захадзе чорная хмара, бы клубок, так і коціцца на нас, так і расце. Выбілі мы люлькі ды хутчэй кінуліся памагаць жанчынам класці копы. Дык то скажэце, не паспелі мы зладзіць і аднае капы, як хмара завалакла ўсё неба. Раптам закруціў віхор, схапіў нашыя копы, падняў увышкі ды давай церусіць. Вот Сцяпан Дазорцавых барзджэй адвязаў ад пояса свой канчаты нож ды як шыбане ў самы віхор, дык чорт толькі піснуў, а віхор невядома куды і дзеўся, толькі нашае сена падае ўніз, дзе на зямлю, дзе завісае на дзерава. Стаім мы ды толькі дзівімся, што гэта такое. Вот упала дадолу ўсё сена, паказалася сонейка. Зірнулі мы на неба, аж там аніводнага воблачка. Тагды Сцяпан і кажа:

— Мабыць, я забіў ліхога. Памажэце шукаць майго нажа.

Кінулі мы граблі ды давай шукаць нажа. Доўга шукалі мы, амаль споўзалі ўсю сенажаць, нарэшце я знайшоў нож на купіне.

— Хадзі сюды, Сцяпане,— кажу я,— зірні, што тут робіцца.

Падышоў Сцяпан туды. Зірнулі мы, дык аж спужаліся. На купіне ляжыць вужака, перарэзаная пасярэдзіне нажом. Яна яшчэ трапяталася. А канчаты нож з разгону аж у зямлю ўбіўся войстрым кан-

цом. Узяў Сцяпан нож, аж на ём яшчэ відаць кроў.

— Гэта не вужака,— кажа Сцяпан,— а сам ліхі, што хацеў раскідаць сена.

Дык вось, мае вы саколікі, гэта я сам бачыў на свае вочы.



## ЧОРТ У ПОСТАЦІ ЦЯЛЯЦІ

Пайшоў у нас адзін чалавек у лес паглядзець сабе здатнае дзерава, каб зрабіць вулей для пчол. Доўга хадзіў ён, блукаўся то ў адну, то ў другую пораслю, то ў гушчэчу, блутаўся, пакуль аж збіўся з панталыку, дый не ведае,з якога боку прыйшоў і ў які бок ісці. Пачаў ён пазіраць на неба, каб па сонейку пазнаць, у якім баку дом, ды вот бяда, на яго ўсе ліха, што акурат трапіўся хмурны дзень. Што тут рабіць,— думае ён,— вось хіба ж даведаюся па ветру. Выбраўся ён з гушчарні на прагаліну дый пачаў цікаваць, адкуль цягне ветрык. Але на той час у лесе стала ціха, як у вусе. Пачухаў ён патыліцу, патупаў на месцы дый пасунуў за вачыма. Толькі крыху прайшоў, аж трапляецца яму насустрач цяля ды такое гожае, гладкае, бы мянёк. Дай,— думае ён,— паганю гэтае цяля дадому. Вот заняў ён тое цяля дый пагнаў. Толькі прагнаў ён гоняў пяць, як зірне, аж і дом відаць. Узрадаваўся ён, узваліў тое цяля на плечы дый панёс. Нясе ён тое цяля дый думае, што гэта, чым далей, тым яно становіцца цяжэй. Перш было лёгка, а тут стала так цяжка, што нельга і несці. Вот прынёс

ён ужо да двара дый спусціў цяля на зямлю. Тут яно падбрыкнула, зарагатала ды чорт ведае дзе й дзелася. Здагадаўся ён, што гэта быў чорт, а не цяля, што ён толькі пашуткаваў з яго ды накпіў.



## ЧОРТ СКІНУЎСЯ БАРАНОМ

Гэтак каля Багатніка прычапіўся да мяне Янкель Чараваты ды пачаў прасіць, каб я адвёз яго ў Петрыкаў. Што тут рабіць? Нельга было не паслухаць. Баба і не пускала, але я мусіў згадзіцца. Вот запрог я пару коней у лёгкія драбінкі, набіў дзяругу мурагу, узяў з паўасьмінкі аўса, пасадзіў Янкеля дый патарахцеў на ўсю ноч. Раненька мы прыехалі ў Смятанічы, а к абеду — у Петрыкаў. Рады Янкель Чараваты, заплаціў умоўленыя дзесяць рублёў ды яшчэ, апрача таго, даў мне добрую кварту. Пахарчаваў я коні, купіў сабе солі ды тараноў, узяў жонцы лычка абаранкаў ды завідна папхаўся памаленьку назад. Еду дый думаю сабе, ці не заехаць да сябра ў Млынок. У мяне, бачыце, з Яўхімам у Млынку адзіныя пчолы, вот затым мы і сябры. Падумаў я гэта дый звярнуў на Курынічы. Толькі што я ўехаў у лес, аж бачу: стаіць каля самае дарогі вельмі гожы баран ды так бляе, што аж мае коні не хочуць ісці. Што за ліха, думаю сабе. Мае коні ніколі не былі наравістыя, а тут сталі бы ўкопаныя дый ні з месца. Я й так, я й сяк, я й пад чэрава, я й пад хвост — хоць ты што,— на дыбы становяцца, а ўперад ні на пядзю. Злез гэта я з воза,

узяў з дзяругі жменю сена, зайшоў уперад дый вяду коней за павады. Коні храпуць, але йдуць за мною. Толькі я параўняўся з тым бараном, ён як забляяў ды і пабег у лес. Сеў я на воз ды па конях. Гнаў я што ёсць духу, пакуль прыехаў у Курынічы. Супыніўся каля карчмы дый зайшоў туды закурыць люльку. Заходжу я ў карчму, аж там людзей поўна. Ведама, як у карчме там стаіць гоман. Стаю я каля печы ды прыслухоўваюся, аб чым гавораць людзі, а яны ўсе як у бубен б'юць, усе гамоняць аб тым, якія хто бачыў страхі. Толькі вось падходзіць да мяне Гараська дый кажа:

— Чалавеча, з табою сягоння было ліхое здарэнне.

Як пачуў я тое, дык чуць не прысеў. Бачыце, я даўно ведаў, што Гараська вядзьмак, але не даваў веры, каб ён быў такі моцны знахар, што пазнаў маё здарэнне. Спалохаўся я Гараські, нічога яму не сказаў ды хутчэй выйшаў з карчмы. А ён мне наўздагон:

— Пачакай, яшчэ сягоння будзе другое здарэнне.

Я незнарок спалохаўся, але падумаў, што Гараська толькі шуткуе ці кпіць з мяне. Не ведаю, як я даехаў да Млынка ды хутчэй да сябра. Сябра якраз у той дзень падглядаў пчолы. Давай ён мяне частаваць. Паставіў на стол пляшку гарэлкі, баба насмажыла на скаварадзе. Давай мы піць ды закусваць. А як трохі выпілі, дык і адкуль тая гаворка ўзялася. Не вытрымаў я дый расказаў сябру, якое са мною здарэнне было і што мне казаў Гараська-вядзьмак. Сябра і кажа:

— Эй, не вер ты Гараську, ён толькі чмуціць.

— Як жа,— кажу,— не верыць, калі ён усё бачыць, калі яму, мабыць, чэрці служаць.

Вот пагасцяваў я добра ў сябра дый збіраюся пхацца дадому, а Яўхім дый кажа:

— Чаго табе сунуцца на ноч гледзячы, начуй

у мяне, а заўтра раненька халадком як піць дасі даедзеш дадому.

— Не,— кажу,— баба будзе сварыцца.

Упёрся я на сваім дый паехаў. Толькі я пераехаў за палянкаю пералесак ды грэбельку, як вось зноў бачу, што пры дарозе стаіць баран. Пад'ехаў я бліжэй, дык ён узышоў дый стаў пасярод дарогі. Я гнаць коні, а тыя ані з месца. Што тут рабіць, думаю сабе. Пачакаю, можа, хто наедзе. Баран бляе, коні храпуць, я сяджу на возе бы на іголках, а шапка на галаве расце. Чакаў я, чакаў, аж абрыдла. Чакай,— думаю,— паспрабую я зрабіць адну штуку. У мяне з лейцаў было зроблена ў драбінках гертаванне. От я давай распутваць гертаванне да аслабаняць лейцы. Нарэшце распутаў я тыя лейцы, зрабіў з іх пятлю, злез з воза дый пайшоў уперад коней. Стаў я, прынараві̇ўся ды як шыбану пятлю, дык акурат і закінуў таму барану на шыю. Не паспеў ён і варухнуцца, як я зашмаргнуў пятлю дый пацёг барана да сябе. Звязаў гэта я таго барана, узваліў яго на воз дый хацеў ехаць далей. Пагнаў гэта я коней, а тыя ані з месца. Я біць, я гнаць, а коні пнуцца, аж жылы ў іх трашчаць, а не могуць пацягнуць воза. Бачу я, што гэта не просты баран, а якісь нячысцік, вот я развязаў лейцы дый скінуў яго з воза. Баран забляяў, зарагатаў дый рассыпаўся па дарозе, бы мяшок жару. А коні як рвануць ды панясуцца, дык я думаў, што і костачкі мае растрасуць. Нарэшце выбіліся з сілы дый супыніліся. Ніколі не забуду, якога страху набраўся ў тую дарогу.



# ДАМАВІК ЕЗДЗІЦЬ НА КОНЯХ

Сядзім мы раз у карчме, пакурваем люлькі ды гамонім аб тым аб сім. Толькі вось заходзіць Купрэй і пачынае жаліцца, што яго коні ноччу хтось заездж-вае ў хляве.

— Гэ, ды гэта, мабыць, той самы,— кажа Мікіта Кульган.— Летась ён як прычапіўся да маіх коней, дык чуць жывымі пакінуў. Але то, кажуць, нячыстая сіла. Я выгладзіў коней, як лялек, а ён за нядзелю так заездзіў, што засталіся толькі шкура ды косці.

— Дык вось гэтак жа і маіх,— кажа Купрэй.— Сягоння чую ўначы, што коні грукаюць, запаліў я трэску дый пайшоў у хлеў. Прыходжу туды, а мае коні ў пене, бы іх хто ганяў колькі міль. Гэта ён цешыцца. Ён любіць, калі гладкія коні.

— Прапалі мае коні. Не ведаю, што і пачаць. Парадзь, Мікіта-братка, што мне рабіць. Можа, трэба старацца людзей, каб адрабілі, бо гэта, мусіць, удзеяна.

— Плюнь ты, Купрэй, на гэтую справу, ды вот паслухай, як я зрабіў. У мяне яшчэ горш было, бо я і не ведаў, што ён ездзіць на конях. Толькі бачу, што як я ні кармлю, а яны ўсё падаюць з цела. Дзякаваць сябру, ён мяне перасцярог.

— Глядзі,— кажа, сябра,— ці не дамавік гэта гарцуе на тваіх конях.

Схамянуўся я дый пайшоў уначы цікаваць. Залез гэта я на вышкі ды адтуль і пазіраю на коней. А ў мяне, бачыце, над коньмі, каб было цяплей, зроблены

вышкі з жэрдак, а наверх накідана саломы. Ляжу я на саломе дый пазіраю праз шчыліну. Перш звечара коні стаялі ціха ды хрумалі сена, потым, можа, у самую поўнач пакінулі есці ды давай пераступаць з нагі на нагу, давай чмыхаць ды дрыжаць усім целам, быццам яны бягуць, дый толькі. Дык вот, кажаце, можа, праз часіну, люльку выкурыць, з маіх канякаў паваліла пена. Паглядзеў я на тое ды хутчэй да сябра на раду. На другую ноч пайшоў я з сябрам разам пільнаваць коней. Запалілі мы грамнічную свечку, накрылі яе горшчыкам, узялі з сабою вады ды сядзім, чакаем, пакуль з'явіцца ён сам. Толькі вось каля поўначы і пачалі коні біцца ды тупаць. Адкрыў гэта сябра свечку; зірнулі мы, аж на конях сядзіць сівы дзед з доўгаю барадою ды толькі іх паганяе. Вот я як хватануў яго, дык ён і знік назаўсёды. З тых часоў болей і не з'яўляецца.



## ХУТ

Хут, у каго ў доме жыве, вельмі таму спрыяе у гаспадарцы, багацце ў дом прыносіць, снапы з чужых палёў у гумно, золата з няведамых скарбаў. Вечарам яго можна часам бачыць на небе, як ляціць вогненны, чырвоны,— золата нясе, як цёмна, чорна — збожжа, снапы. Але яго трэба шанаваць, смачна карміць, яго любімая страва — яечня. Як спячэ гаспадыня яечню, нясе на гарышча, ставіць там і кліча:

— Хут, хут, ідзі сюды, дам яечаньку, абарачаньку.

Ён тады прыходзіць і есць. І тады ўсё ў дом носіць. На гарышчы хут жыве, а лятае дзе хоча, ніхто не ведае дзе. Можа перакінуцца ў што хочаш — у корч, у старое кола, у палена.

Кажуць, быў такі выпадак. Парабак падслухаў, як гаспадыня клікала хута есці яечню, ды з'еў тую яечню сам. Хут вельмі разгневаўся, думаў, што гаспадыня кпіны састроіла, і спаліў увесь двор, і ґумно, і дом. Тушылі людзі, тушылі і не далі рады. Стаяць, глядзяць на галавешкі. А тут кола старое ляжыць (а гэты быў хут, ён перакінуўся ў кола, жыць яму ўжо не было дзе). Дык сусед кажа:

— А нашто ж яно тут будзе гарэць,— дый перакінуў у свой двор.

Дык адкуль толькі што ўзялося ў яго! Усё яму пайшло: і ўраджай, і ўсялякае дабро.



## ЯК ЧОРТА ВЫГАНЯЛІ

Быў і іншы выпадак, пра які расказвалі калісьці. Было гэта, можа, у Дашах, а можа, і не ў Дашах, хто яго ведае. Ішоў аднойчы ноччу чалавек з вяселля: ды ішоў падхмелены, а ісці яму выпала якраз праз могільнік. На могільніку тым свежую яму выкапалі, дык п'яны чалавек у гэтую яму і ўваліўся.

Сядзіць ён у яме ды чуе: у кутку нешта варушыцца. Спачатку спужаўся, а потым: мац, мац — бачыць, а гэта казёл, ды не які чужы, а — ягоны.

І так сядзяць у яме казёл і гаспадар. Сядзелі мо

гадзіну, а мо і болей, аж чуе гаспадар: нехта тупае.

— Чалавеча добры! — крычыць ён.— Дапамажы мне вылезці з гэтай ямы.

Прахожы знайшоў недзе кавалак вяроўкі і ўзяўся выцягваць п'янага. А п'яны думае: «Выцягне мяне, дык казёл застанецца ў яме. Яшчэ здохне да раніцы. Падам яму перш казла, а потым сам вылезу». І, нічога не кажучы, прывязаў казла да вяроўкі.

Цягне прахожы вяроўку, але, калі ўбачыў, што гэта казёл, спужаўся страшэнна, піхнуў казла назад у яму, а сам пабег у вёску. У вёсцы расказаў, што бачыў на могільніку чорта ў постаці казла, які гаварыў да яго чалавечым голасам.

Сабраліся людзі раніцаю ў працэсію, узялі з сабою папа ды пайшлі на могільнік выганяць чорта. А чалавек, які сядзеў у яме, паспеў за гэты час з яе выкарабкацца; ідзе ён ды бачыць, насустрач працэсія валіць.

— Куды вы, людзі, ідзяце? — пытае.

— На могільнік, з ямы чорта выганяць,— адказваюць яму.

— Які вам чорт, гэта ж я быў! — кажа чалавек. Думаеце, яму паверылі? Яшчэ чалавека гэтага дурнем нараклі.



## СКРЫПАЧ І ВАЎКІ

Быў у нас на сяле скрыпач Ахрэм. Ён быў так сабе, просты гаспадар. Яшчэ змалку навучыўся ён на

скрыпцы іграць. Прыйшла восень, пачаліся вяселлі,— вота ж і клічуць Ахрэма то туды то сюды іграць на вяселлях. І людзям весялей, і чалавеку заробак.

Аднаго разу паклікалі яго ў другую слабаду іграці,— так вёрст за сем ад нашае. Вядомае дзела, вяселле скора не робіцца. Прыйшлося Ахрэму вяртацца адтуль позна ўночы. Ісці трэба было лесам. Праз лес ішла ездавая дарога, каторую трэба абмінаць, бо сцежкаю бліжэй, як тою дарогаю. Ахрэм і думае: «Пайду проста сцежкаю — усё ж бліжэй будзе». Дый пайшоў.

Ноч была і так цёмная, а то яшчэ ў лесе. Ішоў ён, ішоў, ды неяк заблукаўся, ды разам як праваліцца, як шубоўтне кудысь пад зямлю! Упаў і не так пабіўся, як налякаўся. Што яно такое?

Падумаўшы, дагадаўся: у лесе было шмат ваўкоў і шкоды было ад іх нямала, дык іх стралялі і лавілі. А лавілі іх так: выкапаюць яму глыбокую, дзе воўчых слядоў найболей, а яму прыкрыюць тонкім галлём і травою прытрусяць, каб не відаць было; за ямаю яшчэ часам і прынаду паложаць. Як воўк прынаду счуе і пабяжыць да яе, дык у яму і праваліцца. Вота ж у такую яму патрапіў і Ахрэм.

Як здагадаўся Ахрэм, дык трохі ад сэрца й адлягло. Аж чуе — у яме штось як завые! Ахрэм так і памхаладзеў. Глянуў — ажно процiў яго як бы дзве свечачкі гарацъ. Ахрэм ведаў, што ў воўка поцемку вочы свецяцца і што гэта ваўчок папаўся ў яму і сядзіць. «О, гэта добры таварыш,— думае Ахрэм,— а ў мяне і паганага пакалка няма, адно скрыпка!» Што яму тутака рабіць? Вылезці з ямы поцемку нельга ды і повідну не вельмі-то вылезеш, бо яма глыбокая, а яшчэ пачнеш вылазіць, дык воўк цябе ззаду схопіць. Не, трэба, кажа, сядзець ціха.

Залез Ахрэм у куток, а воўк у другім. І думае

Ахрэм: «Гэта ён цяпер спалохаўся, дык не чапае, а як ачухаецца, то з костачкамі з'есць мяне». І сапраўды, крыху пачакаўшы, воўк пачаў ужо варушыцца, няйначай, бліжэй падступаць. «Пагана,— думае Ахрэм,— нічога тут не зробіш! Ану, хіба на скрыпцы зайграю». Узяў, прылажыў скрыпку ды як разане смычком па струнах, а скрыпка як загалосіць, а воўк як адскоча! «О,— думае Ахрэм, — гэта добра!» Дый давай іграці, ды яшчэ вясёлае, да танцаў. Воўку, мабыць, спадабалася — пачаў ён пад музыку выць. Скрыпач грае, а воўк вые. Чуе Ахрэм, ажно з лесу яшчэ воўчыя галасы адазваліся. «Вось,— думае Ахрэм,— папрыбягаюць!» Але іграць не кідае, усё іграе. І такая ў іх музыка: Ахрэм іграе, воўк у яме вые, а другія ваўкі з лесу сабе голас падаюць. Такое выццё ўчынілі!

Ахрэм усё іграе. Ніколі яшчэ ён так шчыра не іграў, як цяпер, бо думаў, што як кіне іграць, то воўк зараз да яго ды з'есць. Калі гэта адна струна — дзынь! — дый парвалася. Няма чаго рабіць — трэба іграць на трох. Калі і другая — дзынь! — і тая парвалася. Бачыць Ахрэм, што ліха: пачаў не так ужо моцна іграць. Але як на тое ліха, яшчэ і з дзесятак разоў смычком не пацягнуў, як і трэцяя струна лопнула. Цяпер засталася адна. Бедны Ахрэм думае: «Вось-вось зараз і гэта лопне — з'есць тагды мяне ваўчуга?!» Іграе, гаротны, на той аднэй струне, а сам на неба пазірае: ці не світае часам? Ды моліцца: «Госпадзі! Пашлі хутчэй свет. Можа, хто недалёка ісціме ды пачуе».

І хто яго там ведае, што б было, але сапраўды стала на свет займацца, і так давялося, што з нашае слабады стралец засядаў у лесе на звера ды блізка праходзіў і пачуў, што скрыпка грае, а воўк вые. Ён пайшоў паглядзець, што яно за дзіва такое. Па-

трапіў на тое мейсца, дзе была яма, падыходзіць і чуе, што няйначай у зямлі іграе. А Ахрэм гэтаксама чуе, што хтось ідзе, дый думае: «Вось яшчэ ваўкі бягуць — тут ужо мне канец». Калі чуе, аж хтось гукае: «А хто тутатка іграе?» Ахрэм іграць кінуў ды як закрычыць:

— Я, я іграю!

— Ды хто?

— Ахрэм-скрыпач.

— Ды дзе ж бо ты іграеш?

— У воўчай яме, уваліўся.

— Дык навошта ж ты іграеш?

— Воўка забаўляю.

Падышоў стралец бліжэй, глянуў — і праўда: у адным кутку Ахрэм, а ў другім воўк. Зараз стралец спусціў Ахрэму дручка і выцягнуў яго, а тагды ўжо воўка забіў.

З таго часу больш ужо Ахрэм ніколі поначы сцежкаю націнькі не хадзіў, бо казаў, што не хоча болей на воўчым вяселлі іграць.



## НЯДЗЕЛЯ

Ці вы ведаеце, што Міхась у сераду Нядзелю вёз, едучы з Баранавіч?

Едзе ён, аж бяжыць паненка, усянютка ў белі прыбрана, і просіцца:

— Чалавечку! Падвязі мяне.

Ён кажа:

— Сядай.

Яна села.

Едзе Міхась, ажно бачыць: здалёк бягуць два сабакі белыя. Паненка, як сабак угледзела, схавалася пад хвартух у брычцы і просіцца:

— Чалавечку, не кажы ж ты сабакам, што мяне вязеш.

Аж даганяюць сабакі і пытаюцца:

— Чалавеча, не бегла сюдэма паненка ў белі?

Ён кажа:

— Не, не бегла, не бачыў.

Яны яго абмінулі дый пабеглі на сухі лес.

Тады паненка ўстала і кажа:

— Добра, што ты ім не сказаў, бо гэта я — Нядзеля. Каб ім сказаў, яны мяне б разарвалі, дый ужо ў вас не было б ніколі нядзелі, быў бы толькі будзень.

Тады злезла з брычкі дый сама недзе згінула.



---

## СЕРАДА І ПЯТНІЦА

Серада і Пятніца сустрэліся раз на раздарожжы дый пайшлі далей разам. Вось ідуць яны, ідуць дый сустракаюць чалавека, які вяртаўся з кірмашу дамоў. Параўняўся з імі чалавек, ды як зірнуў, што ідуць якіясь падарожныя жанчыны, сказаў ім дабрыдзень дый паехаў далей. Адышліся Серада з Пятніцаю дый пачалі спрачацца, каму гэта чалавек даў дабрыдзень. Адна кажа — мне, а другая — мне. Доўга спрачаліся яны, нарэшце згадзіліся вярнуцца ды спытаць у самога чалавека.

Вось яны пераляцелі назад дый зноў сустракаюць

таго чалавека. Зірнуў чалавек ды адразу і пазнаў, што гэта тыя самыя. «Што за ліха,— думае ён,— што гэта за праява? Хіба якая марока? Я ж сустракаў іх на раздарожжы ці каля павароткі, а тут вось ад'ехаў, а яны зноў ідуць насустрач. Ліха іх вазьмі, дам ізноў ім дабрыдзень».

Тут ён схамянуўся дый кажа:

— Дабрыдзень!

— Чалавеча,— пытае Серада,— каму ты даў дабрыдзень?

— Чаго? Тпру! Каб цябе ваўкі зарэзалі! — крыкнуў чалавек на каняку, супыняючы яе.

— Каму ты даў дабрыдзень? — пытае Пятніца ўжо.

Чалавек зірнуў то на адну, то на другую дый кажа:

— А ці я ведаю! Багі вас ведаюць, хто вы такія!

— Мы Серада і Пятніца, дык каго ты больш шануеш, Сераду ці Пятніцу?

— І серада й пятніца — добрыя дзянькі. Мы іх і шануем.

— Не, але каго ты больш любіш, Сераду ці Пятніцу?

— Мы больш любім нядзельку, бо гэта свята.

— А з нас каго больш?

— У сераду ўсё ядуць, а ў пятніцу не прадуць, не аруць.

Пабачылі Серада ды Пятніца, што ад хітрага мужыка нічога не дапытаешся, плюнулі дый пайшлі далей. Мужык ад'ехаў трохі, азірнуўся дый кажа:

— Яшчэ пытаюць, каго мы больш шануем. Абедзве голадам мораць ды яшчэ пашаны хочуць. Той у пашане, хто нам есці дае.



## ХАЛЕРА 40-ГА РОКУ

Настала лета саракавога року, і страх вялікі агарнуў людзей, бо як з-пад Менску, так з-пад Койданава і з-пад Радашковіч і адусюль наўкруг чутно было, што халера людзей коціць. Людзі нідзе не выязджалі, ніхто і ў нашу старану не заглядаў. Усе сталі неяк невясёлы, але пакуль што ў нас, каля Волмы, ніхто не захварэў.

У адну так нядзельку святую бог даў раніцу вельмі красную. Якраз зачалася касьба, і месцамі свежанькае сена стаяла ўжо ў копах. Ранняе свежае паветра было насякшы пахамі новага сена і красак яшчэ някошанай сенажаці. Сонца паволі вылынала з-за далёкага лесу і адбівалася ў расінках, на ўсялякіх кветках аганькамі. Пакоша выглядала як высыпаная дарагімі каменнямі. Пастушкі выгналі сваю гавядку, каторая са смакам скубла чуць паадскокваўшую сочную травіцу. Так усё было хараша, весела,— здаецца, і не падумаў бы аб якім няшчасці. Тым часам старэйшыя штось як бы чулі. Усякі, каго ні сустрэнеш, ідзе нейкі насуплены і слова не пракажа. А калі запытаеш ці завядзеш гутарку, дык адказваюць нехаця, як бы баючыся большай размовы, ды кожны ідзе сваёй дарогай.

Пасуць пастушкі скаціну на свежай пакошы,— аж бачаць, як з дарогі ідзе якаясь баба, уся мокрая да руба. Прыйшла яна да аднае капіцы і лягла пад сена. Пастушкі, вядома, блазнота, падшывальцы,— абступілі яе здалёк, няйначай птушкі саву або вараннё арла, але блізка падысці баяліся, хоць і дужа

цікавасць брала. Гэтак стоячы, давай яны шпурляць у яе чым папала: хто пакалкам, хто грудкаю, хто каменьчыкам. І так ёй не давалі супакою амаль ні да поўдня, хоць тая і прасілася і малілася, каб далі ёй сапачыць крыху. А далей не вытрывала дый кажа:

— Чакайце, калі так. Папомніце вы мяне! — Ды выйшла ім з вачэй.

А з гэтага дня ў нашым сяле стала халера людзей каціць з канца ў канец. Мала хто жыў застаўся.



Была ўжо сярэдзіна лета. Пагода стаяла харошая. Буйнае жыцейка выспела як мае быць і хіліла свой поўны колас да зямлі, адно жаць яго неяк не хапаліся. Усе хадзілі як патручаныя, бо халера стала ўжо і ў наша сяло заглядаць, а пра суседняе, дык і казаць нечага — там мала хто жыў застаўся. Толькі на адну ніўку пад лесам выйшла жонка і стала жаці.

Не нажала яна яшчэ двух снапоў, як выйшла з лесу нейкая дзяўчына ўся ў белым і сама белая, як малако, ды прытым такі дужа прыгожая. Тую жонку паняволі якісь ляк узяў.

Падышла белая дзяўчына з сярпом і, заняўшы постаць пры той жанчыне, давай жаць і снапы вязаць — усё як мае быць. І гэта робіць яна ўсё моўчкі, а жонка гэтаксама баіцца да яе загаварыць, толькі дзівіцца на яе раз ад разу. Так жнуць, завіхаюцца, покі не прыйшла пара палуднаваць. Жанчына адважылася ды кажа:

— Я схаджу дамоў папалудную,— можа, табе чаго прынесці?

— Шклянку малака, калі ласка,— больш нічога,— сказала тая і давай зноў завіхацца. Жанчына, папа-

луднаваўшы, прынесла той дзяўчыне шклянку малака, а тая выпіла, падзякавала,— ды сталі зноў жаць і маўчаць.

Жнуць так моўчкі, завіхаюцца,— і вечар ужо блізка. Тая дзяўчына паглядзела-паглядзела ў лес ды кажа:

— Зараз, зараз іду.

А сказаўшы, зноў пачала жаць. Жанчына розуму не дабярэ, што яно такое. Чуе — крача, глянула — крумкач ляціць з-за лесу. Дзяўчына абярнулася да яго і кажа:

— Зараз, зараз іду, адно сноп дажну.

— Гэта,— кажа,— мой брат мяне на вяселле кліча.

Як дажала сноп, звязала яго як трэба ды пайшла сабе ізноў у лес, як прыйшла.

З таго часу халера стала сціхаць, сціхаць і заціхла.



## ЧАМУ ВОЎК З САБАКАМ ДЫ З КОШКАЙ І МЫШКАЙ ВАРАГУЮЦЬ

У часы старадаўнія воўк, сабака, кошка і мыш жылі між сабою дружна, не варагавалі, адзін за аднаго стаялі і ні ў чым патрэбы не мелі.

Раз ваўку давялося некаторы час пагаладаць: не было харчоў. І расстараўся ён сабе граматку — прасіць хлеб па вёсках і па сёлах. З гэтаю граматаю воўк і пайшоў жабраваць.

Па дарозе мусіў ён перайсці па кладцы цераз

нейкую рачулку, ды зваліўся ў ваду і так замачыў сваю грамату, што яе немагчыма было разгарнуць, не прасушыўшы. Дабег воўк да бліжэйшай вёскі, ускочыў у першую хату, папрасіў там гаспадарскага сабаку дапамагчы яму і высушыць прамоклую грамату, а сам, таксама мокры, пайшоў сушыцца ў ёўню. Сабака адразу, як мага асцярожна, разаслаў грамату на градцы і, сам не маючы часу, даручыў кошцы перадаць гэтую паперу ваўку, калі ён па яе прыйдзе.

Між тым кошка заснула, прасохлая грамата ўпала з градкі на зямлю і трапіла ў зубы да мышкі, што тут якраз прабягала. Тая, не ведаючы, што гэта за папера, згрызла яе амаль усю, а шматкі, якія засталіся, зацягнула ў сваю норку.

Калі воўк вярнуўся ў хату і даведаўся пра ўсё, дык пачаў лаяць сваіх таварышаў. Ніхто з іх не хацеў прызнаць сваю правіну, і яны ўсе між сабою перасварыліся ўшчэнт. Воўк быў у роспачы, бо новай граматы яму не маглі даць. Завыў ён, бедны, немым голасам і злосна накінуўся на сабаку, які ледзьве вырваўся. Тады раззлаваўся сабака ды кінуўся на кошку і не выпусціў яе з лап, пакуль не пакусаў дашчэнту. Тут кошка накінулася на мыш, якая найбольш і правінілася.

З таго часу і варагуюць воўк з сабакам ды з кошкай і мышкай.



## ЧАМУ ЗАЯЦ, ЛІСА ДЫ ВОЎК РАЗАМ НЕ СЫХОДЗЯЦЦА

Калісьці ўсе пушчанскія звяры жылі ў вялікай згодзе. Часта збіраліся разам на якой-небудзь паляне на свае звярыныя сходы-зборы, таксама і ў госці хадзілі адзін да аднаго. Але здарылася вось што.

Аднойчы пагнаў хлопчык пасвіць козы. Гоніць іх, гоніць дарожкаю каля агародаў, а тыя козы — скок! — і ў агарод, і да капусты. Давай хлопчык іх выганяць. Гоніць-гоніць і выгнаць не можа. Сеў на мяжы і плача.

Бег узмеж агародаў зайчык, убачыў хлопчыка, як той горка плача, пытаецца ў яго:

— Чаго плачаш, хлопча?

— Як мне не плакаць! — праз слёзы той кажа.— Вунь улезлі козы ў капусту, і аніяк не магу іх выгнаць.

— Не плач,— яму зайчык на тое,— пайду я выганю.

Гнаў зайчык коз, гнаў і аніяк выгнаць не можа: ядуць козы капусту, ажно бароды ў іх трасуцца. Сеў зайчык каля хлопчыка і таксама заплакаў.

Бегла мяжою ліса, убачыла зайчыка ды пытаецца:

— Чаго плачаш, зайчык?

— Плачу я, бо хлопчык плача, а хлопчык плача, бо коз з агарода выгнаць не можа.

— Не плачце,— суцяшае іх ліса.— Я іх зараз выганю.

Гнала-гнала ліса коз з агарода, а тыя і слухаць яе

не хочуць: жумраць капусту, аж за вушамі трашчыць. Села ліса каля зайчыка ды заплакала.

Бег воўк, убачыў, як у лісы слёзы з вачэй коцяцца, ды пытаецца:

— Чаго плачаш, ліска?

— Плачу я, бо зайчык плача, зайчык плача, бо хлопчык плача, а хлопчык плача, бо коз з агарода аніяк выгнаць не можа.

— Не плачце,— прамовіў воўк,— я іх мігам выганю.

Кінуўся ён да коз, гнаў іх, гнаў, а тыя хоць бы што: цярэбяць капусту, дый годзе. Сеў воўк каля лісы ды зароў.

Па-над агародамі ляцела маленькая пчолка. Убачыла яна, як воўк слёзы пралівае, пытаецца:

— Чаго плачаш, воўча?

— Плачу я, бо ліса плача, ліса плача, бо зайчык плача, зайчык плача, бо хлопчык плача, а хлопчык плача, бо коз з агарода аніяк выгнаць не можа.

— Не плачце,— празвінела пчолка,— я іх умомант выганю.

Падляцела пчала да першай казы і — бзом-бзом ёй у вуха, потым да другой — бзом-бзом, затым да трэцяй — бзом-бзом і так усім козам у вушы набзомкала. Застрыглі козы вушамі, затрэслі галовамі, задзерлі свае куртатыя хвасты ды далі драпака з агарода.

Звярам ніякавата зрабілася, што маленечкая пчолка мацнейшая за іх, вялікіх. Разбегліся яны хто куды ад сораму і дагэтуль не сыходзяцца разам.



## ЧЫМ БОЛЕЙ ХТО МАЕ, ТЫМ БОЛЕЙ ЖАДАЕ, АБО АДКУЛЬ МЯДЗВЕДЗІ НА СВЕТ УЗЯЛІСЯ

Жыў сабе чалавек бедны ўдваіх з жонкаю. Паехаў гэта ён у лес па дровы і, аблюбаваўшы старую ліпу, прыгатаваўся сячы яе. Але як толькі секануў у ліпу, дык ліпа і загаварыла.

— Чаго табе трэба? — пытае. Мужык азірнуўся сюды-туды ды ізноў сячэ.

— Чаго табе трэба? — пытае ізноў ліпа.

Мужык тагды, дужа спалохаўшыся, чым дуж на сані ды наўцёкі дадому. Расказаў ён гэта жонцы, а жонка як накінецца на яго: «Дурны ты! Чаму не сказаў, чаго нам трэба?» — «А чаго ж нам трэба?» — запытаў мужык. «Едзь і скажы, каб ты быў панам, а я паняю». Той хоць нехаця, але паехаў. Прыехаў у лес, падышоў да ліпы дый стук у яе сякераю. «Чаго табе трэба?» — пытае ліпа. «Каб я быў панам, а мая жонка паняю»,— кажа той са страхам. «Едзь дамоў!» — кажа ліпа. Мужык паехаў і скора панам стаў. Жывуць яны часу колькі, а далей падумала баба, што калі маглі стацца панамі, то маглі б стацца і чым большым. Кліча яна мужа і кажа: «Едзь ты, мой дзядулька, да ліпы і скажы, каб ты быў ваяводаю, а я ваяводзіхаю». Той, прыехаўшы ў лес, стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — «Каб я быў ваяводаю, а мая баба ваяводзіхаю».— «Едзь дамоў!» Прыехаў — так яго зараз і ваяводаю зрабілі. Пажылі так трохі, а баба і кажа:

«Дурны ты, дзядулька! Чаму адразу не сказаў, каб ты быў князем, а я княгіняю?!» Паехаў мужык у лес ды стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — пытае ліпа. «Каб я быў князем, мая баба княгіняю».— «Едзь дамоў!» Так скора і князем зрабілі. А баба і кажа раз: «Чаму гэта мы не дагадаліся ў цары папрасіцца! Нечага б тагды нікому не кланяліся. Паедзь ты яшчэ ў лес!»

Той, прыехаўшы, стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — «Каб я быў царом, а мая баба царыцаю».— «Едзь дамоў!» Стаў скора і царом. Але бабе ўсё мала, і кажа: «Слухай, дзядулечка! Купіў — не купіў, а патаргавацца можна. Папрасі ты ў ліпы, каб ты быў богам, а я бажыцаю, бо ўсё ж такі хоць і царом, а паміраць трэба будзе, а богам, дык ніколі». Яшчэ паехаў ды стук у ліпу. «Чаго табе трэба?» — «Каб я быў богам, а мая баба бажыцаю!» — «Вота ж ідзі ты мядзведзем, а твая баба — мядзведзіцаю!» Пайшоў ён да воза, каб дадому ехаць, а конь як убачыў яго, ды як кінецца наўцёкі, так толькі яго і бачыў. Няма чаго рабіць, пайшоў пехатою. Толькі на нагах ісці яму штось няспраўна паказалася, усё як бы да зямлі хіліць. Ён паспытаў ракам ісці, аж шмат лепей, і пайшоў ён так, аж бачыць: звер ідзе яму насустрач, а падышоў бліжэй — пазнаў сваю бабу. Тагды, зароўшы з жалю, пайшлі яны ў лес на векі вечныя.



## АДКУЛЬ УЗЯЎСЯ МЯДЗВЕДЗЬ

Ці ведаеце вы, адкуль узяўся мядзведзь?

Мядзведзь перш быў такі самы мужык, як і ўсе мы, гарапашнікі.

Даўно тое здарылася. Людзей тады было мала. Гэта цяпер так народу намножылася, што ледзь зямля іх падымае. А даўней людзі жылі сям-там па лесе, лавілі звера, птушак, а ў азёрах ды рэках — рыбу. Улетку збіралі ягады або капалі карэнне, рабілі запасы на зіму. Больш за ўсё запасалі арэхаў і мёду. Пчол тады было багата. Яны самі вадзіліся ў дуплах і ў земляных норах. Па лесе і цяпер яшчэ ёсць пчолы ў дуплах. Дык вось людзі і шукалі такіх пчол, і хто першы знаходзіў, таго і былі тыя пчолы. Ён абвязваў дрэва, на якім вяліся пчолы, лічылася, што гэтыя пчолы ягоныя, а таму ніхто не мог іх чапаць.

Але жыў сярод людзей адзін гультаяваты мужык. Яму не хацелася самому шукаць пчол, дык ён прымудрыўся выдзіраць чужыя. Толькі цяжка яму было ўзлазіць на дрэва. І пачаў ён шукаць ведзьмара.

За сямю лясамі ды за сямю балатамі меўся такі вядзьмар. Вось і пайшоў гультаяваты мужык да яго. Ідзе ён ды ідзе лясамі, бачыць — ліпа абвязана; думае — пчолы. Падышоў бліжэй, зірнуў, аж дупло зусім нізка, а ў дупле — мёд. Выдраў гультай пчол і пайшоў далей. Бачыць — другое дрэва абвязана. Выдраў ён і тут пчол. Сыты і задаволены, падыходзіць гультаяваты мужык да вядзьмаравае зямлянкі.

Таго якраз не здарылася дома. Глядзіць мужык, аж тут пры самай зямлянцы ў дрэве пчолы. Давай гэта ён і`тых пчол выдзіраць.

Але тут вядзьмар з'явіўся. Зірнуў на чужога чалавека і кажа:

— Раз пага́ліўся на чужое, дык з гэтае пары і ты, і твае дзеці, і ўсё тваё кодла будзеце толькі пчол драць!

Абярнуў вядзьмар таго гультаяватага мужыка ў мядзведзя.

Дык вось адкуль узяўся мядзведзь.



## АДКУЛЬ МЯДЗВЕДЗЬ

Гэта было даўным-даўно. Адзін неразумны чалавек, жартуючы, захацеў спужаць сустрэчнага падарожнага і дзеля гэтага, апрануўшы вывернуты кажух, залез пад нізкі мост, па якім павінен быў ісці той падарожны. Прайшло шмат часу, але цераз мост не йшоў той, каму быў прыдуманы гэты жарт, і чалавек выпаўз з-пад моста, глянуў уперад і бачыць, што падарожны стаіць і ўсміхаецца да яго. Чалавек пачаў клікаць падарожнага, але не пазнаў свайго голасу — то быў рык; хацеў падняцца на ногі, але рукі ад зямлі адарваць не можа, узяўся за кажух, але той прырос да цела. Няшчасны жартаўнік глянуў у ваду ў канаве і жахнуўся: ужо ён не ранейшы чалавек, а мядзведзь. Ад гэтага пярэваратня і пайшлі ўсе мядзведзі.



## АДКУЛЬ ПАЙШЛІ БУСЛЫ

Было гэта вельмі даўно. На зямлі развялося такое мноства гадаў, што не стала ад іх жыцця ні людзям, ні жывёле. І парашыў адзін чараўнік знішчыць гадаў, патапіць у якойсьці бяздонніцы. Сабраў ён іх у вялізны скураны мяшок, завязаў, узваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае прадонне. Як толькі чалавек рушыў з месца, то ўсе гады, якія былі ў мяшку, заварушыліся, засіпелі, засвісталі. І ўзяла чалавека цікаўнасць, што ён такое прэ.

Чалавек развязаў торбу ды і аслупянеў ад жаху. Гады ж тым часам вылезлі і распаўзліся ізноў па зямлі.

Разгневаны чараўнік не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь і, накінуўшы на чалавека парожні мяшок, ператварыў яго ў бусла і загадаў збіраць гадаў уцекачоў усё яго жыццё аж да самай смерці.

І ходзіць гэты ператвораны ў бусла чалавек з накінутым на плечы мяшком па лугах, палях, балотах ды збірае гадаў, але да гэтае пары ніяк сабраць не можа. З прычыны сваёй крэўнасці да чалавека гэты пярэварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей.



## ЧАМУ КОНЬ НІКОЛІ НЕ ПАД'ЕСЦЬ

Вядома, што вол паесць трохі і ляжа, а конь есцьесць і ніколі не пад'есць. А чаму гэта так? Таму што калісьці хадзілі па свеце вандроўнікі-чараўнікі, і трэба было аднаму такому падарожнаму перайсці цераз раку. Спачатку ён папрасіў каня:

— Перавязі мяне.

А конь кажа:

— Я яшчэ не пад'еў.

Тады падарожны — да вала:

— Перавязі мяне, воліку, цераз ваду.

Волік:

— Сядай, зараз перавязу.

Сеў падарожны на вала, і той перавёз яго на другі бок. Вось за тое вол хутка пад'есць і адпачывае, а конь есць дзень і ноч і не можа наесціся.



## ЧАРАДЗЕЙНІК ЗАМОВІЎ СТРЭЛЬБУ

Пайшлі раз нашы дзецюкі на паляванне. Шлындалі яны, шлындалі чуць не ўвесь дзень, абхадзілі чуць не ўвесь лес, а ні на што не трапілі дый ідуць дадому з пустымі торбамі.

Вось падыходзяць яны ўжо да самай вёскі, як су-

стракае іх каваль Гараська. А Гараська ў нас лічыўся чарадзейнікам. Спаткаліся, закурылі дзецюкі люлькі дый жаляцца Гараську, што нічога не ўпалявалі.

Ён усміхнуўся, патрымаўся за стрэльбы дый кажа:

— Ну, от цяпер паспрабуйце пашукаць дзічыны.

Толькі ён гэта вымавіў, як гоніць сабака зайца. Злажыўся адзін паляўнічы і як смаляне, дык заяц толькі падскочыў дый ногі выпруціў.

Не паспелі здзівіцца, як вось нясецца цяцерка. Выстраліў другі хлопец, дык цяцерка і грымнулася пад самыя ногі.

Здзівіліся ўсе, а чарадзейнік кажа, што ён можа так замовіць стрэльбу, што будзе шанцаваць ці не, будзе яна біць ці не, будзе ў самае сэрца трапляць ці жывіць. Вось ён узяў адну стрэльбу, трохі пашаптаў дый кажа:

— На, страляй у маю шапку на колькі хочаш крокаў.

Той павесіў кавалёву шапку на сук ды як стрэльне, увесь шрот і застаўся ў шапцы, а дзірак не зрабіў.

З тых часоў усе пачалі баяцца гэтага чараўніка ды здымаць шапкі перад ім, каб ён не сапсаваў стрэльбы, а ён так асмеліўся, што кажа:

— Я замоўлю стрэльбу, а ты хоць з блізкай адлегласці страляй, то ўсё роўна не патрапіш.

Але кажуць, што адзін такі ўсадзіў таму кавалю цэлы набой шроту крыху ніжэй спіны.



## МОЦНЫ ЧАРАДЗЕЙ

Аднойчы, якраз у мясаед, нашы мужыкі паехалі траляваць на рум караўкі. Зіма стаяла ліхая. Яшчэ з Міколы хапілі такія сібірскія маразы, што хоць з печы не злазь. Высунешся, бывала, з хаты, а на дварэ платы трашчаць, страляюць, быццам з пісталета, вочы так і зліпаюцца, нібы мёдам намазаныя. Такія маразы пратрымаліся аж да самае ўсяраднае нядзелі. Толькі тады яны трохі спалі, як наш Хвядос выскачыў голы з хаты, схапіў доўбню ды давай пярыць аб вугал. Смаляне дый назаве лысага чалавека, смаляне другі раз — назаве другога. Гэтак налічыў ён дванаццаць лысых. А тут, каб яно, у нас мала лысых людзей. Налічыць іх дванаццаць не тое што на марозе, але і на палацях не хутка трапіш. Дык вось, слухайце, толькі Хвядос так зрабіў, як паваліў снег, ды такі, што і свету божага не відаць. Валіў ён дзень і ноч чуць не цэлы тыдзень. А тут яшчэ ўсхадзілася завея — носа з хаты не высунеш. Людзі казалі, што гэта, мабыць, аддаў чорту душу якісь вельмі моцны чарадзей. Мы, канечне, думалі — гэта жарты, мала што людзі плятуць.

Дык вось. Нашы мужыкі тралююць караўкі. Самі сівыя, коні сівыя, вазы сівыя, бо ўсё аб'інела ды стала пухнатае, бы мядзведзь. А з вачэй аж іскры сыплюцца, такі мароз. Вось дзецюкі вяртаюцца з рума ды кожны раз не мінаюць карчомкі. А там была добрая шынкарка. Яна давала гарэлку напавер, бо ведала, што людзі, зарабіўшы, заплоцяць. Забягуць дзецюкі,

вып'юць па кватэрцы, закураць люлькі, трохі пагрэюцца дый зноў па караўкі. Гэтак увесь дзень. Толькі вечарком, як зойдзе сонейка, людзі больш пасядзяць у карчме, бо яны тагды не так п'юць, але і перакусваюць.

Раз толькі ўлезлі дзяцюкі ў карчму ды хацелі перакусіць, аж зірнулі, што няма дзе хлеб палажыць, бо на стале разлёгся Цярэшка Чарадзей, што жыў у Дзяніскавічах. Цярэшка быў вельмі моцны чарадзей. Яго ўсе баяліся як агню, бо як яго хто зачэпіць, то ён так удзее, такіх нашле чартоў, што ніхто і не адробіць. Вось людцы давай прасіць Цярэшку, каб аслабаніў стол. Куды там, гад, і слухаць не хоча, ляжыць сабе ды здзекуецца з бедных людзей.

Толькі на той час зайшоў у карчму якісь незнаёмы падарожны чалавек. Паслухаў ён, як Цярэшка выскаляецца, ды як перацягне яго пугаўём! А пугаўё было звітае з двух валовых посікаў.

Цярэшка зароў, быццам яго рэзалі. А той лупіць ды прыказвае:

— Вось гэта табе, гад, за тое, што з людзей здзекуешся, вот гэта на тое, каб доўга мяне памінаў ды нікога не чапаў.

Лупіў ён, лупіў, а нашы дзецюкі і з месца не варухнуцца. Спалохаліся, што той чалавек пасмеў зачапіць такога моцнага чараўніка, перад якім усе шапкі здымалі. А потым асмеліліся дый рады, што добра правучыць гада... Ачомаўся трохі Цярэшка дый сунуў з карчмы, бы тхор, так яму было сорамна перад людзьмі...



## УДЗЕЯНА

Ніколі таго не было, як адным летам у нас. Дык вось, слухайце, чуць не кожны тыдзень якое-небудзь няшчасце. Яшчэ з ранняе вясны прапала самая лепшая карова. Казалі, што яна, мабыць, з'ела павука ды аб тры дні і ногі выпруціла. Каля самага Юр'я ваўкі парвалі кабыле сцягно. Яшчэ добра, што зусім не зарэзалі. Потым знікла авечка, там шуляк задраў курыцу. Ды ўсяго і не прыпомніць. Трываў, трываў мой бацька дый пайшоў шукаць людзей, каб яны адрабілі, бо ўсе бачылі, што гэта ўдзеяна на гавяда. Вось, як сягоння памятаю, прыводзіць бацька знахара. Мы былі яшчэ блазнюкі. Бачылі, што з бацькам усунуўся ў двор якісь страшэнны чалавек, дык мы давай таўчы адзін аднаго локцямі ды шаптаць:

— Глядзі, глядзі, гэта ж бацька прывёў знахара.

А той знахар ідзе ды толькі круціць галавою ды пазірае то ў адзін бок, то ў другі. Вось бацька павёў яго ў сенцы, пасадзіў там за стол, паставіў пляшку гарэлкі ды давай частаваць... Жумрыць знахар сала, аж барада трасецца, ды ўсё гамоніць бацьку адно слова: удзеяна, удзеяна. Дзверы адчыненыя, дык свінні лезуць у сенцы, хоць ты што. Адгонім мы свіней — ды зноў у сенцы, каб пачуць, што знахар гаворыць. Пасля загналі свіней у свінушнік дый вароты падперлі калом, як вось знахар вылез на двор дый пачаў усё кругом аглядаць ды абнюхваць. Хадзіў ён і ў хлеў, і ў стайню, лазіў і ў сутачкі, пазіраў і ў

калодзеж, і ў гумно, нарэшце залез на вароты ды адтуль і кажа бацьку:

— О, я казаў, што тут удзеяна. Эге ж, удзеяна, ды яшчэ як.

Тут ён аж цмокнуў, бы свіння ў карыце, дый паклікаў бацьку, каб паказаць, што вароты крывёй залітыя. Зірнуў бацька дый кажа, што гэта, можа, шуляк задраў канапляніка ці кот — мыш. Ды куды там, знахар і слухаць не хоча ды ўсё кажа:

— Добры шуляк, добры кот! Гэта ж заліта крывёю на гавяда ды на ўсю тваю худобу. Трэба адрабіць, бо вельмі моцна ўдзеяна.

— Адрабі, адрабі, Пілiпка,— кажа бацька.

Паскроб знахар трохі нажом вароты, нарваў нейкага зелля, наклаў у чыгун, наліў вады ды давай варыць ды шаптаць.

Тут мы спалохаліся дый залезлі на палаці. Шаптаў знахар, шаптаў ды гукаў у комін, а потым давай абціраць рукавом з ілба пот:

— Ну, адрабіў! А моцна было тут удзеяна.

Пасля таго толькі вол падвярнуў голаў дый выпруціўся ды здох кормны парсюк, а больш, здаецца, нічога не прапала. Добра адрабіў знахар Піліп.



## ПРЫГОЖАЯ КІНГІ

Даўней, як панавалі каралі, у ваколіцах Нарвы, дзе цяпер цвітуць палі і сады, былі дрымучыя лясы. Высокія, магутныя дрэвы гаманілі з нябёсамі, з сонцам, з месяцам. У такім лесе і днём і ноччу было

цёмна. Светлыя сонечныя прамені не маглі прасякнуць праз сплёт галінак ды лясных маленькіх раслін. У лесе вадзілася многа розных звяроў і птушак. Рыкалі мядзведзі, вылі ваўкі, крычалі птушкі — усё гэта злівалася ў адзін магутны голас, ад якога ўвесь лес дрыжаў, дрэвы хісталіся.

Праз лес плыла вялікая вірлівая рака Нарва. Яна бегла хутка, ірвала берагі. Старыя дубы валіліся ў раку і разам з ёю плылі далёка-далёка.

У тым месцы, дзе рака ўлівалася ў другую раку, лес быў радзей, а за лесам цягнуліся зялёныя палі, сады і агароды, пасярод якіх на беразе Нарвы стаяў прыгожы палац каралевы Кінгі.

У садах спявалі птушкі.

Каралева Кінгі цэлымі днямі бывала ў садзе, у лесе, збірала грыбы і ягады.

Зусім рана, калі сонейка яшчэ не ўзышло, калі раса пакрывала раслінкі, выйдзе каралева Кінгі з кошыкам у руцэ ў лес. Распусціць свае доўгія прыгожыя косы, сядзе на пянёк і слухае, як спяваюць птушкі. Яна не толькі любіла слухаць птушак, але любіла і саміх птушак. Прыносіла ім яду: пшаніцу, авёс. І птушкі таксама любілі сваю каралеву, ляталі ўслед за ёю: сядзе яна пад яблыняй — і яны тут, сядзе яна на лавачцы — і яны тут.

І ўсё пяюць і пяюць.

А спеў іх нёсся далёка-далёка.

Бывала, сяляне, якія працавалі ў двары, стануць, здымуць шапкі ды прыслухоўваюцца да той чароўнай музыкі.

І так лёгка робіцца на душы!

Аднаго разу, калі каралева выйшла ў сад, затрэслася зямля. Затрэслася раз, другі, трэці.

Вакол пацямнела, і палац разам з усім праваліўся пад зямлю.

На тым месцы засталася толькі невялікая горка...

Каралева Кінгі не забывала сваіх дарагіх птушак. У поўнач яна выходзіла з зямлі, распальвала агонь і садзілася на камень.

Праязджаючы, людзі бачылі, як свяціўся агеньчык на гары, але баяліся туды ісці.

А каралева Кінгі кожную ноч выходзіла на гару. Яна чакала, каб які чалавек прыйшоў да яе і нарваў ёй букет кветак.

Аднойчы паўз горку на кані праязджаў стары разбойнік са сваім дабыткам. Раптам убачыў ён агеньчык на гары і падумаў, што гэта кавалак золата так свеціць.

Пайшоў ён туды. На самым версе гары, на камені, сядзела красуня-дзяўчына. Гэта і была каралева Кінгі. Яе прыгожыя льняныя валасы краналіся самай зямлі, чорныя вочы свяціліся, як дзве зорачкі, а чырвоныя шчокі палалі агнём.

Перад ёю стаяў адкрыты куфар, поўны золата. Брала яна гэтае золата ў жменю, падымала руку ўверх і сыпала зноў у куфар. А здалёк здавалася, што гарыць агонь. Стары разбойнік падышоў бліжэй да каралевы, але не мог вымавіць і слова.

Кінгі павярнулася да яго і ласкава сказала:

— Ідзі, добры чалавек, нарві кветак і прынясі іх мне, а я табе аддам усё золата.

У той момант стары разбойнік, як дзікі звер, кінуўся з нажом на каралеву.

Але што за дзіва? На месцы, дзе сядзела Кінгі, нікога не было.

Разбойнік махнуў нажом у паветры.

Ізноў дзіва! Дзе стаяў разбойнік, ляжаў вялікі камень.

Гэты камень і зараз ляжыць на гары.



## ПРА РЭЧКУ АРЫШТАНТКА

Даўно гэта было, пры цару яшчэ. Людзі расказваюць...

Нейкі магнат сек лес каля Старобіна, збываў яго замежным купцам. Каб хутчэй сплаўляць драўніны, рашыў злучыць Случ з Мораччу. Капаць канал сагналі ў палескія балоты катаржнікаў. З дня ў дзень стаяў над наваколлем звон кайданаў ды прыцішаныя галасы нявольнікаў. Шмат цяжкай людской працы было пакладзена, шмат жыццяў аддадзена, перш чым выкапалі багацею той канал на дванаццаць кіламетраў. Але жыве ў народзе памяць аб тых нявольніках — завуць рэчку Арыштанткай.



## СОЖ І ДНЯПРО

Сярод глухіх пушчаў, цёмных бароў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-старыя палацы вялікага валадара, сівога старога Рыдана. З канца ў канец зямлі называлі Рыдана багацеем з багацеяў, а над усім багаццем славілася схаваная за дванаццаццю дзвярамі, дванаццаццю замкамі залатая Рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзверы і выносілі тую карону, то, калі на свеце была ноч, яна днём станаві-

лася, а калі была зіма, то перамянялася ў лета — так зіхацела дарагое каменне на залатой Рыданавай кароне.

Зайздросцілі суседнія валадары і князі Рыдану і пастанавілі здабыць карону. Зазвалі варажбітоў і знахароў і загадалі ім прыдумаць, як украсці карону з Рыданавага скарбца.

Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры ночы і прыдумалі разрыў-траву, якой, калі дакрануцца замкоў, то самі адчыняцца, ды сон-траву, зярняткамі якой калі пасыпаць, то ўсё жывое наўкола засне. Прыдумаўшы гэта, паслалі злодзеяў красці залатую Рыданаву карону. Тыя, прыйшоўшы пад харомы, сыпнулі сон-зелля, і ўся варта паснула; кранулі разрыў-травой замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яны залатую Рыданаву карону і пайшлі назад.

Устаў раніцой сівы Рыдан, падышоў да акна, ажно глядзь — уся варта покатам спіць, увесь народ у сне беспрабудным валяецца. І зразумеў стары адразу, што няма ў скарбцы ў яго залатой кароны. Падышоў ён тады да звона, ударыў раз, ударыў два, і прачнуліся два Рыданавы сыны: Сож і Дняпро.

Павярнуўся бацька да Дняпра і кажа:

— Вазьмі, сынок, сталёвую зброю, каваны меч і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор, дагоніш цікунцоў з каронай.

Схапіўся Дняпро і чым хутчэй пабег, а Сож застаўся пры бацьку.

Сеў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Дняпро?

Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа:

— Бегма бяжыць і не стаміўся яшчэ.

І другі раз кажа бацька:

— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай.

Прылажыў сын вуха да зямлі і кажа:

— Бяжыць, але ўжо цяжка дыхае — шум зямлёю ідзе.

І трэці раз сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа:

— Гул зямлёй ідзе і крык вялікі.

Тады ўстаў Рыдан з пасады і кажа:

— Бяжы ж ты, сынку, імхамі, балотамі на падмогу яму, бо сам адзін не праб'ецца ён праз скалістыя горы.

Пусціўся Сож імхамі, балотамі на падмогу брату, а стары бацька застаўся чакаць сыноў.

Доўга чакаў стары. Не дачакаўся, з маркоты вялікай пачаў плакаць:

— Бадай нам, дзеткі мае, слязамі разліцца.— Ды ўлучыў ён такі момант, што сапраўды разліліся слязамі браты і стары бацька: у рэкі ўсе трое змяніліся.

Дняпро плыве садамі ды лугамі, Сож — імхамі ды балотамі, а Рыдан — у свет вочы.



## ПАХОДЖАННЕ РАКІ ВІЛІІ

Было тое так даўно, што нашым дзядам і прадзедам іх дзяды і бабкі апавядалі гэтую гісторыю, як даўніну даўнюю, даўно забытую.

У слаўнай зямлі ў барысаўскай, каля вёскі Шыляны, цягнуцца вялізныя Шылянскія, або Кравецкія, балоты. З балот тых выцякае з-пад каменя-краўца рэчка Вілія.

У вёсцы Шылянах жыў калісь кравец Сцяпан. Слаўны то быў на ўсю Барысаўшчыну здольнік. Шыў ён панам вяльможным бармы і саеты, князям харобрым дарагія шаты з грызетаў, павалок грэцкіх і аксамітаў венецкіх, сялянам маламожным — світкі і жупаны.

Багата жыў Сцяпан-кравец і пашану меў у людзей, а невясёлы быў: моцна білася сэрца маладое, што хоць і багаты, і малады, і прыгожы сабою, а няма ў яго жонкі-красы. Устане хмарны Сцяпан, хмарны за работу бярэцца і хмарны спаць ляжа. І не таму хмарны хадзіў Сцяпан, што не было дзяўчат маладых, гожых, ахвочых за яго замуж пайсці, а таму, што адзіная любая дзяўчына-краса ад яго ўцякае, а сустракаючыся, вочкі сінія ў зямлю патупляе.

Мовіць, бывала, Сцяпан да яе слова ласкавае, а яна загарыцца, як макаў цвет на зары, ды маўчыць. І як жа тут малойцу добраму не тужыць, не хмарыцца, калі сэрца гарыць, як нарог у горне, дабелу распалены, і стукае ў грудзях, як молат па кавадле, а палёгкі яму няма ніякае.

Хмарыцца Сцяпан, бо праўды не ведае. Не ведае таго, што любка яго, у буйных думах калыханая, гэтаксама, як і ён да яе, да яго ўсім сэрцам хінецца, як хмялінка да тычынкі цягнецца, ды сарамлівасць дзявочая няволіць нябогу на Сцяпана ўзірацца, уздыхаць па ім у ночы майскія, цёпла-парлівыя, паглядаючы з-пад бярозкі касістае на месячык бледны.

Ох, і гожа ж была Сцяпанава нябога Ульяна, якую за рост высокі, стан перагібісты ды за белы тварык людзі Вельянай празвалі.

Доўга цярпеў сваю муку Сцяпан, але далей цярпець сілы не стала, і не стрываў, гаротны.

Раз апоўначы выйшаў Сцяпан у поле чыстае, стаў на крыжовых дарогах і прызваў да сябе сілу цёмную.

Калі настаў дзень, доўга шукалі людзі Сцяпана ў будынках, у полі і ў лесе. Здзівіліся, убачыўшы на месцы роўнага поля велізарную лагчыну. Ідучы лагчынаю, знайшлі каля крыжовых дарог скамянелага Сцяпана.

Як учула Вельяна, што Сцяпан абярнуўся ў камень, пабегла непрытомная ў поле і, абняўшы рукамі камень, прыпала да яго і залілася горкімі слязамі.

Плакала яна дзень, плакала ноч, а з усходам сонейка, чуць золак на ўсходзе займаўся, сканала, а са слёз яе з-пад каменя прабілася крыніца.

Разлілася крыніца па ваколіцы, затапіла ўвесь абшар, дзе ўвагнуўшыся была зямля, ператварыла тую нізіну ў непраходнае балота, якое завуць Шылянскім, або Кравецкім, і паплыла ў свет рэчка празрыстая, прыгожая, як і сама Вельяна калісь была.

Рэчку гэтую адразу ў памяць Вельяны Вельяй назвалі і гэтак завуць дагэтуль, толькі людзі, не ведаючы ўсёй гісторыі, перайначылі крыху яе праўдзівае імя, завучы Віліяй.



## ЯК НАРАДЗІЛІСЯ НЁМАН І ЛОША

Пра Нёман расказваюць так. Даўно гэта было. Недалёка ад вёскі Забалацце, што на нашай Уздзеншчыне, з-пад вялікага лазовага куста выбілася крынічка. Вада ў ёй была халодная, як лёд, а чыстая, як дзявочая сляза. Вада тая ўсё прыбывала, больша-

ла, аж пакуль не пабегла па двух ручайках. Так вось нарадзіліся рэкі Нёман і Лоша.

Нёман быў шчыры і крэпкі хлапец, а Лоша ціхая, лянівая і хітраватая дзеўка. Яшчэ больш падужэўшы, Нёман аднойчы сказаў Лошы:

— Раздолля трэба мне, волі захацелася. Буду як мага прабівацца да мора.

Нічога не сказала на гэта Лоша, толькі сама сабе надумалася навыперадкі бегчы з Нёманам і першай выскачыць к мору.

Назаўтра, яшчэ не развіднела, яна ціхенька ўстала і пайшла па нізінах ды па далінах да мора.

Прачнуўся Нёман, угледзеў, што Лошы няма, ну й кінуўся наўздагон, не разбіраючы дарогі, напрасткі.

З таго часу ён так і ляціць, паспяшае да мора, магутны і шырокі, а Лоша плыве сабе ціха, хаваючыся ды туляючыся па кустах і нізінах.

* * *

Кажуць, нібы нейкі даўні князь Віт, ці Віток, праходзіў са шматлікім войскам праз лясы цяперашняй Лошніцы. Яго ўначы заспела моцная бура, і ён загадаў сваім воінам расчысціць лес і зрабіць начлег на высокай гары каля ручая.

І нібы воіны выкапалі на вяршыні гары я́му, абклалі яе шкурамі і зрабілі Віту ложа.

Ад таго гару назвалі Ложніцаю, а ручай ці рэчку Ложай, або Лошай.

Лошніцкія старажылы ўказваюць месца начлегу каля рэчкі Лошы, на гары, што за могілкамі, яно і цяпер завецца Вітагор’ем.



## НЁМАН І ЛОША

...Даўным-даўно, тысячы гадоў таму з-пад вялізнага каменя, дзе б'е крыніца, нарадзіўся славуты асілак. Яго назвалі Нёманам. Жыў сярод лясоў дрымучых, лугоў шырокіх. Прыгожы, працавіты. Прыродзе, і людзям, і ўсяму жывому дабром плаціў. У суседстве жыла Лоша. Гультаяватая, ляжала ў цяньку, сабою любавалася. Нікому ад яе не было ні радасці, ні карысці. Лоша часта заглядала да свайго суседа. За маўклівасць называла яго Неманцом.

Цяпер ніхто не ведае, што Нёману спадабалася тая красуня. Адно вядома — было вяселле. Гуляла на ім уся жаніхова радня: і Сула, і Уса, і Уздзянка, і Шчара... Каго толькі тут не было! Пілі, балявалі, маладым шчасця ды добрай долі жадалі.

Скончылася вяселле, пачаліся будні.

Зноў Нёман не ведаў ні дня, ні ночы. Паіў, карміў, туліў усіх, хто да яго гарнуўся: і чалавека, і звера, і птаха, і рыбу, і жыўнасць усякую. Цешыў сваім люстэркам водным прыбярэжныя лясы, палеткі, лугі, на сваіх магутных грудзях насіў чоўны, ганяў плыты.

Не раз запрашаў на шырокую прастору і сваю красуню ненаглядную. Толькі тая была абыякавая, халодная да ўсяго, па-ранейшаму не хацела дзяліць са сваім волатам нягоды і радасці.

Не да душы было такое жыццё Нёману. Аднойчы цёмнай ноччу кінуўся ўпрочкі. Стараўся замесці след: там пад паплавам прабяжыць, там, дзеля перадыху, вынырне плёсам, тоняй, азярынкаю, а потым зноў

схаваецца. І толькі там, дзе цяпер Забалацце стаіць, асілак у адкрытую пайшоў да мора.

Прачнулася Лоша, а Нёмана няма. Пачала дaганяць уцекача, ды не ў той бок кінулася. Па далінах ды па нізінах бегла. Ажно сіл не ставала, дый не ведала, куды далей падацца. Гукала-клікала на дапамогу, але ніхто не прыйшоў — ні Пціч, ні Бярэзіна, ні Свіслач... Толькі Выня паспачувала гору сваёй сяброўкі. Выбеглі яны ўдзвюх да груда пясчанага, дзе сягоння Пясочнае, і ўбачылі: Нёман праз долы і лясы дарогу сабе пракладае. Хвалямі горкіх слёз кінулася Лоша ў абдымкі да свайго асілка: адчула, што жыць па-ранейшаму, ды яшчэ адной заставацца, не варта — зінкнуць можна. Пачала дапамагаць Нёману. З часам і людзі не абмінулі яе стараною: паблізу пачалі будавацца. Так нарадзіліся вёскі Лоша, Мрочкі, Перавоз, Сасноўка, Рачыца, Пясочнае.

Нёман ніколі не забывае родныя мясціны. Кожную вясну, кожную восень дажджлівую вяртаецца да маці сваёй — крынічкі, якая цячэ з-пад вялізнага каменя. Вяртаецца сюды, каб сустрэцца са сваёй Лошаю, са сваёй маладосцю...



## ПРА ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

Калісьці ўладаром возера быў мірскі князь. І вось ён задумаў даведацца, ці праўда, што на дне возера стаіць затоплены горад Свіцязь, як гэта гавораць у народзе.

Рыхтаваўся ён тры тыдні. Пабудаваў вялікі карабель, сплёў невад, паклікаў ксяндза. І вось, калі закінулі невад і пачалі выцягваць яго, то быў ён лёгкі. Рашылі, што нічога няма. Але, калі выцягнулі апошняе крыло, убачылі ў нераце цудоўную дзяўчыну з белым тварам, доўгімі распушчанымі валасамі. Адны ад здзіву анямелі, другія кінуліся ўцякаць. Тады дзяўчына загаварыла голасам, падобным да голасу ручая, які бег у гэтае возера:

— Вы задумалі дзёрзкую справу, парушылі спакой возера. Але я раскажу вам пра яго. На тым месцы, дзе сёння возера, стаяў некалі горад. Князь, які валодаў горадам, быў у хаўрусе з навагрудскім князем Міндоўгам. Аднойчы напаў на Навагрудак з магутным войскам суседні цар. Князь разам са сваёй дружынаю паехаў на дапамогу Міндоўгу. У горадзе засталіся старыя, жанчыны, дзеці і сярод іх прыгожая князева дачка. Магутнае войска Міндоўга і княскае войска разбілі, і ворагі падышлі да горада Свіцязя. Тады перад князёўнай з'явіўся аднекуль стары і сказаў, што ператворыць горад у возера, а людзей у кветкі. Горад сапраўды адразу пачаў знікаць, а на месцы яго разлілося возера, па якім плавалі цудоўныя кветкі-цары.

Расказаўшы гэта, дзяўчына знікла. Больш яе ніхто ніколі не бачыў. Як успамін пра гэта, кожную вясну цвітуць на возеры кветкі-цары.

* * *

Жыхары горада Свіцязя мелі такую негасцінную завядзёнку, што ніколі не дазвалялі начаваць у ім падарожнікам. Раз прыйшоў туды стары калека-прахожы і папрасіўся да беднай жанчыны-ўдавы з дзіцем

пераначаваць. Яна не хацела пускаць яго, наракаючы на сваю беднасць, і яшчэ баялася суда суседзяў. Але стары расчуліў яе, даў ёй тры зярняткі жыта, і калі яна іх змалола, дык выйшла тры чвэрці мукі. Здзіўленая цудам жанчына нарэшце пусціла яго ў хату. Стары пераначаваў, а на другі дзень жанчыну за непаслушэнства закону жыхары хацелі пакараць. Стары заступіўся за яе, але, разам з тым, за такі нядобры звычай вырашыў пакараць усіх жыхароў Свіцязя. Загадаў жанчыне ўзяць на рукі сваё дзіця і ісці не аглядаючыся з горада, які зараз жа, сказаў, затопіцца вадой. Толькі яны выйшлі за браму, як горад пачало залiваць. Жыхары ўзнялі плач, енк, а жанчына, што выйшла з горада, з цікаўнасці азірнулася. За тое, што не паслухалася старога, яна ператварылася ў камень.

І цяпер гэты камень стаіць у возеры недалёка ад берага, нагадваючы жанчыну з дзіцем на руках. Кажуць, што калі хто даплыве да каменя і дакранецца яго рукою, то з каменя выступае кроў.



Даўно гэта было. Тое, што вам раскажу, чула я ад свайго дзядулі. Пан Незабытоўскі, якому належала возера, захацеў даведацца, ці глыбокае яно. Часта выязджаў ён на сярэдзіну, прывязваў да матузка груз і апускаў у ваду, каб дастаць дно, але так ніколі і не дастаў.

Вельмі цікавіла яго і тое, адкуль ідзе вада ў возера. Вось ён і загадаў сваім сялянам выкапаць два каналы, каб спусціць з возера ваду. Адзін канал выкапалі ў бок вёскі Валеўка, ён злучыў возера з ракой Неўдай (якраз у тым месцы, дзе быў млын), а другі —

у бок вёскі Парэчча, да рэчкі Моўчадзь. Вада так пайшла па каналах, што ў вёсцы Валеўка затапіла некалькі хат.

Пасля гэтага пану прысніўся сон, нібы прыйшла да яго ў абліччы дзяўчыны Свіцязь і, грозна глянуўшы, сказала, што зможа ён дастаць дно толькі галавой, а калі будзе чапаць возера, то яно затопіць усё на сем міляў вакол. Пан спужаўся і загадаў засыпаць каналы.

Сляды тых каналаў відаць і цяпер.

Але цікавасць да таго, адкуль ідзе вада ў возера і куды яна дзяецца, не пакідала пана. Незабытоўскі злавіў трох шчупакоў, акальцаваў іх і пусціў у ваду. На кольцах было напісана: калі хто зловіць шчупака, каб пазваў пана на абед. Пана, вядома, больш цікавіла, дзе зловяць гэтых шчупакоў. Дык аднаго шчупака злавілі ў Азяранах, каля Наваельні, а другога — у Колдычаўскім возеры пад Баранавічамі. Так пан даведаўся аб падземных крыніцах, што лучаць Свіцязь з іншымі азёрамі.

* * *

Старажылы расказваюць, што яшчэ ў дзяцінстве бачылі яны на Свіцязі чатыры слупы, аброслыя мохам і падобныя на калодзежныя. Па вадзе плавалі вушакі ад дзвярэй, бярвенні ад будынкаў. Бярвенні былі прыдраныя, вуглы зрэзаныя. А калі ад'ехаць далей ад берага, то можна было нават убачыць на дне выбрукаваную дарогу.



## ЧЫРВОНАЕ ВОЗЕРА

Возера наша Чырвоным завуць за тое, што многа рыбы ў ім і рыба ўсё больш чырванапёрая. А бацька расказваў— яшчэ за яго памяццю было гэта,— вялікі бой быў за возера між асілкамі, і нават кроў людзі пралівалі. Цераз тую кроў пралітую яно і Чырвоным завецца. А гавораць яшчэ і так.

За царыцаю Кацярынаю, а можа, і яшчэ раней жыў у гэтых лясах князь. Усе лясы, рэкі і сенажаці яму аднаму належалі. За вялікія заслугі яму царыца ўсё тое падарыла. Быў князь роду знакамітага, характару цвёрдага, паўжыцця правёў ён у войску ды на граніцах чэсць царскую бараніў. Вось выйшаў час яго службы, і атрымаў ён гэты край ва ўладанне. Прыехаў князь, палац пабудаваў і жыве.

Жыве сабе князь у высокім цераме. Але, на тую бяду, дзяцей у яго шмат, ды ўсё дочкі, а сын адзінадзінюткі і апошні ў родзе, як на руцэ мезенец. А любіў жа князь яго!.. Вядома, багацце меў незлічонае, і пакінуць усё тое дзеўкам без працягу свайго князёўскага кораня было для яго вялікай крыўдаю. І таму княжычу маладому з малых год — усякае патуранне і пе́шчанне. А старэйшых дачок трымаў бацька ў строгасці і паслушэнстве. Прызначыў ім вялікі пасаг кожнай, як тое князёўскім дочкам належала, і ўсё. Больш ні на якую ласку яны не маглі спадзявацца, таму што ўся бацькоўская любоў і ўвесь князёўскі маёнтак быў маладому княжычу. Пачаў ён падрастаць і зраўняўся ў краснага малойца. Як ду-

бок, роўны, крэпкі, шчокі ружовыя, валасы русыя, вочы блакітныя. Нораву быў ціхага, паслухмянага і задуменнага. Сяброў-аднагодкаў у яго не было, таму што з мужыкамі знацца яму бацька не дазваляў. Больш любіў ён у сясцёр у святліцы сядзець ды іх песні дзявочыя слухаць.

Як надышла пара яго жаніць,— клапаціўся вельмі стары князь, каб працягваўся род,— надарыўся тут нечаканы выпадак. Ужо колькі год, як узяў у старога князя ў арэнду карчму — шынок па-нашаму — адзін польскі яўрэй. А стаяла карчма на скрыжаванні трох найгалоўнейшых дарог. Для карчмы тое месца было самае выгоднае, бо ростані тыя выходзілі проста да прыстані, а прыстань — на Прыпяці-рацэ. Па рацэ ў той час караблёў ішло безліч. Адкрыўся на рацэ канал Каралеўскі, па ім з Польшчы ды з іншых краін усякія тавары да Дняпра і далей ішлі. А люд па тых дарогах ездзіў гандлярскі, усё купец ды прыказчык, хоць і рознай нацыі — што паляк, што рускі, што немец,— а ўсё купец. Скора па ўсіх шляхах пайшла слава пра тую карчму, а яшчэ большая слава — пра дачку карчмара Сару. Расказвала бабка, што бачыла яна ў маладыя гады яе партрэт, выбіты на хустцы, дык прыгажэй на свеце дзеўкі не было.

Маляваў гэты партрэт заезны тальянец. Як угледзеў ён шынкарачку Сару, дык воч адвесці не мог, фарбы слязой мачыў, партрэт маляваў, а ёй усё пра любоў сваю гаварыў. У сваю Італію замуж за сябе зманьваў. Але не такая была шынкарская дачка, каб на ўгаворы паддацца. Сядзіць за прылаўкам, вокам не міргне. Хто ў шынок зойдзе, піць закажа — падасць з лёгкім паклонам і больш — ні-ні.

Хадзіў, хадзіў той тальянец, уздыхаў-уздыхаў, пакуль у адну ноч не павесіўся на высокай хвоі. Яшчэ большая слава пра тую карчму ды пра шынкарачку

Сару пайшла. І здарыўся тут выпадак маладому княжычу па гэтых шляхах пуць-дарогу мець. Заехаў у тую карчму, за ганаровы стол сеў, вакол яго слугі, сакалкі. Тут і напаткала бяда шынкарскую дочку. Як зірнула на маладога князя, так і вачэй не адвядзе... Той жа сядзеў задумаўшыся.

— Мядку паспытаем, ваша князёўская міласць? — кажа адзін сакалок.

Князь галавой задуменна кіўнуў, а шынкарачка ўжо з паклонам чарку сярэбраную падае. Пакланілася да зямлі, паднос трымае, а як галаву сваю падняла і чорныя косы з плеч страсянула, проста князю ў вочы глянула, дый той і самлеў. Глядзіць, вачэй ад шынкаркі адвесці не можа. Чарку сярэбраную не бярэ.

— Кепска просіш, дзяўчына! — смяюцца сакалкі. Тады і крыкні галоўны з іх:

— Наш князь-маладзец ад дзяўчыны чарачку сухую не бярэ! Трэба прыгубіць і князю губкі прысаладзіць.

— Праўда? — ціха пытае шынкарачка.

— Праўда,— адказвае князь.

Тут яна чарачку прыгубіла і маладога князя ў губы пацалавала. Чарку сярэбраную з падноса зняла і, як ён яе выпіў, шась за прылавак — і ў пакоі пабегла.

Сядзіць князь з сакалкамі, п'е, вясёлы нібы зрабіўся, а вочы задуменныя. Шынкарка ў той дзень так больш і не выйшла.

Словам, пачаў з той пары малады князь часцяком па тых дарогах ездзіць то на паляванне, то з палявання, то на рачныя караваны глядзець ды ўсё карчомку не мінае. Сакалкі сцямілі, што князю шынкарская дачка палюбілася, і яшчэ больш яму пра яе гавораць, зманіць яе на ночку прапануюць у суседні маёнтачак.

Так яно і выйшла. А як яе зманілі, тут шынкарская дачка князю і кажа:

— Жаніся са мною, тады кахаць, мілаваць буду.— Ды з тым назад на князёўскім рыдванчыку ўкаціла.

Як дачуўся пра тое стары шынкар, аж за валасы ўхапіўся.

— Сарка,— крычыць,— што сабе ў галаву ўзяла? Князь цябе каханнем адорвае, а ты што? Замуж! І мяне, і сябе пагубіць хочаш? Не ведаеш, што такое князь?

— Ведаю,— адказвае Сара, прыгажуня-яўрэйка.— Ведаю, што князь, што ён мяне кахае, душы не чуе, а калі кахае, значыць, і замуж возьме.

— Выкінь з галавы гэта. Дзе ты бачыла, каб светлы князь з беднай яўрэйкай ажаніўся?

— Калі кахае, дык ажэніцца,— адказвае ўпартая дачка.

Стаіць яна на сваім. Даведаўся пра тую няроўную любоў стары князь. Страшэнна загневаўся і, ні слова не кажучы сыну, загадаў сваім слугам старога карчмара схапіць і звязанага да сябе прывезці.

Карчмар у ногі князю паваліўся і са слязьмі моліць дараваць яго неразумнай дачцэ. Затым просіць рукі яму развязаць і вымае з кішэні хустку, на якой партрэт харашуні Сары тальянцам намаляваны.

— Ваша князёўская міласць, вось яна, мая дачка, карайце, мілуйце, але ўсяму віна — прыгажосць яе.

І расказаў князю выпадак той з тальянцам-мастаком, які на хвоі павесіўся. Задумаўся тут стары князь, сына кліча і пытае:

— Скажы, сын дарагі, надзея мая, што ты думаеш?

— Кахаю,— на карчмара паказвае,— яго дачку Сару і жаніцца прашу вашага блаславення.

Раззлаваўся князь:

— Не будзе табе майго блаславення.

Княզеньку з воч прагнаў, а карчмара загадаў у падзямелле кінуць.

Але малады князь тут таксама свой нораў паказаў. Быў у яго невялікі маёнтачак, ад нябожчыцы маці ў спадчыну дастаўся, ды золата-серабра каваны куфэрак. Завёў князь знаёмства з розным вушлым народам і пачаў яшчэ часцей са сваёй мілай сустракацца. А каб ніхто пра тое не ведаў, пабудаваў патаемна ад бацькі, пасярод вялікага — адным лясным людзям вядомага — возера каменны церамок і ў тым церамку пасяліў сваю мілую.

Хутка ён і сам на гэты астравок перабраўся, балазе зіма стаяла і па возеры напрасцяк санную дарогу праклалі. Сара ў хрысціянскую веру перайшла, і павінна было быць ім вянчанне па ўсяму закону. А зіма ў той год трымалася марозная, снежная. Возера льдом скавала ды снегам занесла. А як глянула вясна з туманамі, ды адразу вятры з Дняпра падзьмулі, і сонца прыпякло, крануўся ўраз усюды лёд. І на возеры ваду падняло, і пайшлі па ім гуляць тоўстыя крыгі. Вось тут церамок і разнесла. Князя ў той час там не было, ён яшчэ па саннай дарожцы пакаціў да галоўнага папа дамаўляцца, каб адразу па ўсяму закону з хрышчонай яўрэйкай шлюб узяць.

Дамовіўся з папамі і едзе вясёлы па веснавой бездаражы. Пад'язджае да возера, а па ім толькі хвалі ды крыгі гуляюць. Даведаўся ён ад рыбакоў, што ніхто з таго вострава і церамка жывы не выплыў. Пастаяў, пастаяў малады князь, пасля ўзышоў на высокі бераг, што векавымі соснамі зарос, ды з разбегу ў возера і ўхнуў. Не паспелі людзі да берага дабегчы, а ўжо яму крыгі галаву русую накрылі...

Дайшла пра тое вестка да старога князя. Карчмару ён загадаў камень на шыю прывязаць, у возеры ўта-

ціць, а сам пасумаваў, пасумаваў ды неўзабаве і памёр.

І завецца з той пары гэта Чырвонае возера яшчэ Князь-возерам...



## НАРАЧ

У гушчары старых бароў, як сляза, што ўпала з неба, блішчала вялікае возера. Вельмі прыгожае яно было. Расказы пра яго чароўнасць перадаваліся з паселішча ў паселішча і нават у далёкія краіны.

А яшчэ казалі людзі, што ў вёсцы, якая прыляпілася да аднаго з берагоў таго возера, жыла дзяўчына-сірацiна Найрыта, аднавяскоўцы звалі яе Нарай. Вочы яе блакітныя, колеру азёрнай хвалі, заўсёды весела ўсміхаліся. Залацістыя валасы тугой касою абкручвалі галаву. Голас у яе быў высокі і гучны.

Бывала, сядзе на беразе пад разлапістым клёнам, дзе збіралася звычайна моладзь, на гусельках грае і спявае. Спачатку голас павольна плыве, а пасля ўзлятае высока і ляціць над узбярэжжам. У гэты час і птушкі змаўкалі. Людзі забываліся пра сваё гора.

Аднойчы, калі Нара спявала, праязджаў вёскаю пан, стары ўдавец. Пачуў ён дзівосную песню і загадаў спыніць каня. Слухаў, слухаў і сказаў Нары:

— Прыгожая кветка вырасла ў дзікім краі. Табе толькі спяваць у маіх пакоях.

— Кепская з мяне будзе служанка,— прамовіла Нара.

— Ты будзеш гаспадыняй, жонкай маёй.

Вакол Нары сядзелі на зялёнай мураве дзяўчаты і хлопцы. Адзін з іх, чарнявы юнак, падышоў да пана.

— Гэта мая нявеста,— сказаў ён,— а пан няхай сярод паноў жонку шукае.

— Ці не сын ты таго Пятра, што бунтаваў мне народ? — успомніў пан, чырванеючы ад злосці. І залямантаваў: — Узяць яго!

Прыслужнікі звязалі Андрэя і павезлі ў маёнтак. Больш яго ніхто не бачыў. Праз некаторы час пан зноў прыехаў да Нары даведацца, ці згодная яна прыняць з ім шлюб. Дзяўчына зрабіла выгляд, што згадзілася. Тут і дамовіліся пра вяселле.

Надышоў гэты дзень. Злосны вецер гнаў цёмныя хмары, а лес спяваў жалобныя песні. Нара ехала на фурманцы ў маёнтак, у руках трымала пакунак. Сустрэлі яе служанкі. Завялі ў панскія пакоі і апранулі ў шлюбнае адзенне. І Нара выйшла такой прыгажуняй, якія толькі ў казках і бываюць. Пакланілася яна пану ды папрасіла, каб перад шлюбам крышку адной пабыць у пакоях. Пан згадзіўся. Ходзіць ён па двары, на служанак пакрыквае і на дзверы паглядвае.

А Нара тым часам з пакунка дастала смалякі ды падпаліла пакоі адзін за адным. І калі шугануў чорны дым з вокнаў, а на даху заскакалі чырвоныя пеўні, выскачыла праз акно і на сваёй фурманцы, паганяючы каня, памчала ў вёску, на тое месца, дзе з Андрэем часта сустракала ўсход сонца, прыхілілася да клёна і горка заплакала.

Ды тут пачуўся конскі тупат. Панскія служкі! Бегалі па ўсёй вёсцы. Людзей бізунамі білі. Дапытваліся, дзе Нара.

— Вунь яна! — закрычаў нехта.

— Жывую не возьмеце,— крыкнула ворагам дзяўчына і кінулася да возера.

Цёмныя хвалі з белымі баранчыкамі ішлі адна за адной, а на беразе калыхаўся човен. Той човен, у якім Нара з Андрэем не раз каталіся. Спрытна і ўмела ўхапілася яна за карму і, адштурхнуўшыся ад берага, села ў човен.

— Я адпомсціла, пан, за Андрэйку, за яго бацьку і за ўсіх, хто загінуў ад тваіх рук у тваім маёнтку,— прашаптала Нара.

Ад злосці панскія служкі кінулі гуслі ў возера. А човен адплываў усё далей і далей, потым зусім знік у хвалях.

Усю ноч бушавала возера. Стагналі хвалі...

З таго часу і назвалі людзі возера імем смелай дзяўчыны — Нарач.

* * *

Даўным-даўно ў адной з нарачанскіх вёсак жылі чароўная дзяўчына Галя і прыгожы юнак Васіль. Моцна кахалі яны адно аднаго. Хлопец — майстар-штукар. Ён зрабіў незвычайнае люстэрка і падарыў яго сваёй каханай. Толькі нядоўга былі шчаслівыя Васіль і Галя. Ненавісны багацей Барына захацеў завалодаць прыгажуняй. Бацька Галі заступіўся за дачку і загінуў. На выручку ёй прыйшоў Васіль. Ён забіў ненавіснага Барыну, вызваліў каханую, але ў няроўнай сутычцы загінуў і сам. Гэта бачыла Галя. Яна страціла прытомнасць і выпусціла з рук люстэрка. На часткі разбілася яно. А на месцы, дзе ўпалі сярэбраныя асколкі, утварылася возера.

З тае пары дзяўчына крылатай чайкай кружыць над Нараччу і спявае для любага свае песні.

* * *

Не было Нарачы тут. Не было Баторына і Мястра. Не было гэтых белакорых прыбярэжных бяроз, тужлівага крыку чаек і выбеленых стагоддзямі аблачын. Была зямля — гіблая, чорная, як і яе абрабаваная доля. І жыла на гэтай зямлі непрыгожая, рабая, як і сама зямля, дзяўчына Алёнка. Але душой была Алёнка святлей самага белага дня — столькі непрыкметнага харáства таілася ў ёй. Радаваліся дзявочай дабраце простыя людзі, не раз сушыла яна слёзы іх горкай нядолі. І ўсім сэрцам пакахаў рабую дзяўчыну хлопец-прыгажун.

Толькі сярод людзей былі і нядобрыя, злыя людзі. Яны балюча дакаралі хлопцаву ніцавокасць, павучалі яго:

— Вачэй мець не трэба, каб бачыць, якая чорная, брыдкая твая абранніца.

Захлынулася пакутнай журбою раненае сэрца. Да світальных зор насіў хлопец па чорнай зямлі горкую скруху, і яна лілася з сэрца самотнай, тужлівай песняй. І столькі непадробнага пачуцця было ў яе простых словах, столькі жадання надзяліць прыгажосцю свет цэлы. Не магла песня не крануць сэрца добрага чараўніка. І ён, расчулены ёю да слёз, вырашыў дапамагчы хлапечай бядзе: падараваў яму чароўнае люстэрка.

Паглядзелася ў люстэрка Алёнка — прыгажуняй няпісанай стала. Пасвятлела на чорнай зямлі ад яе дзівоснай красы. У сведкі да іх шчасця клікаў хлопец усіх добрых людзей. Упершыню яго сэрца пела пра шчасце.

Аднак нядоўгім было яно. Дачуўся пра цуд гэты магнат з палаца. Зайздрасцю засвяціліся хіжыя вочы, калі паланянка-прыгажуня пераступіла княжы парог.

— Гэты скарб за ўсё маё даражэй,— адно і сказаў стары князь.

Каханых разлучылі.

Заклінаючы сваю прыгажосць, жорстка пакарала ў палацы магната чароўнае люстэрка дзяўчына. У гулкім вясельным гомане пырснула яно дробнымі асколкамі-промнямі. І там, дзе ўпалі асколкі, імгненна ўзышла крыніца, забілася ўспененая, бурная, як дзявочая нянавісць. Пад хвалямі, празрыстымі і светлымі, як само каханне, хавала яна княжы палац. А калі пенныя хвалі ўлагодзіліся, вачам людскім адкрыўся дзівосны цуд: ляжала перад імі вялізнае возера з блакіту і зор. І той, хто глядзеўся ў яго, прыгажэў душою і сэрцам...

А Нарач — значыць, хлопцава нарачоная.



## ВЯЛІЧКАЎСКАЕ ВОЗЕРА

Даўным-даўно ля дарогі (цяпер шаша Ліда — Навагрудак) стаяла вялікая вёска Вялічка. Людзі жылі ў ёй багата. Толькі на канцы вёскі ад дарогі жыла бедная ўдава з маленькімі дзяцьмі.

Аднойчы ў вёску прыйшоў жабрак, стары сівы дзядок. Ён абхадзіў усе двары, але яму ніхто нават і скарынкі ў торбу не кінуў. Зайшоў дзед і да ўдавы. Ужо вечарэла, і дзядок папрасіўся нанач. Жанчына ласкава запрасіла старога сесці і дала павячэраць міску нішчымнай заціркі. На гэтую зацірку яна заварыла апошнюю жменю жытняй мукі. Жабрак застаўся начаваць.

Назаўтра жанчына ўстала і здзівілася: у хаце і ў каморы было многа хлеба і ўсяго другога. А дзед ёй сказаў:

— Выйдзі, кабета, з хаты з дзяцьмі і ідзі не аглядаючыся, хоць што-небудзь і пачуеш. Як аглянешся, то на месцы тваёй хаты вырасце груша.

Жанчына так і зрабіла. Толькі яна адышла за вёску, як пачула ззаду трэск, шум і енк людзей. Усё крышылася і ламалася. Вёска прапала, а на яе месцы ўтварылася возера, а замест хаты ўдавы на беразе возера стаяла груша. Жанчына павярнулася, хацела пайсці паглядзець, што здарылася, але ж адразу ператварылася ў камень.

На другі дзень людзі з суседніх вёсак бачылі, як з возера выплывалі аконныя рамы, дзверы і іншая хатняя дробязь. Людзі пачалі збіваць жэрдкі, каб памераць дно, але з вады чалавечы голас сказаў:

— Не мерай тычынаю, бо памераеш галавою.

Усё ж такі самыя цікаўныя ўзялі доўгую вяроўку, прывязалі камень і апусцілі на дно. Дна не дасталі, а з вады пачуўся ізноў голас:

— Не мерай вяроўкаю, бо памераеш галоўкаю.

Адзін чалавек пры гэтым утапіўся, і яго як ні шукалі, не маглі знайсці, хоць возера было невялікае.

Цяпер на беразе Вялічкаўскага возера расце старая груша і ляжыць вялікі камень з адбіткам быццам бы жаночае рукі.



## ВОЗЕРА БЯЗДОНКА

Паміж вёскамі Ісаевічы і Дзераўной ёсць прыгожае лясное возера Бяздонка. Ні адзін ручай не ўпадае ў гэтае возера і не выцякае з яго. Зімою возера не замярзае. Ляжыць яно паміж невысокіх гор. Пра гэтае возера расказваюць так. Даўным-даўно жыў у Ісаевічах пан. Было ў яго многа нявольніц — прыгожых дзяўчат з усяго свету. Жылося ім вельмі цяжка. Пан і яго падпанкі здзекаваліся з дзяўчат. Аднаго разу пан узлаваўся на дзявок, схапіў трохлетняга хлопчыка і кінуў у возера, нікога не дапусціў да возера, пакуль хлопчык не захлынуўся чорнаю вадою. Маці доўга шукала сына, каб пахаваць. Але возера было такое глыбокае, што дна ніхто не мог дастаць. Возера страшна бушавала, вада была чорная, як сажа. Не вытрымала маці свайго вялікага гора і ўтапілася. Вада ў возеры з тае пары стала чыстая і падобная да матчыных слёз.



## ВОЗЕРА КРАСНЫ СТАЎ

Каля Клецка князь Міхаіл Глінскі ў 1506 годзе атрымаў вядомую перамогу над татарамі, загінула іх

там каля дваццаці тысяч. Трупамі сваімі яны загацілі ўсё возера, так што вада ў ім зрабілася чырвоная. Ад таго возера і празвалі Красны Стаў.



## СІНЯЕ ВОЗЕРА

У нашым лесе ёсць вялікае балота, а сярод гэтага балота ёсць возера. Вакол возера растуць журавіны. Возера не шырокае, але да яго нельга блізка падысці, вагаюцца берагі. Цяпер яно крыху высахла, засталося невялікае вочка, якое не замярзае зімой. Гавораць, што на гэтым месцы, дзе цяпер возера, стаяў замак. У замку жыў граф. У графа была дачка. Граф хацеў аддаць яе за старога князя, а яна не згаджалася, любіла конюха, які быў на канюшні ў бацькі. Вось граф назначыў дзень заручын з князем, а яна дамовілася з конюхам уцячы. Аб гэтым ніхто не знаў, знала толькі служанка. Калі яны сабраліся ехаць, служанка раскрыла тайну — сказала маці. Маці пракляла іх, калі яны выехалі з замка. І апоўначы замак праваліўся,— утварылася возера. Гавораць, што як толькі наступае поўнач, на возера прылятаюць два чорныя лебедзі. Яны садзяцца на возеры і плаваюць па кругу. Але адзін да аднаго не могуць наблізіцца: маці іх пракляла.



## СІНІ КАЛОДЗЕЖ

Даўно колісь гэта было, шчэ спрадвеку. Жылі ля Прапойска два багатыры — Сцяпан і Марка — і багатырка Кацярына. І багатыры гэтыя абодва заляцаліся перад ёй. Сцяпан быў слабейшы, ды ёй любы, а Марка сільнейшы, ды нялюбы. Ну, дайшла справа да таго, што трэба хоць за каторага ды замуж ісці,— сватаюцца дужа. Што ёй рабіць? Пайду, думае, за Сцяпана — Марка яго заб'е; пайсці за Марку — Сцяпана шкада. Думала, думала і прыдумала:

— Ну,— гаворыць,— дам я вам па камню, хто далей свой камень шыбане, за таго замуж пайду.

Дык любаму яна дала меншы камень — з стол, а нялюбаму большы — з мужыцкую печку. Ну, і сталі кідаць праз Сож з гарадца во з Прапойска. Дык яны як размахнуліся, дык як кінулі, ажно за дзевяць вёрст. Ну, пайшлі глядзець, чый далей. Бачыць яна — аж любага камень ляжыць. Стала тагды багатырка на гэты камень — аж сляды выціснула, шчэ й цяпер значны,— стала глядзець, аж нялюбага камень далей сажняў на пяцьдзесят. І на тым камні відны пальцы рук багатырскія. От яна тагды і гаворыць:

— Чым мне даставацца нялюбаму, дык пайду лепей вадой служыць.

Як бразнулася з камня, разлілася вадой і пачала ныраць: ямы, ямы ўсюды там. А выскачыла з-пад зямлі ўжо вёрст за пяць ад Прапойска, сюды, бліжай к Сожу. Дык вада б'е ў рост чалавека, і вада сіняя. Так і завецца Сіні калодзеж. І колькі там народу бывае — божа, божа!

А як даведаліся пра гэты Сіні калодзеж, дык гэта во як. Быў там ляснік Шэпіт. Ён кожны раз абходзіў свае дзесяціны. Вот раз ідзе ён, чуе — шумота, за дзве вярсты чутно.

— Што за штука? — думае.— Кожны раз хаджу — нічога не было, а тут шум. Дай пагляджу!

І пайшоў ён туды,— ажно б'е вада сіняя-сіняя з-пад зямлі ў рост чалавека. І стаіць ля калодзежа жанчына, косы распусціўшы, і чэшацца. Шэпіт спужаўся. Але думае:

— А што будзе не будзе, пайду-тка я яе зачураю!

Падыходзіў да яе, ды неяк не пасцярогся — галінка хруснула пад лапцем. Дык яна зірк!

— А, Шэпіт! Хацеў зачураць мяне! Будзе ж у твой род патопа.

Ды сама ў калодзеж. Дык на трэці дзень у яго дочка, дзевятнаццаць гадоў, утанула ў Сожы. Во!



## ПАНЕНЧЫНА БУХТА

На Беларусі цячэ рака Вуша. Каля яе ёсць вялікі луг, які раней належаў нейкаму пану, што меў восем вёсак. Сяляне гэтых вёсак працавалі на пана. Гэты пан меў тры дачкі, дзве з іх былі прыгожыя дзяўчыны. Яны павыходзілі замуж і жылі так, як і іх бацькі. Трэцяя ж дачка была непрыгожая. Яна вельмі ненавідзела харошых жанчын і мужчын.

У час касьбы маладыя хлапцы і мужчыны надзявалі сваё лепшае адзенне і ішлі касіць. Сярод касцоў быў адзін прыгожы, стройны юнак, якога паненка не

любіла. У час касьбы яна пад'язджала да гэтага маладога хлапца, які зваўся Антосем, і збівала яго мянташкай за непрывітанне з ёю.

На наступны год яна прыязджала і карала яго за тое, чаму не сустракаюць яе з песнямі. Вяскоўцы смяяліся з Антося, што прыйдзе касавіца і зноў будзе цябе мянціць паненка.

На трэці год у касавіцу прыехала паненка, касцы сустрэлі яе прывітаннем і песнямі. Паненка разгневалася за тое, чаму яны ў такі гарачы час не працуюць і зноў хацела пакараць мянташкай прыгожага Антося. Але ў яго не хапіла цярпення. Ён схапіў паненку, павалок у рэчку і ўтапіўся разам з ёю.

Пакуль дасталі іх з вады, то і паненка, і Антось былі мёртвыя. І па сённяшні дзень гэтае месца, дзе ўтапілася паненка з маладым Антосем, называецца Паненчынай бухтай.



## ЖЫВАЯ ВАДА

Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, каля яе біла крыніца з жывою вадою. Прыходзілі сюды людзі хворыя і кульгавыя, а калі памыюцца жывою вадою, дык адыходзілі здаровыя. Слава аб цудоўнай крыніцы ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных краёў людзей няшчасных на вылячэнне.

Аднойчы прыйшла аднекуль да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без спросу ў людзей выкупала сабаку ў жывой вадзе.

— Што ты робіш? — абурыліся хворыя і калекі.— Ці ж можна купаць у цудоўнай крыніцы нячыстае стварэнне?

— Мой сабака чысцейшы ад вас, паганых,— фанабэрыста адказала пані.

Ніхто з людзей не пасмеў пярэчыць знатнай пані і яе здаравенным лёкаям.

Як толькі панскі сабака вылез з вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся, жывая вада знікла.

Жаласны стогн пракаціўся па натоўпе... Пані, прадчуваючы нядобрае, праз момант знікла. Людзі кінуліся ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто мог. Капалі і рыдлёўкамі і рукамі. Капалі і многа і доўга. Але не маглі трапіць на яе след. Зямля ўсюды была сухая. Пасмутнелыя людзі разбрыліся па сваіх хатах.

Праз нейкі час на месцы цудадзейнай крыніцы зноў з'явілася вада. Але яна ўжо не біла халодным струменем, а кропля за кропляй сачылася, быццам слёзы. Людзі зноў кінуліся да крыніцы. Кропля да кроплі збіралі ваду і шукалі ў ёй ратунку ад сваіх няшчасцяў і хвароб. Але вада больш не лячыла.

Як знікла крыніца з жывою вадою, на вёску пасыпалася няшчасце за няшчасцем. Ноччу ўвосень невядома ад чаго згарэла старая царква. Людзі ўміралі, як мухі, і некаму было хаваць нябожчыкаў. Людзі ва ўсім вінавацілі фанабэрыстую знатную пані з сабакам. Не шукалі яны збавення ў крыніцы. Сцежкі да яе хутка зараслі травой і карчамі, а людзі пачалі забываць месца, дзе некалі біла жывая вада. Крыніца ж не дала забыць аб сабе. Нават тады, калі збожжа на палях жоўкне ад няўмольнай засухі, на месцы крыніцы заўсёды кропля за кропляй сочыцца вада, быццам слёзы па загубленым шчасці.



## ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ МЕНСКА

Між Татарскім канцом і Пярэснінскім мастком, ля самага Віленскага паштовага шляху, некалі пасяліўся славуты асілак-знахар па празванні Менеск, ці Менскі, і пабудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сем колаў. Ніхто самога Менеска не бачыў, тым не менш у навакольных мясцовасцях свіслацкай зямлі чуваць былі самыя фантастычныя расказы пра яго сілу. Кажуць, што ў яго млыне мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што апоўначы ездзіў ён на сваім млыне па селішчах і набіраў дружыну з харобрых, смелых, дужых людзей, з якіх пазней утварыўся цэлы народ і пасяліўся побач з млыном.

Тут і быў заснаваны горад і названы імем волата — Менск.



## ПАДАННЕ ПРА МАГІЛЁЎ

Свеціць сярэбраны месяц з чыстага неба і святлом сваім залівае лясы і горы, рэчкі і ўзгоркі. Песціцца і млее ўся зямля, і мацней пануе на ёй палкая, гарачая

любоў. Гучней стукае сэрца ў чалавека, гарачэйшая робіцца кроў, рукі цягнуцца для пяшчотных абдымкаў, вусны шукаюць пацалунка.

Сядзіць пад запаветным дубам добры малойца Машэка, глядзіць у сярэбраную даль і думае думу пра сваю любу, пра мілую Прадславу. Запёрта яна, бедная, цяпер у душным палацы за сямю замкамі, і не выйсці ёй адтуль. Баліць у яе сэрцайка, ірвецца да дружка сардэчнага, і не ведае яна, што сядзіць ён недалёка ад яе палаца і думачку думае сваю:

«Ах, люба, люба мая, Прадслава, сонейка краснае, каб ты была тут побач, каб прыйшла ды суцешыла мяне, сіраціначку».

Раптам, нібы светлая хмарачка на небе, выплыла з бліскучай імглы белая здань жанчыны. Ускочыў Машэка: пазнаў ён сваю Прадславу, і вокліч захаплення гатовы быў ужо зляцець з яго вуснаў. Але ў гэтае імгненне з той самай імглы паказалася іншая постаць, чорная, з бліскучым шышаком на галаве. Пацямнела ў вачах у Машэкі. Нібы ў сне ўбачыў ён, як кінулася Прадслава ў абдымкі да чорнага рыцара і як вусны іх зліліся ў пацалунку. Падскочыў ён да здрадніцы і толькі тады схамянуўся, калі кроў суперніка пралілася на зямлю. Бледная, дрыжучы, стаяла перад ім Прадслава, і такой бездапаможнаю здалася яна Машэку, што ён не пажадаў нават забіць яе і, адвярнуўшыся, пайшоў у белы свет.

Ішоў ён доўга, і чым далей ішоў, тым усё зласнейшы рабіўся супраць усяго роду чалавечага, усё мацней разгаралася ў ім прага да помсты.

І гатовы ён ужо быў затапіць увесь свет крывёю людской. Так дабрыў да правага берага Дняпра, да Гвраздоўкі, страшнага логава разбойніка Гвазда. Укленчыў перад ім і сказаў:

— Вазьмі мяне, Гвозд, да сябе, не пасрамлю цябе

і твайго рамяства. Прывяла мяне сюды злоба лютая і помста страшэнная, і даю я табе зарок вялікі — не шкадаваць ніводнай душы жывой, а калі пашкадую каго, дык няхай я ад таго і загіну.

— Добра,— сказаў Гвозд,— ідзі за роў і працуй.

Пайшоў Машэка на другі бераг рова, заснаваў там сваё логавішча, назваў яго Машэкаўкаю і стаў наводзіць жах на ўвесь край. Мучыў і забіваў ён няшчасных падарожнікаў, рагатаў з іх просьбаў, здзекаваўся з іх слёз, не шкадаваў нікога: ні старых, ні дзяцей, ні мужчын, ні жанчын. Памёр даўно ўжо Гвозд, а Машэка за абодвух працягваў паліць і рабаваць, забіваць і мучыць. Але не мог крывёю затапіць сваіх пакут: любы вобраз часта паўставаў перад ім у начной цішы, і плакаў тады люты Машэка, бы малое дзіця, і праклінаў свой злы лёс.

Раз была такая месячная ноч, як тады, калі апошні раз ён бачыў сваю мілую. Сядзеў Машэка на камені, журботна звесіўшы галаву на грудзі, лёгкі ветрык гуляў над пасівелымі яго валасамі, і слёзы адна за другою буйнымі дыяментамі падалі на зямлю і зліваліся з расою.

Раптам пачуліся конскі тупат, галасы і шум, і праз хвіліну яго зграя прывяла двух новых палоннікаў.

— Як іх пакараць? — пытаюць у яго малойцы.

Але Машэка маўчаў і няўцямнымі вачыма глядзеў на жанчыну, што стаяла перад ім. Гэта была яна, Прадслава. Нарэшце, нібы апрытомнеўшы, правёў леваю рукой па лбе, правай махнуў на спадарожніка Прадславы і, абняўшы сваю любу, павёў яе ў будан. Тут укленчыў перад ёю і пачаў цалаваць яе рукі, і плакаць, і смяяцца, і папракаць.

— Не палюбоўніка майго забіў ты,— сказала яна,— а забіў брата майго, які быў пасварыўшыся з бацькам і патаемна са мною бачыўся. Але я дара-

вала табе, мой любы. Доўга я чакала цябе. Кінь свой страшэнны занятак, і ўцякайма. Уцякайма туды, дзе ніхто нас не ведае.

— Бяжым, бяжым, мая люба. Бяжым заўтра, а сёння дай адпачыць з табою разам ад столькіх жахаў і пакут.

— Добра,— сказала Прадслава.

Але не доўга адпачываў Машэка. Толькі салодкі сон заплюшчыў яго павекі, як каварная люба ўткнула яму з усмешкаю ў горла востры нож.

— Памры, сабака,— прамовіла яна.— Хоць і загіну ад тваёй подлай чэлядзі, але я ведаю, што адпомсціла табе за сябе і за ўсіх.

Прадслава не памылілася: закапалі яе жывую разам з забітым ёю Машэкам, а насыпаны над імі курган быў названы Магілаю Льва. Адсюль і горад, які ўзнік потым на гэтым месцы, пачаў называцца Магілёвам.



На тым месцы, дзе цяпер стаіць Магілёў, быў цёмны, непраходны лес, які не прапускаў нават сонечныя праменні; ад яго і Дняпру было цесна. Дняпро ў той час быў шырокі і сярдзіты. У тым лесе жыў страшны разбойнік, якога звалі Машэкам. У яго была такая вялікая сіла, што ён адною рукою спыняў экіпаж з васмерыком коней на ўсім скаку, ухапіўшыся за кола, адным разам вырываў з карэннямі высокія сосны. Хадзіў ён у мядзведжай шкуры поўсцю ўверх. Не такі тады быў народ, як цяпер, шмат было асілкаў, але ўсе дрыжалі перад Машэкам. Нават пяць дзесяткаў нічога не маглі зрабіць супраць аднаго. Машэка наводзіў жах на ўсе навакольныя селішчы. Нягледзячы

на тое, што людзі жылі тагды вялікімі сёламі, ён, не баючыся, прыходзіў у кожнае сяло і браў, што яму было трэба; усюды самі адчынялі яму вароты, абы толькі пакінуў душу ў целе. Не раз выходзілі супраць Машэкі цэлымі палкамі, але ён жыў у такой непраходнай пушчы, што ніхто не знаходзіў не толькі яго бярлогі, але і дарогі назад, і ўсе або паміралі з голаду, або гінулі ад удару разбойніка. Але і на Машэку прыйшла пагібель. Чаго не змаглі зрабіць сотні людзей, тое зрабіла адна жанчына.

Раз па дарозе праз лес ехала плеценая брычка, запрэжаная васьмерыком коней. У ёй сядзеў малады мужчына з прыгажуняй-жанчынай. Тут з'явіўся Машэка з-за агромністай елкі, мігам спыніў брычку і ўраз забіў кучара, што той не паспеў нават азірнуцца. Мужчына, што сядзеў у брычцы, бачыць, што тут кепскія жарты, выхапіў шаблю і з усяго размаху стукнуў Машэку па галаве, але шабля зламалася аб стальное шчацінне, а мужчына прырос да свайго месца ад аднаго ўдару разбойніка. Глянуўшы на жанчыну, Машэка стаў як укопаны: ён пазнаў у ёй сваю знаёмую. Гэта яна, адхіліўшы яго любоў, прымусіла Машэку пасябраваць з буйным ветрам.

Ачуняўшы пасля здзіўлення, Машэка ўзяў у лапы паўмёртвую ад перапуду прыгажуню і аднёс у сваю бярлогу. Тут яна апрытомнела, адразу зразумела, што з ёю, і прыдумала, як загубіць разбойніка. Прыкінулася яна лагоднаю, паслухмянаю, і разбойнік зусім ёй даверыўся. І вось раз ён бяспечна заснуў пры ёй моцным сном. Яна асцярожна дастала вялізны нож, і кроў лінулася ракой з разрэзанага горла разбойніка. Учыніўшы гэтак, прыгажуня неяк выйшла на дарогу, прыйшла да сваіх і паказала ім праклятае месца, дзе з вялікай знявагай закапалі таго людаеда і назвалі тое месца Магілаю Льва.

Недалёка ад таго месца знайшлі высокі бугор, ці гару, якая ўся была аблітая крывёю і ўсыпана касцямі нявінных ахвяр зверстваў Машэкі.

Гэтая гара і цяпер называецца Машэкаўкай, ці Машакоўкай, на ёй гарадскія могілкі.

Пасля Машэкі тут жыло яшчэ многа разбойнікаў. Мясцовыя ўлады гэтае месца прызначылі для ссылкі злачынцаў. Ссыльныя памалу высеклі лес і прагналі разбойнікаў. Пазней на гэтым месцы заснавалі горад, які ад магіл забітых разбойнікамі людзей, ці ад магілы льва-Машэкі названы Магілёвам.



## ПАДАННЕ ПРА ЗАСНАВАННЕ БЯРЭСЦЯ

Нібыта вёз купец на калёсах свой тавар у Літву ды заграз у багністых балотах. Не выбрацца. Пачаў абдзіраць бяросту і засцілаць ёю гаць. А калі назад з Літвы вяртаўся, пабудаваў на гэтым месцы каплічку. Да той каплічкі, як да святога месца «на бярэсце», пачалі сыходзіцца людзі. Месца было лёгка ўмацаваць ад ворагаў. Вакол — прыродныя абарончыя равы — рукавы Мухаўца.

І пачалі асядаць тут людзі, пачалі будаваць горад «на бярэсце».



## АДКУЛЬ ГОМЕЛЬ

Там, дзе цяпер стаіць Гомель, пасярэдзіне ракі Сож некалі было намыта шмат пяску. Каб плыты і баркі, што плылі па рацэ, не ўзбіваліся на мель, на беразе каля гэтага месца заўсёды стаяў чалавек і крыкам папярэджваў:

— Го! Мель! Го! Мель!

Вось і пайшло — Гомель.



## ЯК ПАЎСТАЎ ГОРАД БРАСЛАЎ

Не сто, не дзвесце, можа, тысячу гадоў назад на Замкавай гары жыў вядомы і багаты князь Дзвін.

Была ў князя жонка Друя. Многа гадоў пражылі яны ў згодзе.

Канчаўся знакаміты род Дзвінаў.

І вось у Друі нарадзілася дачка Дрыва.

Калі вырасла яна, пайшла чутка, што няма на зямлі другой такой прыгажуні. Не адзін князь хацеў узяць Дрыву за жонку. Але не было ў князёў столькі багацця. І толькі тры князі — пскоўскі Сноў, лукомльскі Снуд і полацкі Брас — маглі сапернічаць з Дзвінам.

Але яны не падабаліся Дрыве.

— Толькі самы харобры стане маім мужам,— сказала Дрыва.

Сноў і Снуд вырашылі, што Дрыве падабаецца Брас. Яны задумалі забіць Браса.

Доўга чакалі такога моманту. І вось аднойчы ім стала вядома, што цёмнай ноччу Брас павінен ісці ў замак Дзвіна. Князі падпільнавалі Браса і забілі яго.

Цяпер нехта з іх можа стаць абраннікам прыгажуні. Саапернікі пачалі біцца.

Снуд перамог і забіў Снова, але і сам памёр ад ран. Раніцой іх знайшлі пад гарою. Тым часам людзі даведаліся, што Снуд і Сноў забілі не Браса, а яго слугу Беранса.

Брас усё зразумеў і пайшоў у замак да Дзвіна.

— Калі не аддасі мне Дрыву,— сказаў ён старому Дзвіну,— я вазьму яе сам.

Пачула гэта Дрыва і кінулася ў Дрывяты.

Смерць дачкі не перажыла Друя.

Яна ўтапілася ў Друйцы.

Памёр ад гора стары Дзвін.

Тады забраў Брас замак і стаў кіраваць горадам.

А гораду далі імя Браслаў.



## ВАЛОЖЫН

З Вільні ганялі ў Мінск валоў прадаваць, а ў Валожыне рабілі папаску, бо быў там вялікі лес...

Таму і назвалі Валожын, або Валыжэнь: валы жэнь! Гані валы, значыць.



## ПРА ДАВЫД-ГАРАДОК

Давыд-Гарадок — паселішча вельмі старажытнае. «Гарадок Давыда»! Чаму ён так называецца і хто быў Давыд?

Паводле старадаўняга падання, гэта нейкі ятвяжскі князь, які перайшоў у хрысціянства. Ён пабудаваў на гары, на востраве ракі Гарыні, замак і горад, які да нашых дзён носіць яго імя.



## АДКУЛЬ ІВЯНЕЦ

У глыбокай старажытнасці адна вельмі багатая княгіня, невядома адкуль праязджаючы праз Івянецкую мясцовасць, угразла разам з брычкай і коньмі ў невялікай балоціне... Людзі навокал не жылі, і таму ратаваць не было каму. Княгіня, бачачы немінучую пагібель, прыйшла ў роспач і ў той самы час убачыла недалёка прыгожую жанчыну, што пляла вянок з кветак.

— Як мне выратавацца ад няшчасця? — запыталася княгіня ў жанчыны.

— Згадзіся насяліць гэту мясцовасць народам — выратуешся,— сказала жанчына.

— Згодна,— адказала княгіня.

Коні ж адразу выйшлі з балота, нібы з ручая, не адчуваючы ніякага цяжару.

Тады княгіня запытала ў жанчыны, як назваць гэта месца.

— Ці бачыш у маіх руках вянок?

— Бачу,— адказала княгіня.

— Дык назаві новае месца Івянцом,— сказала дзіўная жанчына і знікла.



## ПРА КАЖАН-ГАРАДОК, МАЙДАН І ВІДУШАВУ ГАРУ

З даўніх часоў насельніцтва гарадка займалася не толькі рыбнай лоўляй і сплавам лесу, але і вырабам скуры. Адсюль і пайшла назва: на польскай мове — Скужаны грудэк, а па-руску — Кожевенный городок.

Старыя людзі кажуць, што ў 1863 годзе ў Кажан-Гарадок прыйшлі паўстанцы. Яны хаваліся ў старым драўляным касцёле. Відаць, гэта былі людзі Каліноўскага, бо, па ўспамінах старых людзей, паўстанцы часта казалі, калі што якое:

— Будзем скардзіцца Кастусю!

Адна з ускраін Кажан-Гарадка называецца Майдан. Гавораць, што тут стаяла калісьці татарская конніца. З тых часоў і захавалася гэтая назва, бо на татарскай мове слова «майдан» азначае і плошчу, і рынак, і месца, дзе стаяць коні.

Узвышша каля Майдана тутэйшыя людзі назы-



## АДКУЛЬ ПАЙШЛО ПРОЗВІШЧА РУБЦОЎ

Паходжанне майго роду няясна. Я сам нядаўна даведаўся, што прадзед мой быў беглы і, ратуючыся ад кары, прыпісаўся прыгонным да нейкага памешчыка ў Манастыршчыне. Пра сябе ён сказаў толькі тое, што завуць яго Антон. А так як уся спіна яго была пакрыта рубцамі ад пабояў, дык пан нібы вызначыў:

— Будзеш Антон Рубец.

Адсюль і пайшло прозвішча Рубцоў.

Дзіўна тое, што нават паміраючы, ён не сказаў сваім дзецям, гэта значыць і майму дзеду,— хто ён і адкуль. Сказаў толькі, як перадалі мне сваякі:

— Ведаць гэта вам ні да чога.



## АДКУЛЬ ПРОЗВІШЧА ХАМУТНІК

Кажуць, нейкі пан Драздоўскі выйграў у карты ў свайго суседа фальварак. Прыехаў туды, глядзіць, цешыцца. Загадаў аканому падаць сабе спісак прыгонных мужыкоў. А там — паншчыны селянін з прозвішчам Драздоўскі. Ускіпеў новы ўладальнік, ускочыў у брычку ды да ксяндза паімчаў. Сказаў выняць метрыкальныя кнігі, пырнуў пальцам у прозвішча таго селяніна:

— Хам не можа называцца так, як я! — крыкнуў.— Выкраслі і напішы Хамут. Вечным Хамутом ён быў і будзе, а ўсе яго нашчадкі Хамутнікі.

Што ж, панскае слова — закон.



## ПАПОВА ГОРКА

На ўскраіне Нясвіжа, за возерам стаіць узвышша, якое і цяпер у народзе называюць Папова горка. Было гэта вельмі даўно. Некалі на гэтай горцы стаяла царква. Далёка навокал разлягаліся ўладанні князёў Радзівілаў. Аднаго з уладарных князёў Радзівілаў празвалі Сіроткам. Так назваў яго польскі кароль, які гасцяваў у Нясвіжскім замку, калі ўгледзеў малое дзіця, якое ляжала адно ў пакоі, бо бацькі яго ў гэты час балявалі ў палацы. Сіротка ажаніўся з каталічкаю, быў удзельнікам апошняга крыжовага паходу ў Палясціну і заядла насаджаў каталіцтва ў сваіх уладаннях. Сам папа Рымскі прэзентаваў яму падарунак — дарагі срэбны сталовы сервіз аж на дзвесце гасцей. Прыбор быў вельмі тонкай работы і адлюстроўваў чатыры пары года: вясну, лета, восень і зіму. Неўзабаве пасля таго, як Сіротка вярнуўся з крыжовага паходу, ён сазваў да сябе сорак папоўслужак праваслаўнай царквы і прапанаваў ім перайсці ў каталіцкую веру і служыць ёй. Вядома, папы адмовіліся прыняць каталіцтва. Тады князь загадаў адвесці іх у цэркаўку, што стаяла на гары за возерам, і заперці іх там без вады і яды, пакуль яны не прымуць

яго прапанову. Сам жа князь балявау у сваім замку тры дні. Няшчасныя папы, не жадаючы быць верааадступнікамі, адпеўшы псалмы, вымушаны былі самі налажыць на сябе рукі, але не сатварыць «святатацтва». Праз тры дні, калі царкву адчынілі, жывымі засталося ўсяго некалькі чалавек. Папоў там жа на горцы і пахавалі. Цэркаўка з цягам часу развалілася. А горка і цяпер завецца Паповаю.



## РЫМШАВА ГАРА

У вёсцы Навасёлкі Капаткевіцкага раёна з пакалення ў пакаленне перадаецца паданне пра гордага і смелага хлапца Рымшу.

Было гэта яшчэ ў часы паншчыны. Злыя былі паны. Не людзі, а звяры. Асабліва лютаваў пан у маёнтку недалёка ад Навасёлак. І што толькі ён не тварыў. Страх, як з сялян здзекаваўся. А сваіх мужыкоў і за людзей не лічыў.

Загадаў раз гэты пан, каб усе, у каго былі валы на продаж, прыводзілі іх толькі да яго, на панскі двор. Загадана — нічога не зробіш: у пана ўлада. І павялі сяляне да яго сваіх валоў. А пан выйдзе на ганак, паглядзіць і кажа:

— Што гэта ты прывёў, асёл? Гэта ж не вол, а казёл.

І плаціў, як за казла. А хто спрабаваў пярэчыць — таго пасылаў на стайню і даваў бізуноў.

Доўга мучыліся людзі з такім панам, доўга цярпе-

лі, а паскардзіцца няма каму. Паны ж усюды тады сядзелі — і ў маёнтках, і ў судах.

Але знайшоўся нарэшце адзін чалавек, што адплаціў пану за ўсе людскія крыўды і слёзы. Быў гэта Рымша — прыгожы горды хлапец. Прывёў ён раз на панскі двор вала прадаваць. Выйшаў пан на ганак і кажа:

— Што гэта ты прывёў, асёл? Гэта ж не вол, а казёл.

Схапіў тады Рымша здаравенную жардзіну і пытаецца:

— Што гэта, пан, бяроза ці лаза? Я ж табе прывёў вала, а не казла.— І давай пярэсціць пана жардзінай. Б'е і прыгаворвае: — Вось табе за тое, што ты з людзей здзекуешся. А калі ачуняеш, чакай мяне яшчэ ў госці.

Толькі на трэці дзень апрытомнеў пан. Пачалі шукаць Рымшу, а таго і след прастыў.

Не раз яшчэ прыходзіў Рымша да пана, не раз помсціў яму за людзей. І, кажуць, хаваўся ён на гары між Заполлем і Навасёлкамі. Да гары той цяжка было падступіцца. Наўкола -- непраходныя балоты і хмызняк. Адзін толькі Рымша ведаў туды патаемную сцежку.

І дагэтуль стаіць тая гара. Людзі завуць яе Рымшавай.



## ДЗЯВОЧАЯ ГАРА

Даўно-даўно, гэта яшчэ нават не пры маёй памяці, тут, у Мсціславе, на Замкавай гары, жыў адзін багаты пан.

Кажуць старыя, што працавалі ў яго толькі адны маладыя дзяўчаты. Такая ўжо была яго воля. Дзяўчаты працавалі ад відна да відна.

Аднойчы ён загадаў ім нанасіць з рэчкі Вяхры пяску на цэлую гару. Шмат гадоў працавалі дзяўчаты, усё насілі пясок. Многія з іх загінулі, але гару ўсё ж насыпалі. Называецца яна з тых пор Дзявочай гарой.



## МАМЧЫНА ГОРКА

Як ішлі, можа, бачылі горку, на якой расце колькі дрэў? Яна ў нас завецца Мамчына горка. Назва гэтая паходзіць вось ад чаго. Расказваюць, што даўней у замку пан жыў, багаты дужа быў. Жыхары нашай вёскі працавалі на яго. У пана была служанка, якая мела дужа прыгожага сына. І вось служанчын сын моцна пакахаў панскую дачку, а яна пакахала яго. Але пан забараніў ім жаніцца, і закаханыя ўцяклі невядома куды. За гэта пан загадаў пакараць служанку: закапаць жывую ў зямлю на гэтай горцы. Адсюль і назва — Мамчына горка.



## ПРА МІР-ГАРУ

Даўным-даўно ў тутэйшых месцах звінелі мячы: два князі не маглі ўжыцца па суседству. Не раз іх дружыны хадзілі адна на другую. Лілася кроў на схілах гары.

Князі аднойчы сустрэліся на гары без зброі, заміры́ліся, адсюль і пайшла назва — Мір-гара.



## ПЕРУНОВА ГАРА

Ёсць за Нясвіжам, калі ісці на захад ад горада, старое Замчышча. Гэта вялікае ўзвышша, якое ўздымаецца над шырокім долам. Узвышша людзі завуць Перуноваю гарою. Навокал гэтай гары стаяць вёскі Аношкі, Жанковічы, Долкінды. Расказваюць, што некалі на месцы Перуновай гары стаяў вялікі княжацкі замак, а там, дзе дол, было прыгожае возера. Возера, як люстэрка, заўсёды адбівала колер неба. Улетку, у ноч на Івана Купалу з возера выходзілі русалкі і вадзілі свае чараўнічыя карагоды. Кажуць, у розную пару ў возеры загубілі сябе сялянскія прыгажуні-дзяўчаты, падманутыя іх каханымі — маладымі княжычамі. І столькі разбэшчаныя князі загубілі душ, што аднойчы ў купальскую ноч на возеры паднялася

такая бура, што вада выйшла з берагоў і затапіла ўсё вакол. У той час у замак стрэліў пярун і разбіў яго ўшчэнт. Вёскі ж навокал былога замка маюць жаночыя імёны.



## ГАРА КНЯЖА МАГІЛА

На поўдні ад возера Нешчарда ёсць гара, якую з трох бакоў абняла вада. На той гары драўляны маленькі касцёл і колькі соснаў...

Расказваюць, што на тым паўвостраве некалі быў горад. Толькі чый горад, хто у ім правіў, невядома. Тамашні люд жыў у лясістых ваколіцах, доўга не ведаў нападаў іншых народаў, што блукалі па тых краях дзеля грабяжу. Праз некаторы час берагі Нешчарды прывабілі страшнага Ольбжыма, які называўся князем. Спадзеючыся на багатую здабычу, ён аблажыў той горад вялізнай шайкай разбойнікаў, разбіў слабую абарону, абрабаваў дамы, пазабіваў жыхароў, у касцёлах паабдзіраў абразы і начынне. Нават сам касцёл зруйнаваў, а званы затапіў у возеры і са сваёй дружынай абраў сабе жыхарства ў спустошаным горадзе.

Але затопленыя на дне возера званы штодзень пры заходзе і ўсходзе сонца абуджалі глухое маўчанне на дзікіх берагах Нешчарды. Напалоханае тым гулам птаства ўцякло высока ў неба, а сарны і ласі, дрыжучы ад страху, схаваліся ў навакольных барах. Апаўночы лётала чума, падобная да чорнай кулі, і дзе

толькі датыкалася сцяны, жылля, ніхто не выходзіў ужо [illegible] таго дома жывы, і такім чынам вымерла ўся дружына князя. Сам ён, напалоханы, закапаў усё сваё багацце ў гары і ўцёк з некалькімі сябрамі. Але недалёка за возерам яго спаткала смерць.

Народ і зараз паказвае вялізны курган, які называе Княжа Магіла.



## ГАРА КНЯГІНЬКА

Адна высокая гара недалёка ад Лагойска з акопамі наверсе, якую акружала балота, называюць Княгінькаю. А гэта, кажуць, ад таго, што нейкі князь скінуў з гэтай гары ў раку сваю жонку-княгіню за тое, што яна адкрыла важную таямніцу суседняму князю-ворагу.



## БАГАТЫР-ГАРА

Даўно-даўно на гэтай гары жыла вялікая жанчына. Ростам гэтая жанчына была тры аршыны. Ваду яна насіла на гору вялікімі цэбрамі, па два цэбры за адзін раз, а ў кожным цэбры было па 15 судаў.

Каля той гары ішло нейкае татарскае войска. І за-

пыталіся ў гэтае жанчыны-багатыркі, дзе дарога да беларускага войска? Жанчына-багатырка ўзяла ды і завяла войска татарскае ў балота, дзе яго беларускае войска і пабіла. Рэштка татарскага войска, уцякаючы назад, забіла жанчыну-багатырку і пахавала на гэтай гары. Гара і стала звацца пасля гэтага — Багатыр-Гара.



## КРАСНАЯ ГОРКА

Паміж вёскамі Чашын і Мрочкі ёсць Красная горка, кіламетраў паўтара адсюль. Горку перасякае гравійка: роўнаю істужкаю ідзе дарога з гары ўніз і цягнецца праз зялёны дол, што раскінуўся паабапал ракі Лошы. Сама горка парасла лесам старым і маўклівым. Унізе, над ракою, стаяць два курганы сумныя і задуменныя, а над імі шумяць векавыя хвоі. Дзед мой расказваў, што ён у дзяцінстве чуў ад старых людзей, што як швед ваяваў, дык гэтаю лагчынаю кроў лілася ад палеглых воінаў. І горка таму Краснаю завецца, а ў курганах пахаваны забітыя шведы.



## МАЦЕЙКАВА ГАРА

Даўным-даўно жыў тут дужы разбойнік Мацейка. Нікога і нічога ён не баяўся. Рабаваў купцоў на

людным гасцінцы, што паблізу вёў з заходніх краін ва ўсходнія, нападаў на чаўны і лодкі, калі плылі па рацэ. А каб зручней было пераймаць падарожных, загадаў сваім палоннікам пракапаць новае рэчышча. Паплыла з таго часу Нарва пад самай гарою, і ніводзін вандроўнік не мог абмінуць страшнай сустрэчы з Мацейкам. Мацнела крэпасць разбойніка, і пухлі ў ёй ад золата скрыні.

У цёмныя асеннія і зімовыя ночы, калі хваля на рацэ цяжка ўздыхала ды ад віхуры стагнаў лес, спраўляў Мацейка свае балі. Забаўляўся з прыгажунямі-паланянкамі нядобрым каханнем. На світанку канчалася гульбішча і целы замучаных нявольніц абмывала рачная тонь.

Але здарылася, што Мацейка закахаўся ў адну са сваіх нявольніц. Ахвяраваў ёй золата і багацці, кляўся ў вернасці. Аднак дзяўчына замест раскошнага жыцця з разбойнікам выбрала сабе смерць. У такую ж цёмную віхурыстую ноч павесілася на сваёй пышнай касе. Разбойніка ахапіла роспач. Загадаў ён справіць сваёй каханай урачыстае пахаванне, вымураваць глыбокі склеп. Калі ж апусцілі туды цела паланянкі, Мацейка таксама сышоў у магілу і сказаў замураваць сябе разам з каханай.



## НАВАСАДСКАЕ ЗАМЧЫШЧА

Над рэчкаю, над Слаўкаю, недалёка святога месца Студзянца, дзе з-пад дарогі на гары вада цудоўная выліваецца і спадае ў яр глыбокі, а ярам у Слаўку

цячэ, а Слаўка па каменнях шапоча,— стаіць княскае гарадзішча.

Высокія берагі Слаўкі пазарасталі ўсякім лесам: раслі там і дубы магутныя, і светлыя ясені, і клёны, і альшыны, і асіны, і бярэзіны касатыя, і бразгаліны касцястыя, і чаромхі пахучыя,— ды многа ўсяго было.

Над усім гэтым западала ночка цёмная. Неба было засупленае чорнымі хмарамі, а вецер сярдзіты разпоразу зрываўся і з шумам і свістам пралятаў над гарамі, над лясамі і над тым гарадзішчам, маўляў, штось нядобрае павяшчаў.

Усе ў гарадзішчы ў тым спалі. Спалі і ў месце, што ляжала ў кліну між Слаўкай і Ус-рэкай. Адна толькі душа ў гарадзішчы не спіць: паволі ўсё ходзіць і, знаць, думу цяжкую думае, бо аж пот на белым ілбе выступае перлістымі кроплямі.

А хто гэта ходзіць як не княжна, слаўная красою і багаццем сваімі? І ростам высока, і тварам красна, хоць не так-то ўжо і малада. І грудзі яе поўныя высока падымаюцца, і вочы карыя аж у цемнаце свецяцца, а буйныя косы вецер трэпле.

Ходзіць княжна гордаю ступою, ды на сэрцы яе, знаць, невясёла, бо ўсё то рукі заламае, то вяла іх апусціць, то ўздыхне цяжка, як канаючы, то аберуч галаву сцісне; то, быццам на штось адважыўшыся, вочы падыме і ўдалеч смялей гляне і заходзіць байчэйшаю ступою, а праз момант ізноў яе сэрца зойдзецца, і рукі павіснуць, і вочы затуманяцца, і ногі як бы падкашвацца стануць. Ды вось яна ўрэшце на штось адважылася. Пайшла хуткаю ступою ў гарадзішча, чэлядзь сваю будзіць, усё багацце сваё загадвае збіраці і, што дарожшае, то ў скрыню каваную кладзе, а што меней вартае, тое чэлядзі раздае. Сабраўшы ўсё і спакаваўшы, скрыню зачыніла на тры замкі, а ключы

на залаты паясок нанізала і туга ім падперазалася. Тады, сеўшы на скрыню, горка заплакала:

— Няма ў мяне ні шчасця, ні долі, ні вернага друга, няма мне з кім дзяліцца ні сваею красою, ні каханнем, ні багаццем вялікім, і маладосць мая ўцякае, лічка маё белае пажаўцела, грудкі мае поўныя сталі вянуць, вочкі карыя — ліняці, буйныя косы — выпадаці, а сэрца маё стала заміраці... Няхай жа, калі так, я згіну і ўсё са мной: і думкі мае, і каханне маё, і жаданне, і краса, і багацце маё, бо так сіратліва жыці не пад сілу мне!..

І загадала сваім служкам прывязаці сябе да скрыні і кінуць у студню дужа глыбокую і поўную вады, што ў тым гарадзішчы на двары была. Загудзела, зараўла навальніца з неба з громам, з градам, з перунамі ды маланкамі, а прайшла навальніца, і краснай княжны не стала... Кінулі яе верныя служкі ў студню глыбокую, і апусцела зараз тое гарадзішча, а после і саўсім яго не стала. Толькі гара з валам ды студняй, поўнай камення, тое месца азначае. Скора вораг люты сюды найшоў, людзей павыразаў, хаты і зямлёю зраўнаваў, а тое месца, дзе места было, людзі Рэзанамі празвалі.

Каму ж з таго месца бог судзіў жывым астацца, тыя трохі аддаль на гары, над крыніцамі, пабудаваліся насупроціў таго ж гарадзішча і Студзянца і празвалі сваё новае селішча Навасадамі.



## ВІДАГОРШЧ

Вакол Відагоршч і цяпер лясоў няма — адны ўзгоркі. Дарога так і «куляецца»: за пад'ёмам — спуск, а за спускам — пад'ём. Такое чаргаванне ўзгоркаў і далін тут называюць калыскамі. Вельмі цяжка араць, урабляць гэтую зямлю. За прыгонам сюды прыганялі мужыкоў і прымушалі працаваць не разгінаючы спіны, ад цямна да цямна. Бывала, вол стоміцца, прыстане, а цівун, нядоўга думаючы, мужыкоў у ярмо запражэ. Ваду на панскую кухню таксама на людзях вазілі...

Каб было адкуль пільна сачыць за прыгоннымі, якія працавалі на палях, у парку, на гародах, пан і загадаў прыбудаваць да палаца высокую мураваную вежу, дзе ўвесь час сядзеў з падзорнай трубою галоўны аканом. Прыпыніўся араты дзе-небудзь на далёкай гары, каб дух перавесці, а галоўны аканом з вежы бачыць і на заметку бярэ. Бачыць, і як скаціна, адбіўшыся ад статка, у шкоду пайшла, і хто ў садзе яблык у кішэнь паклаў... Так за дзень набіралася шмат парушальнікаў, якіх увечары чакалі розныя пакаранні: адных вячэры ці сняданка пазбаўлялі, а іншых бязлітасна секлі бізунамі на стайні... Дык вось месца, дзе стаяў палац з той праклятай вежай, адкуль усё наваколле відаць было — палеткі і даліны, горы і ўзгоркі,— празвалі людзі Віжгорамі. Пазней ужо — Відагоршч...



## ПРА ЎРОЧЫШЧА ГАЛОДНЫЯ МОГІЛКІ

Непадалёку ад урочышча Ладзейніца стаяць колькі старых соснаў. Гэтае месца называюць Галоднымі Могілкамі.

Расказваюць, што больш як дзвесце гадоў назад тут хавалі людзей, якія паўміралі ад вялікага голаду.



## КУРАНІ

Было гэта за панамі, калі яны прадавалі мужыкоў, як гавяду. Майго дзеда паны таксама прадалі сюды, каб дабываў руду. А яе тут шмат было раней. Вунь і цяпер яшчэ курганы тамака захаваліся, дзе руду выкідалі. Цяжка жылося людзям, яны ўцякалі ад паноў у лес і хаваліся. А лес той быў — шапка валіцца. Там яны рабілі курані і жылі. Вось і называецца наша ўрочышча Курані.



## УРОЧЫШЧА КРЫЧАЎ

За ракою ёсць высокі курган: гэта магіла пабітых татараў; з гэтага ж боку ракі месца, дзе татараў разбілі, называецца Крычаў, таму што калі іх тураўцы прыціснулі да ракі, татары паднялі страшэнны крык. Хто паспеў пераплысці раку, таго кончылі на тым баку. Над імі і насыпаны курган.



## УРОЧЫШЧА АКОПЫ

За адну вярсту ад мястэчка Лыскова Ваўкавыскага павета ёсць урочышча Акопы. У даўнія часы тут быў багаты панскі палац, у якім жыла знатная пані Бэня. Палац быў акапаны высокім земляным валам, заўсёды поўным вады. Калі была вайна рускіх з палякамі, палац разбурылі. Ледзьве ўратавалася ад палону і гібелі пані і пракляла не толькі тых, хто ваяваў, але і тое месца, дзе быў яе палац і якое дасталася ворагу. З таго часу тут можна чуць плач кожную ноч; часамі паказваецца на кароткі час агонь, які, калі чалавек падыходзіць, адразу тухне.



## АД ЧАГО ВЫСАХЛА РЭЧКА

На канцы вёскі Дзеракі, каля самага лесу, стаяла старая маленькая хатка з адным акенцам ад ляснога боку. Побач з гэтай хаткай бегла невялікая рэчка. Выцякала яна з Лаўцова балотца. Шмат было ў ёй рыбы ўсялякай і іншага жывога міру. Купаліся ў рацэ дзеці цёплаю парой.

А ў той хаце, з адным акенцам, што стаяла на беразе рэчкі, жыла жанчына-чарадзейка, год пад сорак, жыла адна са сваім сынам. Мар'ян быў добры плывец: плаваў ён надзіва хутка, проста па вадзе каціўся, не было роўнага яму плыўца ва ўсёй ваколіцы.

У адзін летні дзень, калі на небе з'явілася чорная хмара і загрымеў гром, захацелася Мар'яну пакупацца і паказаць сваю ўдаласць сябрам. Доўга ён плаваў, пакуль не трапіў у вір. Хлопец знік. Так і не дачакаліся, каб ён выплыў.

Даведаўшыся аб смерці сына, маці пракляла гэтую рэчку. З таго часу рэчка пачала мялець, а праз два ці тры гады і зусім высахла.

Тое месца, дзе была рэчка, пакрытае цяпер спрэс высокай травой, і называецца Мар'янавым лугам.



## ЯК ЗРАБІЛАСЯ БАЛОТА КАЛЯ КЛЕНІКАЎ

Здарылася гэта тады, калі яшчэ ў Кленіках жыў пан, за панскім прыгонам. Была ў гэтага пана дачка-прыгажуня, слаўная з прыгожасці на ўсю аколіцу. Каля панскае сялібы бегла невялічкая рэчка. Дачка-прыгажуня вельмі любіла сядзець на беразе гэтай рэчкі. Вада ў ёй была чыстая, як люстэрка. Прыгажуня часта ўглядалася на сваё адлюстраванне ў вадзе і захаплялася сабою. Але вось аднойчы дачка-прыгажуня загінула. На другі дзень сяляне вылавілі яе цела з рэчкі. У панскай сям'і вялікае няшчасце. Маці прыгажуні не магла дараваць гэтай рэчцы, яна ў злосці закляла яе. Кінула ў чыстую ваду авечае руна, кажучы:

— Згінь, рэчка! Не будзе цябе столькі гадоў, колькі ёсць валасоў воўны на авечым руне.

Так і сталася. Рэчка прапала. На яе месцы паявіліся дрыгва і балота, паросшае лазой...



## ЯК УЗНІКЛА КАБЫЛІЧЧА БАЛОТА

Вось гэтае балота (гаварылі мне пра балота, што называецца Кабылiччым, пад самым горадам Гомелем, па дарозе на сяло Краснае і Уваравічы), было калісьці возерам.

Жыла-была маці-чарадзейка з адзіным сынам, які і патануў у гэтым возеры. Маці засмуцілася і закляла тое месца: зрабілася возера балотам. А раней па возеру таму караблі плылі; месцамі трапляюцца мачты, аскабалкі караблёў: цяпер дрыгва такая, што ідзеш, а зямля супраць цябе ўздымаецца.

Завязала чараўніца возера ў балота такім замком: няхай знойдзецца дзяціна сямі год, праедзе па балоту на кабыле трох год і адшукае тое месца, дзе патануў сын. На месцы тым выраслі тры чараціны (тры кусты чароту), трэба іх таму дзяціне вырваць і, не азіраючыся, увезці прэч — зробіцца тады балота ізноў возерам. Але як гэта зрабіць? Дзе такі асілак сямі год? Як яму праехаць па зыбучай дрыгве, як яму знайсці ў чаротавых зарасніках тыя самыя тры чараціны?



## АЛЬХІМКІНА БАЛОТА

Жыла ў тых мясцінах яшчэ пры паншчыне дзяўчына. Звалі яе Альхімія, а папросту — Альхімка. І любіла Альхімка аднаго хлопца, марыла выйсці за яго замуж. Але прыглянулася прыгажуня свайму пану. Пан зняславіў дзяўчыну. Яна, бедная, з гора ўтапілася ў балоце. З таго часу людзі і празвалі балота Альхімкіным.



## СКАРБ У БАЛОЦЕ

Даўным-даўно, калі, кажуць, яшчэ і Пінска не было, нейкі багаты пан закапаў, паміраючы, скарб — шмат золата і розных дарагіх рэчаў, нарабаваных у народа. Пачалі шукаць людзі той скарб.

Дазнаўся пра гэта бог і пабаяўся, што знойдуць бедныя людзі золата. Пан, які закапаў скарб, нібыта быў у вялікай ласцы ў бога. І вось бог, каб захаваць нябожчыкава багацце,ператварыў усе палі за вёскай у багністае балота, па якім нельга было ступіць. Гэтым самым ён перашкодзіў людзям шукаць скарб багацея. Тыя ж, хто пераступаў мяжу, за якой пачыналася балота, гінулі. Шмат, расказваюць, забрала яно лю-

дзей, а скарбу ніхто так і не знайшоў. І ўся бяда ў тым, што людзі ў адзіночку ішлі шукаць скарб.

А трэба было грамадой, усім народам.



## СКАРБ-ПЯРЭВАРАЦЕНЬ

Два браты ведалі, што ёсць скарб: і бедны, і багаты.

Багаты пайшоў у здабычу, а бедны гаворыць:

— Сам скарб прыйдзе ка мне, калі спатрэбіцца.

Багаты скарбу не знайшоў і са злосці ў насмешку шпурнуў беднаму ў акно дохлага сабаку.

А той дохлы сабака скінуўся беднаму вялікім скарбам.



## ЯК СКАРБ З-ПАД ПЕЧЫ ВЫХОДЗІЎ

Адзін гаспадар пабудаваў новую хату, але ніхто не мог у ёй начаваць, бо абы ноч найшла, так вылазіць з-пад печы баран і ўсё кажа:

— Выйду! Выйду! Выйду!

Так гаспадары, няма рады, уцякаць.

Аднаго разу прыйшоў падарожны і просіцца:

— Гаспадарыку, прымі мяне нанач.

— Што ж я, кажа, табе параджу? Я сам у гумне начую, бо ў хаце нешта ўсё страшыць.

— То я там буду начаваць.

— Добра.

Пайшоў той падарожны, запаліў лучыну, лёг на печы і ляжыць, ажно як лучына згарэла, так вылазіць нешта з-пад печы і кажа:

— Выйду! Выйду! Выйду!

Таму валасы ўжо дыбам сталі, ведама, адзін на цэлы дом. Але ўзяў кій і кажа:

— Ну, то выходзь!

Ажно лезе да яго баран, а ён як стукне яму кіем па лбу, так золата і рассыпалася. Падарожны нагарнуў сабе колькі хацеў, а рэшту гаспадарам аставіў дый пайшоў у свет вандраваць.



## ЗАКЛЯТАЯ МАГІЛА ВОЛАТА

У ваколіцах Полацка, расказвалі, у даўнія часы бесперапынна ішлі войны. І засталося паданне, што частка нейкага разбітага войска, баючыся, каб яго нарабаванае багацце не трапіла ў рукі непрыяцеля, золата і серабро, якое мела пры сабе, закапала ў зямлю на ўзгорку, а наверх паклалі дзікі камень. Ён павінен быў паказваць тое месца, калі б хто-кольвек з іх вярнуўся, каб адшукаць схаваныя скарбы. Але прайшлі сотні гадоў, а камень ляжаў на тым самым месцы, а пад ім некранутыя скарбы.

Слухаючы такія размовы, колькі полацкіх хлопцаў дамовіліся пайсці ноччу на той узгорак, здабыць скар-

бы і падзяліць між сабой пароўну. Тады, калі ўсе спалі, узяўшы патрэбнае прыладдзе, выйшлі за горад.

Ноч была пагодная, неба ўсеяна зоркамі, а поўны месяц свяціў у вышыні. Ішлі ціха і асцярожна, каб іх ніхто не спаткаў на дарозе. Мінулі касцёл святога Ксаверыя, дзе спачываюць прахі манахаў і тутэйшых людзей, чулі, як адгукаліся галасы вартаўнікоў у Спасе, звярнулі з дарогі і пайшлі ўсцяж ракі аж да патрэбнага месца.

Узышлі на ўзгорак, знайшлі той дзікі камень. Палова яго была ў зямлі, а верхняя частка пакрытая сухім мохам. Акапалі яго кругом, супольна вынялі з таго месца і глыбока ў зямлю ўваткнулі жалезную рапіру. І тады вострым канцом яна ўпёрлася нібы ў нейкую бляху. Тут напэўна скарб — і пачалі раскопваць зямлю.

Працавалі доўга, часта пробавалі рапірай,— скарб ляжаў неглыбока, але колькі ні капалі, зямля ізноў асыпалася з усіх бакоў і напаўняла яму. Нейкі час стаялі ў здзіўленні, ім здалося, што скарб закляты, засыпаецца пяском і не хоча дацца ім у рукі.

Калі параіліся між сабою, што рабіць далей, на ўсходзе з'явілася чорная хмара, якая закрыла ўсё неба, і месяц схаваўся ў густых аблоках. Зрабілася так цёмна, што яны ледзь бачылі адзін аднаго, і пайшоў ціхі дождждык.

— Работа лепей пойдзе, калі пясок крыху намокне,— сказаў адзін з іх.— А болей не траціма дарэмна часу.

Падбадзёрваючы сябе, дружна пачалі ізноў капаць і выкапалі цяпер такую доўгую і шырокую яму, якая ўжо лёгка не магла засыпацца.

Рыдлёўкі слізганулі па жалезу.

— Кацёл, кацёл з грашамі! — радасна закрычалі яны.

Толькі калі акапалі вакол і хацелі падняць з зямлі, убачылі, што гэта быў важкі жалезны панцыр; пакрываў ён грудзі шкілета, у якога пры боку ляжаў меч, а на чэрапе быў жалезны шышак. Сталі яны ў здзіўленні і глядзелі, як недарэчна падманула іх надзея.

Тады адзін смялейшы кажа:

— Пакінем гэты шкілет, а зброю возьмем сабе, няхай застанецца яна хоць памяткай аб нашай начной працы.

Толькі яны намерыліся так зрабіць, як раптам бліскавіца асвяціла ўзгорак, і бачаць: стаіць агромністы асілак у жалезным панцыры і трымае востры меч над іх галовамі.

Трывога праняла іх сэрцы, грымоты ўзрушылі зямлю, і асілак прамовіў:

— Нікчэмныя! Золату і серабру прадалі ўсе пачуцці вашы, толькі ў багацце ўклалі свае надзеі, не ўшанавалі прах волата, які з годнасцю скончыў тут жыццё...

Загрымела ў аблоках, і асілак знік з іх вачэй...

Пры святле бліскавіцы ізноў убачылі перад сабой засыпаную пяском яму, і падалося ім, што на тым месцы зямля някранута была...



## ДЗЕ ЦЕНЬ СЯГАЕ

Некалі пры дарозе з Войшкаў у Заячкі стаяла старая жараластая ліпа. Хоць яе сарцавіна даўно абярнулася ў парахню, а вершаліна цалкам змуршэла

і абвалілася, але знізу яна кожную вясну кучаравілася густою лістотай...

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць. І бачыць адзін военачальнік, што яго войска пахіснулася і пабегла пад націскам ворага. Схапіў ён тады абкаваную жалезам скрыню з грашыма на заплату сваім салдатам і закапаў яе паблізу гэтага дрэва. Частка салдат таго военачальніка загінула ў гэтай бітве, і косці іх ляжаць побач з касцьмі іхніх непрыяцеляў на тых старых могілках, што каля ўрочышча Прыстань пры самай рацэ Нарве. Другая ж частка разам са сваім военачальнікам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Міналі гады, хадзілі і ездзілі сюдою людзі, і расла сабе ўвышыню ды ўшыркі ліпа на пагорку. Ніхто так і не даведаўся б пра закапаны тут скарб. Але ж той военачальнік, дажыўшы да глыбокай старасці ў чужыне, перад самай смерцю напісаў запавет. Згадаў у ім пра тую скрыню золата і дадаў, што закапаў яго у тым месцы, куды дасягае цень ліпы.

Прагныя дармовага багацця спадчыннікі мігам прымчаліся сюды і пачалі шукаць таго скарбу. Была якраз раніца, і цень разгалістага дрэва сягаў мо на паўвярсты ці болей. Кінуліся яны капаць. Валяць ямы ў рост чалавека, а там няма нічога. Тым часам сонейка паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса выкапаць, як цень далей перабег. Капалі яны так, капалі раніцай, апоўдні і ўвечары, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі яны тыдзень, капалі месяц, спрытна наваколле перарылі і аніяк не маглі на скарб натрапіць. І толькі тады, як са стомы не далі рады ўжо і ног валачыць, зразумелі, што скарбу не знойдуць, бо ў запавеце не было сказана, у якую пору года і дня той военачальнік скрыню з золатам закопваў. Нічога

іншага не засталося тым спадчыннікам, як толькі адрачыся ад пошукаў.

Цяпер цень сваім абсягам ужо не спакушае людзей шукаць той скарб. Ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася. Нават добра невядома, дзе яна і расла.



## ПРА СКАРБ ЗАКЛЯТЫ

Аднаго разу ў нядзелю я, паабедаўшы, прылёг на прызбе трохі адпачыць дый моцна заснуў. Ось сніцца мне, што нейкі старац кажа, каб я ўзяў штых ды ішоў на капец паміж шляхам і Карпавым альсам. Я прыйшоў быццам туды ды ўсадзіў штых у зямлю, а ён, схаваўшыся да палавіны, стукнуўся аб нешта цвёрдае. Прачнуўшыся, ухапіў штых ды не то пайшоў, а проста пабег на той капец, якога, здаецца, зроду не бачыў, а трапіў туды — як бы хтось за руку вёў пяць вёрстаў ад нашага сяла. Засунуў штых так глыбока, як і ўва сне,— стукнуў аб штось цвёрдае. Штыхнуўшы кругом разоў з дваццатак, абмеркаваў, што тут закопана кована скрыня ўдоўжкі вялікі крок, а ўшыркі ступней два без мала. Вярнуўся дадому, ды змеркам прыйшоўшы з сынам, сталі мы капаць ды дакапаліся да вялікага камня. Раскапаўшы яму з аднаго боку спускавата, з вялікаю патугаю выкацілі яго наверх, а на тым месцы, дзе ён ляжаў, штыхавалі, ды нічога не найшлі. Той камень — то былі грошы заклятыя, бо як я праз цікавасць на другі дзень прыйшоў паглядзець, то яго і звання на тым месцы не было — як у ваду кануў.



## ПРА СКАРБ, ЗАКАПАНЫ НА АЗЯРЫЙСКІМ ГАРАДЗІШЧЫ

Расказваюць, што шмат гадоў таму, уначы прыйшлі ў адно мястэчка да рыбака-селяніна Вяхоткі трое невядомых людзей і прасілі яго перавезці іх на гарадзішча. Стары рыбак уважыў іх просьбу і разам з імі пераехаў на востраў. Тут падышлі яны да рабіны і, вывараціўшы яе, знайшлі пад карэннямі жалезныя дзверы. Адзін з тых людзей адамкнуў тыя дзверы ключом, затым усе чацвёра зайшлі ў пакой, у якім пры запаленай свечцы сядзела дзяўчына, а каля яе ляжаў сабачка. У пакоі былі яшчэ адны жалезныя дзверы. Адамкнулі і тыя і зайшлі ў другі пакой, які быў поўны грошай. Тут тыя людзі сказалі Вяхотку, каб ён браў сабе грошы колькі хоча і адвозіў іх дамоў, пакуль яны будуць снедаць. Рыбак паспеў звезці дамоў тры мяшкі грошай. Калі ён у апошні раз звярнуўся на востраў, то незнаёмцы аддалі яму ключ ад дзвярэй патаемніка і сказалі, што пакідаюць яму ўсё сваё багацце з тым, аднак, што ён можа карыстацца ім толькі сам, не кажучы пра тое нікому.

З таго часу рыбак Вяхотка зрабіўся багаты і, не ведаючы куды дзяваць так лёгка нажытыя грошы, пачаў піць. Гэта заўважылі суседзі і аднавяскоўцы і пачалі дапытвацца, адкуль такое багацце ў Вяхоткі.

Раз стары, будучы пад чаркай, расказаў свайму сыну, як ён здабывае грошы, і разам з ім выправіліся на востраў, каб паказаць месца, дзе схаваны скарб. Але пад рабінаю не было ўжо ні склепа, ні дзвярэй.

* * *

Гадоў каля шасцідзесяці таму да няшчаснага года (так называе народ 1812 год) прыехаў у сяло Мястэчка позна вечарам нейкі пажылы чалавек і прасіў рыбака перавезці яго на востраў і паказаць гарадзішча. Рыбак уначы доўга не згаджаўся, але калі той даў яму рубля серабром, перавёз яго на востраў.

Толькі яны прыйшлі да самой сярэдзіны гарадзішча, як перад імі з грукатам і віскам раскрыліся адны за другімі трое жалезных дзвярэй і адкрыўся склеп. Зайшоўшы ў яго, яны ўбачылі на крэсле цудоўную баярыню, ля ног яе двух хартоў, а побач, з правага і левага бакоў, застаронкі сярэбраных і залатых грошай. Чалавек той спакойна набраў у свой мяшок серабра і пайшоў. Выйшаў за ім і рыбак, думаючы: прыйду я заўтра ўдзень ды набяру як мага больш золата. На світанні ён сапраўды прыйшоў на гарадзішча, але ні золата, ні серабра, ні прыгожай баярыні і яе верных хартоў, ні нават дзвярэй жалезных і мура каменнага і слядоў не засталося, а замест усяго гэтага перад ім, як і раней, узвышаўся круглы земляны насып, ускапаны месцамі то рукой шукальніка шчасця, то часам і капытамі скаціны, што пасвілася тут.



## ЗАКЛЯТАЕ БАГАЦЦЕ

Урочышча Уборак за адну вярсту ад Цітвы на беразе ракі Пціч. Пра яго расказваюць, нібы ў даўнія

часы там стаяў хорам нейкай багатай княгіні. Паміраючы і не маючы нашчадкаў, княгіня пракляла і церам, і ўсё сваё багацце. З цягам часу гэты церам зруйнаваўся і на яго месцы засталася толькі вялікая гара. Кажуць, што адзін чалавек, ведаючы, што тут некалі было, схацеў пакарыстацца яе скарбам. Адшукаў грошы, набраў як панесці, але ў той самы момант, як захацеў пайсці з набытым скарбам, аслеп і не трапіў на сваю дарогу, хоць яна была тут каля яго. Тады ён усё сцяміў, кінуў скарб на былым яго месцы і тады ізноў стаў відушчым і пайшоў сабе дадому.



## ЗАКЛЯТЫ СКАРБ

Калі тое было? А хто ж яго згадае! Мо яшчэ ў тыя незапомныя часы, калі рака Сакалда тут плыла тым пакручастым старым рэчышчам, што цяпер Зэглерыхай завуць.

Каля лясной рачулкі Ланкі, усё ў адным месцы, кожны год позняй восенню што ні вечар агонь нейкі людзям з'яўляўся. Выкаціцца недзе з гушчавіны на палянку пад старыя дубы і круціцца. То падбяжыць, то падскочыць і аж зіхаціць рознымі колерамі.

Старыя людзі, угледзеўшы гэтае дзіва, меркавалі:

— Няйнакш, у закапаным скарбе золата пераліваецца. Багата яго, пэўна, там, калі агонь такі вялікі іскрысты.— Падумаўшы, перасцерагалі маладых: — Няпраўдай гэты скарб закладзены і таму смерці патрабуе.

Доўгі час яўляўся той агонь, але ніхто з тутэйшых не наважыўся шукаць ды адкопваць той скарб.

Аднойчы валэндаўся тут з вёскі да вёскі нейкі чужынец з сабакам. Не столькі людзі валацугам дзівава́ліся, колькі тым сабакам. Надта ж ён верны быў свайму гаспадару: даволі крывым вокам на валацугу глянуць, як сабака з зубамі на цябе кідаўся; з найгоршай лясной крэкаці яго выводзіў, нікога да яго не падпускаў, калі той, бывала, п'яны пад плотам валяўся. Пачуўшы згадку пра скарб, пайшоў прыблуда вечарам на Ланку, падпільнаваў агеньчык і да вялікага скарбу дакапаўся.

Адкрывае прыблуда гаршчок, а там паверх золата цыдулка ляжыць: «Мяне ўзяўшы, галавой наложыш». Ён, доўга не думаючы, злапаў свайго сабаку, адсек яму галаву ды паклаў у гаршчок на месца золата, што сабе ў торбу высыпаў. Сам жа, ног пад сабою не чуючы ад радасці, паімчаўся ў карчму, што тады за рэчкаю, на скраю вёскі Сакалды стаяла. Бег жа не дарогаю, а нацянькі каля Здраёў на Зэглерыху, не зважаючы на багну ды дрыгву. Відаць, яму надта спешна да кварты гарэлкі было. Не заўважыў нават, як у адкрытае жарало ўваліўся. Рвануўся ў адзін бок, рвануўся ў другі, а золата ўсё глыбей у твань цягне. Спрабаваў скінуць торбу са скарбам, але багна ўжо па шыю засмактала. Закрычаў ён дзікім голасам: «Ратуйце!», ды замест крыку толькі бурбалкі з жыжы выскачылі і шапка-малахай усплыла.

Толькі праз нейкі час наткнуліся людзі на косці яго засечанага сабакі і картку пад дубам на Ланцы ды згніўшую шапку на жаролах каля Здраёў.

Потым дрыгву асушылі, зааралі ды засеялі травою. Цяпер улетку ды на восень стракацяць там касілкі, а агонь зусім не паказваецца.



## КУРГАН КАЛЯ ЗАСЛАЎЯ

Каля Заслаўя цячэ невялікая рэчка, якая да гэтага часу завецца Княгінькаю. Народ кажа, што над рэчкаю быў замак, у якім жыла нейкая княгіня. Яна любіла гуляць па беразе ў глыбокую поўнач. Мела княгіня дзвюх дачок. Старэйшая — прыгажуня, а малодшая — брыдкая. Раз праязджаў праз Заслаўе менскі князь і, пазнаёміўшыся з князёўнамі, пакахаў малодшую і прасіў яе рукі. Незадаволеная была старэйшая князёўна-прыгажуня такім выбарам князя, бо адразу ўпадабала яго і пачала рабіць усё, каб разладзіць сястрын шлюб. Але не здолела нічога перайначыць і папрасіла помачы ў чараўніцы, што жыла над ракою. Атрымаўшы ад чараўніцы нейкае зелле, паспяшыла дадому. Ажно, ідучы праз лес, спужалася прывіду і з перапуду кінулася ў раку.

Сястра пахавала яе каля замка і насыпала курган, што, як і рака, з тых часоў завецца Княгінін.



## ЛОСКІЯ ПАДАННІ

Згодна аднаго старога падання, сцены Лоскага замка-крэпасці муравалі не з цэглы або прывазнога граніту, а з валуноў і камянёў, якіх багата было каля лісьці на лоскіх палях. Але муры заклалі шырыней

у сем крокаў, і хутка на адзін толькі падмурак, апушчаны на многа метраў у глыб гары, пайшлі ледзь не ўсе сабраныя на палях камяні. Вось тады і быў выдадзены строгі загад: не ўпускаць у Лоск ні пешага, ні коннага без камянёў. Коннаму — не менш тузіна камянёў прывезці на возе, пешаму — хоць адзін замест пропуска здаць за брамаю варце.

Калі камянёў набралася цэлыя горы, іх рассартавалі па памерах, па колеры і пачалі ўзводзіць сцены. У ніжні першы рад паклалі самыя вялікія валуны, і ўсе чорнага колеру. Далей пайшлі пласты сініх, за імі — шэрыя, карычневыя... І чым вышэй уздымаліся сцены, тым яны рабіліся ўсё святлейшыя, усё ярчэйшыя. А самыя апошнія метры сцяны і ўсе зубцы на ёй і вежы былі складзены з камянёў толькі жоўтых і чырвоных адценняў.

Калі ў сцяну замуравалі апошні чырвоны камень і дождж адмыў высокія муры ад пяску і гліны, убачылі жыхары Лоска, што зубцы і вежы нібы залівае чырвонае зарава, хоць неба і было зацягнутае воблакамі.

Вось так, здзіўляючы гасцей і палохаючы ворагаў, над Лоскам у любое надвор'е гарэла выкладзенае з розных каляровых камянёў зарава...

На пабудову Лоскага замка людзі сабралі каменне з палёў і лясоў на сто вёрст вакол. І той, хто задумаў паставіць печ або закласці пад дом каменны падмурак, мусіў купляць камяні па дарагой цане або ехаць па іх ажно пад Вільню. Пакутавалі праз гэта людзі цэлыя стагоддзі, пакуль не пачалі трэскацца і рассыпацца муры старога замка. Вось тады і пайшла пагалоска, што каціліся з Лоскага ўзгорка камяні датуль, пакуль зноў не трапілі на тыя самыя месцы, адкуль іх калісьці прывезлі ў Лоск.

* * *

Жыла калісьці за сценамі Лоскага замка прыгажуня-дзяўчына з залатою касой. Прыехаў аднойчы ў замак пагасцяваць станісты і прыгожы юнак, пакахаў дзяўчыну. Нішто, здавалася, не магло перашкодзіць іх шчасцю. Быў ужо і дзень вяселля прызначаны, але тут пачалася вайна. І давялося юнаку ўзяць меч і ваенныя даспехі і з усімі разам пайсці ваяваць. Перамаглі яны ворагаў, прагналі са сваёй зямлі, але не паспеў малады воін даехаць да Лоска, як зноў напалі на іх зямлю ворагі і зноў давялося яму выпраўляцца ў паход. Вадзіў храбры воін ужо цэлае войска, і змагаліся яны то ў далёкіх гарах, то ля самага сіняга мора. Цэлых семнаццаць гадоў. Але не забыў ён сваю прыгажуню-панначку, і яна таксама засталася верная клятве: усе семнаццаць гадоў чакала толькі яго.

І настаў нарэшце дзень, і гучна заспявалі трубы, і ў двор Лоскага замка ўехаў на баявым кані праслаўлены воін.

Хутка ўзбег ён у высокую вежу, дзе былі пакоі панначкі, адчыніў дзверы і замёр: насустрач яму з верацяном у руках устала незнаёмая сівая жанчына і, усміхаючыся, нізка пакланілася.

Аслупянеў воін, адступіў назад, хоць і пазнаў усмешку панначкі.

— Заходзь, гэта ж я, твая нявеста! — паклікала яго жанчына.

Не зрабіў воін і кроку. А панначка падбегла да акна і кінулася ўніз...

Апамятаўся воін, сарваў з сябе меч, пабег уніз па лесвіцах. Укленчыў на двары над распасцёртай панначкай і раптам убачыў, што ляжыць перад ім усё тая ж маладая прыгожая дзяўчына і толькі яе тонкую шыю абвівае не залатая, а белая, як снег, каса.

* * *

— Аднойчы здарылася, што памутнела вада ў нашай крыніцы,— расказвае цётка Прося. А ўсё праз майго свёкра Сцяпана. Ён панначку незнарок пакрыўдзіў... Раней чаго толькі пра яе не гаварылі! Любы мог тады расказаць, які ў панначкі конь — белы, даўгагрывы, у яблыкі. А ўбачыць яго можна было, як наставаў маладзік, калі ледзь толькі намячаўся рагалік-веташок месяца. У такія ночы панначка і выводзіла на повадзе свайго любімца на крутыя, парослыя травою схілы замкавай гары. Але варта было свіснуць або кашлянуць, як умомант знікалі і конь, і панначка. А на тым месцы, дзе іх бачылі, заставаліся два белыя камяні...

Быццам назіралі, як панначка плавала па лоскіх рэчках — Пімже і Пахамянцы. Сустракалі яе часцей за ўсё закаханыя. Стаяць дзе-небудзь пад вольхамі, мілуюцца, і раптам як зацурчыць, зазвініць вада па камянях! Азірнуцца на звон — і ўбачаць: выплывае з белага туману панначка. Не на лодцы — для лодкі мелка, а на праніку, якім бабы палатно пераць. Плыве сабе і валасы расчэсвае. Вочы ў яе нібы заплюшчаныя, а сама ўсміхаецца некаму, як у сне, і ўсё кланяецца, кланяецца, ды гэтак па-даўнейшаму, у пояс. Калі хочаш панначку лепш разгледзець, замры, не дыхай. А ўздыхнеш, усё знікне, прападзе панначка за кустамі...

А вось муж казаў, ды гэта ж і са свёкрам у маладосці здарылася... Бытта сабраўся ён спаць у пуні... Зірк — а панначка і стаіць, падпірае плечуком вароты, нібы чакае кагосьці. Валасы залатым абручыкам схопленыя, сукенка на ёй пышная, белая, на падвянечную падобная. Замёр чалавек на месцы... А панначка яшчэ крыху пастаяла, паглядзела... Вочы сум-

ныя-сумныя! І раптам прапала!.. У такія ночы доўга-доўга чуваць, як яна ходзіць пад сценамі пуні і ціхенька ўздыхае.

А так усё, галубок, і было. Мо бачыў пасярэдзіне садка на замчышчы западзіну? Яшчэ пры свёкру там быў калодзеж. Не такі, са зрубам, якія ў вёсцы капаюць, а глыбачэнны, выкладзены па крузе часанымі абымшэлымі камянямі. Даўно ўжо ніхто з гэтага калодзежа не браў вады. А калодзеж быў якраз пасярэдзіне двара — от і надумаўся свёкар засыпаць яго. Закаціў колькі валуноў, накідаў карчоў, рознага ламачча і прысыпаў зверху пяском. Скончыў свёкар сваю работу перад заходам сонца, а раніцай у крыніцы пад замчышчам і сапсавалася вада.

Расказваў свёкар, як у тую ж ноч з'явілася яму ў сне паннучка. Бытта ўселася яна ў нагах і прасіла раскапаць стары калодзеж. Хацеў рукой ён паварушыць і не мог, паспрабаваў галаву падняць, а яна як свінцом наліта. Ляжаў, абліваўся гарачым потам, а паннучка глядзела, глядзела на яго сумна і раптам склала рукі на падале ды як заплача! Ціхенька так, ні зыку, адны слёзы, як макавінкі, на падол сыплюцца. Шкада стала свёкру паннучкі, сабраўся ён з духам. «Што з табою, чаго ты так засмуцілася?» — пытае. І гаворыць дзяўчына, што было ў яе адно-адзінае акенца, праз якое яна на волю, на сіняе неба глядзела, а цяпер закрылі яго, засыпалі ёй вочы пяском, таму і слёз яна тыдзень ужо спыніць не можа. Сказала ўсё — і прапала, адно ветрык па хаце прайшоўся...

Тыдзень хадзіў свёкар хмурны, ні з кім нават гаварыць не хацеў. Потым аднойчы пакінуў усіх хлопцаў дома, сказаў — работа ёсць. Прынёс доўгія лейцы, адным канцом обвязаў сябе, другі аддаў ім і загадаў моцна трымаць. Так, абвязаны, увесь дзень раскопваў, выцягваў са старога калодзежа смецце ды

каменне. Нарэшце адкрылася ў яго пад нагамі вузкая шчыліна, і пацягнула з яе халадком. Кінулі яшчэ для пробы ў шахту каменьчык. Доўга перастукваў ён недзе ў глыбіні па каменнях, пакуль не плюхнуўся ў ваду... А праз ноч зазвінела, заспявала па крынічных каменнях чыстая, празрыстая, як сляза, вадзіца.



## ЗМЕЕЎ КАМЕНЬ

Паміж вёскамі Коўткава, Гогалеўка і Віркава, пры старадарожжы, на Ігры, ёсць Змееў камень з акном і з дзвярыма.

Старыя казалі, што калісьці, даўным-даўно, у гэтым камені змей жыў з адной галавой, у абліччы чалавека, і гаварыў так, як чалавек. Быў ён дужа ўдалы кравец.

Занясуць яму сукно, праз акно пададуць і папросяць:

— Майстрок, пашый, абы надзець.

Дык ён так пашые, што ніхто на свеце лепш за яго не зробіць. Прыйдуць па світку тую, прынясуць грошы, абы колькі там, хоць і троху. Пададуць праз акно, дык ён світку аддасць, а грошы сабе возьме.

А калі-нікалі хто скажа:

— Пашый мне, каб было ў царкву ў чым хадзіць...

Дык ён адзін рукаў ззаду прышые, а другі — на плячах. Так рабіў. Не прасі, каб у царкву схадзіць. Як просяць каля сахі хадзіць, дык адчаканіць, што хоць куды; а калі на святы дзень — зробіць, што ні сабе ні людзям.

У Бузер'і пад Лукомлем кахаў ён адну дзяўчыну. Яна ад яго хавалася, але ён усюды знаходзіў яе. Мусіла яна жыць з ім. Доўга яны жылі, а дзяцей у іх не было.

Бывала, абернецца ён дугой такой над возерам над Лукомльскім ды так і цягне. Як толькі на зямлю апусціцца, адразу прымае чалавечае аблічча — паніч такі, што хоць куды.

Аднойчы пасвіла яго дзяўчына свінні на полі. Прыляцеў ён да яе на поле, сабраў свіней у кучу і сказаў:

— Пільнуй, каб адкуль хмара не нацягнула.

Лёг і заснуў.

Тым часам з заходняга боку ўзнялася вялізная хмара.

А дзяўчына наўмысна не разбудзіла яго. І датуль не будзіла, пакуль не загрымеў над галавою гром. Як грымнуў гром, так ён і прачнуўся.

Прачнуўся і гаворыць:

— Вось калі ты мяне зжыла са свету.

Ускочыў ён, ляснуў ёй з правага боку па левай шчацэ — так і высмаліў на шчацэ пяць пальцаў. Усё жыццё відаць было, так і памерла з тымі адбіткамі пальцаў. А сам выцягнуўся дугой і паляцеў цераз возера нацянькі да сваёй хаты. Тут пярун і смальнуў па ім.

Смальнуў, а ён ляціць. А калі другі раз стукнуў, то ён упаў у возера.

Але ізноў усхапіўся і паляцеў.

Адзін стары быў у Бузер'і, дык усё гэта дзіва бачыў. Пераляцеў змей цераз возера, а пярун трэці раз смальнуў, ужо ў лесе, і забіў яго. Пасля таго трое сутак дождж ішоў, пакуль не знайшлі змея.

Стары той паказаў.

— Шукайце,— кажа,— там і там, на вашае поле ляцеў.

Знайшлі змея і закапалі. Дождж і сціх. Але праз суткі змей ізноў апынуўся наверсе.

Ізноў паліў дождж. Пачаліся грымоты вялікія. Пярун суцяшаецца: смаліць у яго, нежывога, каб не ажыў.

Хавалі змея гэтак разоў са тры ці з чатыры. Дык усё апыньваўся наверсе.

І як выйдзе, так сажняў на колькі і цягне ўсё ў той бок, дзе яго хата.

Старыя казалі, што каб надвор'е пастаяла, дык ён ажыў бы. Але дажджы ўвесь час ішлі дужа вялікія. Вада так паднялася, што чуць не затапіла ўсё вакол.

Прыснілася тады таму бузерскаму старому, што трэба сабраць усіх малых дзяцей, каб тыя ў прыполах, а жарабяткі ў торбачках на шыях нацягалі пяску і засыпалі змея.

Так і зрабілі. На тым месцы з таго часу курган стаіць.



## КАМЕНЬ-КРАВЕЦ

У незапомныя часы гэты камень меў цудадзейную сілу шыць адзежу, і навакольны люд карыстаўся з гэтага. Увечары яму прыносілі тканіну і прасілі:

— Сцяпан, пашый мне жупан!

І раніцаю атрымлівалі гатовую адзежыну.

Доўга так шыў камень, і яго назвалі «краўцом». Але аднойчы нейкая п'яная жанчына надумалася насмяяцца з каменя. Прынесла вечарам сукно, паклала на камень і сказала:

— Сцяпан, сшый мне ні тое ні сёе!

Калі яна раніцай прыйшла за адзежаю, дык аказалася, што тая сапсаваная: адзін рукаў прышыты там, дзе трэба, а другі прышыты да падолу, унізе... З таго часу кравец і пакінуў шыць.



## КАМЕНЬ-ШАВЕЦ

Невялікае мястэчка Камень названае так ад вялікага каменя, які ляжыць непадалёку на вельмі відным месцы. Пра той камень расказваюць такую гісторыю. У ім, у камені, жыў шавец. Дзвярэй у яго хаце не было, а было толькі адно акенца, хоць цяпер ад гэтага акенца і слядоў няма. Усякаму, каму трэба былі боты, варта было падысці да акенца, сказаць, што яму трэба, назначыць час і пакласці грошы, колькі — невядома, а вядома толькі, што лішку выкідалі праз акенца, і абутак быў гатовы ў свой час. Боты былі цудадзейныя: іх можна было насіць пятнаццаць гадоў і чым часцей хадзіць у іх на ігрышчы, тым лепей, але толькі з умоваю не хадзіць у царкву, там яны адразу распаўзаліся. Святары, угледзеўшы ў гэтым шаўцы злога духа, стварылі заклён над каменем,і з таго часу спыніўся выраб цудадзейных ботаў. Самога шаўца ніхто не бачыў, ніхто з ім не гаварыў, і хто ён такі — дагэтуль таямніца.



## ЦУДАДЗЕЙНЫ КАМЕНЬ

У Ашмянскім павеце, за мястэчкам Смаргоні, пры Мінскай паштовай дарозе, на лузе ляжыць камень даўжынёй пяць аршын, шырынёй — чатыры. Далей, за Смаргонямі, ёсць камень яшчэ большы за гэты... Ад яго і бліжняе мястэчка завецца Камень... Пра гэты большы камень расказвалі, што нібы ў даўнія часы, калі хто пакладзе на яго два злотых, дык, вярнуўшыся дадому, знаходзіў боты, якія невядома адкуль узяліся.



## ПРА КАМЕНЬ У ВАЛІЛАХ

Было гэта даўным-даўно, калі людзей тут яшчэ зусім не было. Вакол цягнуліся непраходныя пушчы-лясы ды вілася сярод іх вось гэтая рэчачка. У балотнай твані сядзеў д'ябал. Бачыце, калісьці нячысты толькі ў такіх месцах і вадзіўся. Гэта цяпер адно стаў ён па гарадах шляцца. Сядзеў ён так ды з нуды корпаўся ў балоце, ажно бачыць: берагам рэчкі ідзе чалавек. Здалёку, відаць, небарака вандраваў: схуднелы ды абдзёрты ўвесь. Убачыў рэчку, прысеў на купіну, а свае змораныя ногі ў ваду апусціў ды пабоўтвае імі, каб хутчэй стому з іх сагнаць. А д'ябла ад злосці аж

чорт носіць: «Бач ты, маўляў, мала таго, што па маім беразе валочыцца, то яшчэ і мяне сваім боўтаннем непакоіць уздумаў! Чаго добрага — возьме і назаўсёды тут жыць астанецца. Ну, тут-то я цябе і звяду са свету».

Выкалупаў нячысты з багны каменьчык, бы зярня бобу са струка, напляваў на яго, перакінуў разы са тры з адной сваёй калматай лапы ў другую, і тут уваччу маленькі камушок у аграмадны валун абярнуўся. Пачаў размахвацца д'ябал з усяе моцы, але ж як на тое ўзяў ды паслізнуўся ў топелі, і глыба замест чалавека бухнула на скрай лугу. Убачыў вандроўнік, чым тут пахне,— лахі пад пахі ды ходу з гэтых мясцін. А валун так і астаўся ляжаць тут. Ад таго, што чорт уваліў тут валун, і павялася назва — Валілы.



## ЛІТОЎСКІ КАМЕНЬ

На паўдарозе паміж Жодзішкамі і Тупальшчынай дно Віліі завалена каменнем. Расказваюць, што, калі езуіты задумалі пабудаваць у Жодзішках касцёл і ім не хапала на падмурак камення, яны пачалі прывозіць яго з ваколіц. Аднак чорт, якому касцёл быў вельмі не даспадобы, сабраў сваіх сяброў-чарцей, і рашылі яны пажартаваць: пазакідвалі камяні ў ваду. Некаторыя камяні нават аж на другі бераг паперакідвалі. Шчыравалі ўсю ноч, а перад самым світаннем, калі чорт нёс апошні вялікі камень,— відаць, хацеў зусім заваліць рэчку,— пачало днець, заспяваў певень, і

чорт упусціў сваю ношу... на правым беразе Віліі. Камень гэты каля трох локцяў шырыні, пяць з паловаю вышыні і па кругу локцяў пятнаццаць.



## ТУРАЎСКІЯ САРКАФАГІ

Меў тураўскі князь трох сыноў і пяцёра дачок. Падраслі сыны, князь вырашыў раздаць ім у спадчыну княства. Старэйшаму — Тураў з землямі, сярэдняму — Пінск, маладзейшаму — Дубравіцу. А што рабіць з дочкамі? Сватаюцца князі розныя: полацкі, менскі, чарнігаўскі, наваградскі, смаленскі, віленскі, магілёўскі...

Склікаў князь баярскую раду.

— За каго аддаваць дачок? — пытаецца.— Аддам дачок замуж — пасаг патрэбны з княства... Парадняюся з аднымі князямі, а іншыя на нашыя землі будуць вока мець.

Моцна задумалася рада. Пасля вынесла прысуд: заставацца князёўнам у дзеўках, а каб вельмі не сумавалі, аддаць іх у манастыр.

Князёўны, нічога пра гэта не ведаючы, сваволілі пад наглядам служак у лесе. Старэйшай — Палянеі — было дваццаць гадоў. Маладзейшай — Луцэі — чатырнаццаць. Былі ўсе князёўны прыгожыя, чарнабровыя і стройныя. Дзівіліся людзі мясцовыя і прыезджыя на прыгажосць небывалую тураўскіх князёвен.

У гаі князёўны вянкі плялі, надзявалі адна адной

ды ў люстэрка вады глядзеліся. Карагоды з дваровымі дзеўкамі вадзілі. Іх галасы разносілі далёка за раку гукі песень напеўных. Сюды ў гай прыйшоў князь з целаахоўнікамі і паведаміў князёўнам волю баярскай рады. Не пярэчачы, выслухалі яны прысуд і ціха ў нямым паклоне схіліліся. А як князь пайшоў, горка заплакалі, кідаючы вянкі ў Прыпяць.

Сціхлі гоман, песні і смех сясцёр. Шмат дзён яны плакалі і ра́дзіліся, пасля вырашылі на Купалле шукаць папараць-кветку. На Купалле, калі ўсе паснулі і ля палаца засталася толькі варта з алебардамі, князёўны паціху пракраліся з палаца і пайшлі на бераг Прыпяці.

На чоўне пераплылі Прыпяць і ў балотны хмызняк падаліся. Чым далей ідуць, тым горш робіцца. Праводзяць іх у цемры вочы драпежнікаў, чуюцца стогны, галёканне. А як да багны падышлі, тут і зусім блага стала: з купін зрываюцца, у багну правальваюцца. Але ўпарта наперад ідуць. Зайшлі ў такую глушэчу, дзе яшчэ не хадзіла нага чалавечая, дзе толькі совы крычаць, вадзяныя гады малако з балотных гарлачыкаў п'юць ды вадзянік барадой багну калыша. І тут самай малодшай з іх зрабілася страшна. Схапіла яна сясцёр за рукі, і тым зрабілася боязна.

Але ўбачылі яны наперадзе ззянне. Уздымалася яно над наваколлем. Тады наперад падаліся. Падышлі да кургана вялікага. А на кургане тым асілак з дружынай стаіць, святлом нязнаным свеціцца.

Дзівяцца князёўны. Воіны з кургана сышлі, князёвен акружылі, на курган запрашаюць. Падняліся на курган князёўны, а там баль вялікі — з залатых кубкаў мёд і брагу п'юць. Князёўнам кубкі паднеслі. Тыя выпілі, смаку мядовага не адчулі, але чым далей, тым п'янеюць больш. Пайшлі ў скокі з воінамі. Музыка грыміць, зброя бразгоча, крыкі на балоце чутны...

Доўга ці не тыя скокі цягнуліся, толькі неяк прайшоў хмель у Луцэі. Дзівіцца яна, што трымае воіна за рукі, адчувае сцюжу рукавіц яго жалезных. А вакол — з кургана бачыць — на ўсім балоце вочы звяроў блішчаць. Пазбіраліся яны да кургана, морды пазадзіралі — выюць. А далей за імі нехта ў багне рагоча...

Паглядзела Луцэя на сясцёр, а тыя сабе скачуць, толькі вочы пазаплюшчвалі.

Вырвалася Луцэя ад свайго кавалера, сясцёр за рукі хапае, па імёнах кліча. Сёстры апрытомнелі, да Луцэі збегліся.

Воіны ўжо князёвен не бачаць: загарэліся ў іх вочы, як у звяроў пад курганам, выхапілі яны мячы і біцца пачалі.

Збеглі князёўны ўніз з кургана, а на курган з усяго балота звяры рынуліся. Воіны іх мячамі сякуць. Звяры курган усыпалі і адзін аднаго разрываць пачалі. Такія тут крыкі і енк пайшлі, што ў князёвен валасы дыбам сталі. Кінуліся яны наўцёкі. Доўга праз балоты прабіраліся, у багне вязлі, адзенне аб хмызняк на шматкі раздзіралі, у рэчках балотных купаліся. Нарэшце выбіліся на палянку, на бераг возера.

На паляне той русалкі, за рукі ўзяўшыся, карагод водзяць. У святле месяца іх мокрыя целы блішчаць, з валасоў доўгіх кроплямі вада сцякае.

— Сёстры нашы прыйшлі! — закрычалі русалкі.

Да князёвен падбеглі, іх распранулі і ў карагодзе закружылі. Пасля ў возера пацягнулі. Скочылі князёўны ў возера, а вада сцюдзёная... Маўчаць князёўны, а русалкі рагочуць, пад ваду ныраць клічуць. Падплыў стары з барадой, мохам аброслай, пытаецца:

— Вы да нас жыць прыйшлі? Ці што шукаеце?

— Папараць-кветку шукаем,— кажуць князёўны.

— Дайце ім кветку,— адказаў вадзянік, зарагатаў і пад вадою знік.

Возера захвалявалася, князёвен і русалак хвалі на бераг выкінулі.

Зноў у карагодзе кружаць сёстры. Цяпер іх ад русалак не адрозніць.

Перанеслі русалкі князёвен цераз возера і па такім зыбуне павялі, што тыя нічога пад нагамі не чуюць.

Убачылі яны на балоце кветкі агністыя і давай іх ірваць. Сарвуць кветку, а з яе кораня масла нейкае чорнае цячэ. Засмуціліся русалкі, плачуць: «Нашу прыгажосць нішчыце!»

Цякуць слёзы ў русалак, зліваюцца ў струмень, і вось утварылася ўжо крынічка на балоце. Князёўны нічога не чуюць і не бачаць, толькі папараць-кветкі рвуць.

Праспяваў балотны певень: «Ку-ка-рэ-ку!» Зніклі русалкі, пабляклі кветкі ў руках у сясцёр. Ужо не здаюцца яны самацветамі. Белым колерам квітнее звычайная папараць. Толькі на самым версе каменьчыкі блішчаць.

Агледзеліся князёўны: балота наўкол, непадалёк азерца масла чорнага, крынічка цячэ, а самі яны голыя... Сцюдзёна зрабілася. Ступіла маладзейшая князёўна ў маслянае азерца ногі пагрэць і — чуе шэпт:

— Уцякай хутчэй!..

— Пабеглі,— кажа Луцэя.

Уцякаюць князёўны. Адшчыкнула каменьчык з кветкі сястра старэйшая — пацямнела адразу, хмары надышлі, бліснула маланка, пярун ударыў, лівень лінуў, і папаўзлі з балота гады шэрыя да князёвен.

Гарыць каменьчык. Бягуць сёстры...

Згубіла каменьчык Паланея — стала зусім цёмна, не відаць, куды бегчы.

Адшчыкваюць сёстры ад кветак каменьчыкі, сабе шлях асвятляюць. Паабрывалі і пагублялі ўсе каменьчыкі з папараць-кветак. Тут ім гады ногі абвілі: не могуць князёўны далей бегчы. Толькі Луцэя бяжыць. Пачуўшы крыкі сясцёр, спынілася і да іх вярнулася. А тых, скручаных па руках і нагах гадзюкамі, багна паглынае.

Доўга бегала вакол сясцёр Луцэя, плакала і галасіла, аж пакуль нейкі гад шэры з купіны ёй на грудзі не скочыў і кругом стана не абвіўся. Павалілася тады і Луцэя, скруцілі і яе гадзюкі балотныя...

Апоўдні спахапіліся ў княжацкім палацы. Сталі ўсюды князёвен шукаць і — не знайшлі... Толькі праз тыдзень удалы дружыннік Базыль, закаханы ў старэйшую князёўну, дабраўшыся ў глухамань балот, знайшоў у багне маладзейшую князёўну. Выцягнуць яе з багны не здолеў і вярнуўся ў палац да князя. Дружыннікі з князем вырвалі ў твані князёвен. Балотныя гадзюкі павыпівалі ў іх кроў. Целы князёвен у палац перанеслі.

Галосіць, млее княгіня... Засумаваў князь, зачыніўся ў пакоях, тры дні нікога да сябе не дапускаў. Пасля загадаў:

— Рабіць князёўнам каменныя дамавіны. У камені перадаць прыгажосць іх!..

Аднекуль, з Оўруча, здалёк, прывозілі прыгожы камень. Шэсць тыдняў рабілі майстры з каменя дамавіны. Князёўны, палітыя змяіным ядам, ляжалі ў палацы як жывыя.

Неўзабаве, калі каменныя дамавіны былі зроблены, князёвен пахавалі па хрысціянскім звычаі ў скляпенні пад храмам. Удалы Базыль, падгаварыўшы малойцаў, збег ад князя на Дняпро, дзе заснаваў казацкую вольніцу.

Хутка княгіня, а за ёй і князь памерлі. Сыны пачалі паміж сабой ваяваць за спадчыну. Княства аслабела і страціла былую славу...



## У НОЧ НА КУПАЛУ

...Гадоў сто, а можа, і дзвесце назад у ноч на Купалу ведзьмы і лесуны абралі пад свае скокі самы стары на Лысай Гары ясень. З-пад яго густой кроны разносіліся па наваколлі смех, свіст, нейкая бязладная гаворка. Лысагорцы, пачуўшы вядзьмарскае ўлюлюканне, пахаваліся ў сваіх хацінах. Адзін толькі малады каваль, асілак Янка, не спалохаўся. Ён шпацыраваў са сваёй дзяўчынай Марыйкай і нізвання не зважаў на ўвесь гэты д'ябальскі вэрхал. Але раптам з ніжняй ясеневай галіны працягнулася белая як снег рука, і салодкі голас паклікаў:

— Хадзі, Марыйка, хадзі да нас у карагод!..

Марыйка падала руку і як у пастку трапіла. Пацягнула яе невядомая сіла ўгору, на ясень. Добра яшчэ, што Янка паспеў ухапіцца за яе. Расставіў ногі, упёрся магутнымі плячамі ў дрэва і не пускае. А зверху рагочуць ды прыгаворваюць:

— Позна, Янка, позна. Марыйка сама згадзілася, не твая яна ўжо, а наша. Пусці, пакуль дабром просім...

Раззлаваўся асілак-каваль, мацнейшы ў сем разоў зрабіўся. Паднапяўся ды так ірвануў з учэпістых пальцаў сваю каханую, што разам з ёю сцягнуў з ясе-

ня цэлы тузін звязаных адной вяроўкай ведзьмакоў страшыдлаў. Адразу сціх рогат, пачалі ведзьмакі плакаць-рыдаць, прасіць Янку, каб падсадзіў іх на ясень. Золата, брыльянты абяцалі. Янка загадаў Марыйцы заплюшчыць вочы, а сам ухапіў за чупрыну першага лесуна, пацягнуў увесь іх паганы карагод да гнілой сажалкі, што была каля падножжа Лысай Гары, і спіхнуў у дрыгву. Закіпеў бруд балотны, і ў адно імгненне выпарылася, высахла тая сажалка.

З таго часу на старым лысагорскім ясені, названым у гонар смелага каваля-асілка Янкавым, ніколі больш у ноч на Купалу аніякай нечысці не з'яўляецца. Нават калі дзьме моцны вецер, калі трымцяць, гудзяць усе суседнія дрэвы, Янкаў ясень стаіць і не варухнецца...



## РУСАЛЧЫН ВОСТРАЎ

Мая маці з Палесся. (Палессе — гэта туды, пад Тонеж.) У яе сясцёр і братоў там багата было, мо дзесяцера. Меншы брат Ян звався. Ён за лесніка з маладых год быў. То вот што з гэтым маім дзядзькам адзін год прычынілася. Пайшоў ён на Івана Купалу з ружжом у лес, думаў, якую дзічыну забіць — мо кабана, мо лася, а мо мядзведзя. Пайшоў рана, яшчэ сонейка не ўставала. Ціхенька ідзе па лесе, звера цікуе. Выйшаў к Сіверскаму балоту, ідзе паўз яго памалу. І на балоце, і ў лесе ціха. Ідзе-ідзе, аж раптам нешта яму зрабілася. Хоча ісці далей, да не можа, як бы дзеравянее. Нешта не пускае яго далей ісці, на ба-

лота заварочвае ды цягне. Не хоча ісці, баіцца, дрыжыкі бяруць, а ідзе. З купіны на купіну ступае, скача. Да ўсё хутчэй, як бы завод які ў ім стаў, усё далей на балота. Балота тое вялікае. Пасярод яго возера, ёсць пасярод возера — востраў з купін, на востраве — куст адзін каля вады рос. Выйшаў дзядзька к таму возеру. Раненька яшчэ было, як бы туман возера аблягаў. Бачыць ён цераз туман той востраў. А на востраве — русалкі, з крыламі, без сарочак, голыя, косы русыя па пояс. Пабраліся ў круг ды танцуюць з падскокамі. А адна сядзіць пад кустом каля самае вады, у воду глядзіцца ды косы расчэсвае. Косы расчэсвае ды пазірае ў дзядзькаў бок. І здалося яму, што яна вабіць яго, да сябе кліча. Страхоцце на дзядзьку найшло, выбраўся ён з балота, а як — не помніць. Спужаўся моцна. Цяпер русалак там ніхто не бачыў. Ці то яны ёсць, ды не паказваюцца людзям, ці то звяліся. Мабыць, звяліся.



## РУСАЛКІ

Русалкі цераз мяжу не могуць перайсці, праз гэта і зваліся: бачыш, цяпер зямля ўся перамераная. А раней, як зямля была не мераная, іх было шмат. Бывала, выйсці нельга — зашчыкочуць. А ў лесе, дык ноччу толькі і чутна: гу! гу! гу! Аж сумна. Даўно калісьці, дзяды казалі, дзвюх прыводзілі і да нас у вёску. Дык у іх жаноцкае ўсё, толькі грудзі вялікія ды валасы доўгія. І нічога не гавораць, толькі плачуць і плачуць,

ракой слёзы ліюцца, пакуль пусцяць. А як пусцяць якую,— тагды запяе, зайграе ды ў лес. Шмат было. Ну і нядзеля Граная, што яны на гэтай нядзелі каталіся, гралі ў лесе: гутата-гуляля, гутата-гуляля! Толькі, бывала, і чутна.

* * *

А то так вот, мой бацька працаваў на полі ля лесу, на Гранай. І паставіў барану ў бярэзніку. Дык яна злезла з бярэзіны ды з бараной стала гуляць. Гуляла-гуляла, дый ушчамілася. Цягае барану. Прыходзіць бацька, а яна ўжо і сядзіць. Ну, дык ён яе да двору прывёз. Яна яму цэлы год служыла. І што яна ела? Як гаршкі выставяць з печы, дык яна пары нахапаецца-нахапаецца ротам, аб тым і сыта. І ўсё чыста рабіла. Раз толькі пакажы ёй, больш ужо не трэба. І прала, і ткала, і скаціну даглядала, хату цяпліла. Тады, як год адслужыла, як зноў прыйшла Граная, яна і гаворыць:

— Ну, мне пара, госці мае ўжо прыехалі.

Зайграла, заскакала і ў лес. Цэлы год нічога не гаварыла. Толькі гэта і сказала.



## НАЧНІЦЫ

Начніцы больш за ўсё гуляюць па лету, як лес добра ўбярэцца ў лісце, як па паплавах зацвітуць кветкі, на палях выкаласіцца жыта да ўсюды стане

так гожа, так запахне, што, здаецца, толькі б сядзеў дзе-небудзь сярод зялёнага, пахучага лісту ці паміж красак да ўсё б нюхаў тыя пахі, што напаўняюць і поле, і поплаў, і лес. Але поўнага ніколі няма дабра: калі вакол так гожа, такі пах, так радасна на сэрцы, то пэўна якаясь бяда ўжо зусім блізка. Вот толькі за лес схаваецца сонейка, як гушчэча загамоніць усялякімі галасамі. Там рагочуць русалкі, гойдаючыся на ветках, там ломяць дзеравякі лесавікі да трашчыць ўсялякая нечысць, а там ціхенька вылазіць з лазовых кустоў цэлая чарада начніц. Яны толькі тое і робяць, што пужаюць добрых людзей.

Вот раз я з Данілам Грудавых якраз гэтак каля сёмухі хацеў налавіць уюноў. Узялі мы сачкі дый папхаліся ў возера. Там, бачыце, не вада, а толькі адна гразь, а ўюноў, хоць ты шуфлем шуфлюй. Налавілі мы паўчоўна. Больш не можна, бо чэрпае воду. Ледзь прыпхаліся мы да берага, выйшлі на грудок дый заначавалі пад вярбою. Толькі мы закурылі залюлькі, як вось у алешніку штось заверашчала, залюпішчала ды пачало так рагатаць, што аж лес разлягаецца. Сядзім мы аж нежывыя. Што тут рабіць! Яшчэ добра было б, каб мы наклалі агню. Ведама, агню баіцца ўсялякая нечысць. А тут бяда — на тым грудку няма нічога сухога, ніякага лому. Сядзім мы дый толькі зубамі ляскаем са страху. А тут яшчэ была хмурная ноч: чуць-чуць толькі відаць якісь прасвет праз густыя веткі алешніку. Пачалі мы прыглядацца, аж і бачым, што на самым возеры стаіць густы туман, а ў тым тумане штось мітусіцца, быццам гурт дзевак махае хвартухамі. Здагадаліся мы, што начніцы скачуць ды спраўляюць сваё ігрышча. Так мучыліся мы чуць не ўсю ноч, пакуль не пачало світаць. Леглі мы тагды, каб трохі заснуць, але не маглі, бо піск, рогат не сунімаліся. Няма чаго рабіць, падняліся мы дый

пайшлі да ракі. Толькі мы пралезлі праз лазу, бачым, аж там голыя начніцы выскачылі з кустоў, падбеглі да ракі ды плюх, плюх у воду. Толькі мы іх і бачылі.



## ВАЎКАЛАКІ

Ды вот я, што гаварыць далёка, сустрэўся з адным чалавекам, які ваўкалакам быў. Гэта было гадоў, можа, пяць таму. Іду я лесам да Неўклі Гарадніцкага павета Чарнігаўскай губерні. А насупраць ідзе чалавек, страшны-прастрашны, і вочы яму пакасіла, і выгляд нездаровы. Я пытаю:

— Што гэта ты, чалавеча, такі пакалечаны?

А ён адказвае:

— Так, брат, будзеш пакалечаны, як ваўком колькі год пабегаеш.

— Дык няўжо ты ваўкалакам быў?

— Так быў жа!

— А, брат, раскажы, як гэта было.

Ну, зайшлі мы ў шынок, выпілі па васьмушцы, вот ён мне і расказаў.

— Пасварыўся,— кажа,— я з суседкай. Крыў я гумно сваё і скінуў неяк салому, колькі там снапоў, на яе каноплі. Яна кажа: ты мне паламаў каноплі. А я кажу: хіба ж я хацеў? Хоць, кажу, і на суд падасі, дак і суд нічога мне не зробіць. А яна кажа: «Добра, будзеш ты ведаць суд: я цябе сама рассуджу». Ну, пагаварылі мы так, дый усё. Праз тыдзень паехаў я з кумам у млын. Пабылі ў млыне, едзем назад. І сталі

мы коней падпасаваць. І мне стала так на сэрцы моташна, так нудна; і захацелася мне вот абавязкова праз хамут пралезці. Як я пралез, так і стаў ваўком, і пабег. І бегаў, браток ты мой, я тры гады без ваўкоў, адзін, а на чацверты яны ўжо прынялі мяне ў гурт да сябе. І бегаў я з імі разам і асобна. Раз Юры наказаў нам рабога каня з'есці. Дык ён нам пах за сто вёрст. З'елі мы таго каня і цэлы тыдзень есці не хацелі. Другі раз захацелі мы есці, дык ваўкі паслалі мяне ў статак. Я прыбег, парася ўзяў. А пастух кажа: «Эй, ты, што ж ты ўзяў без дазволу?» Дык я стаў і — ні з месца. Павярнуўся, дык кругом яма. Ваўкі крычаць: «Кідай ды ўцякай!» А мне няма куды ўцякаць. І стаю я, пакуль пастух прыйшоў ды сказаў: «Кінь!» Тады я кінуў, а пастух узяў пугу і хвастануў па мне дванаццаць разоў. І так, што на мне шкура аб'ехала воўчая. Я і зрабіўся чалавекам, толькі крыху пакалечаны.



Выпала нейкае свята, вот нашы мужчыны і кажуць:

— Жанкі, о жанкі, чаго сядзіце дома?

— Сягоння ж свята,— кажам мы.

— Святу святая справа. Няхай бы вы схадзілі ў лес да назбіралі хоць якіх казлякоў.

Праўду кажуць, што не так воўк баіцца сабакі, як яго звягу не любіць. Так і мы. Хоць і не баімся мужчын, але што ж з імі рабіць. Абулі мы з Хвядораю лапці, закінулі за плечы кашолкі дый пабеглі ў лог шукаць грыбоў. Лёталі мы, лёталі, абегалі ўвесь лог — няма нічога Хвядора знайшла, можа, якіх з пяток бабак ды сыраежак, а я, апрача лісічак, нічога не знайшла. Падышлі мы да гушчарні дый завярнулі да кругловіны. Мы хацелі ўжо вярнуцца дадому, як вось рап-

там супыніліся дый стаім бы ўкопаныя: з гушчарні выскачыла цэлая чарада ваўкоў ды так проста на нас і садзіць. Хацелі мы крычаць, але толькі зяхаем — голасу няма. Стаім мы, бы самі сябе аддаём ваўкам у зубы, а тыя цялюх дый пабеглі міма нас проста ў гушчэчу. Спалохаліся мы, аж не палічылі, колькі там было ваўкоў, але, пэўна, з дванаццаць. Ачухаліся гэта мы ды як сунулі дадому, дык толькі пяткі мітусяцца. Але вось развязалася ў мяне абора, дый зачапілася я за патырчаку. Рванулася я дый схапіла Хвядору за плечы. Як грымнуліся мы абедзве з усіх ног дый качаемся па верасе. Хацела я ўстаць, але чую, што нага прывязаная. Тут толькі ўбачыла я, што абора закруцілася. Пакуль я завязвала аборы, Хвядора аглянулася назад дый бачыць, аж збоку ідзе Гараська Каваль. Абрадаваліся мы ды бягом да яго насустрач.

— Родненькі,— кажам,— ратуй. Чуць не загрызлі нас ваўкі.

— Якія там ваўкі? — пытае ён.

Мы ўзахапы пачалі яму расказваць, як на нас набегла цэлая чарада ваўкоў.

Паслухаў ён дый кажа:

— Якія гэта вам ваўкі! Гэта ж ваўкалакі. Яны былі такія ж людзі, як і мы, толькі, мабыць, іх нейкі чараўнік абярнуў у ваўкоў. Ён кажа, што больш за ўсё чараўнікі абарачаюць у ваўкоў людзей на вяселлі.

Мы даўно чулі, што бываюць ваўкалакі, але ніколі самі не бачылі, якія яны. А тут і давялося ўбачыць іх на свае вочы. Вот і пачаў нас Гараська вучыць, каб мы другі раз працягнулі па зямлі пояс: як ваўкалакі пераскочылі б праз яго, то й сталі б зноў людзьмі. Пашкадавалі мы, што дурныя, не ведалі, як памагчы бедным людзям, але па смерці няма пакаяння.



## РАСАМАХА

Старыя людзі кажуць, што калісьці тут у лесе вадзіліся звяры расамахі, але гэта, мабыць, няпраўда, бо я сам з дзецюкамі бачыў расамаху, дык яна была ў постаці жанчыны з распушчанымі косамі. Гэта не звер, а якаясь нечысць. У нас людзі кажуць, што расамахаю робіцца жанчына, як яна знішчыць сваё дзіця дый сама ўтопіцца. Неяк раз я з дзецюкамі касіў сена каля ракі. Выбралі гэты мы грудок, палажылі там свае торбачкі з абедам дый пайшлі касіць. Ведама, раненька з расою трава мяккая. Мы такі пайшмат выкасілі, пакуль сонейка паднялося ўгору. Пайшоў я на грудок узяць біклагу з квасам, аж бачу, хтось пачапаў нашы торбы, а біклагу павесіў на алешыну. Каб гэта быў сабака, то б ён не чапаў біклагі. Пачаў я прыглядацца ды прыслухоўвацца, аж чую, плача дзіця вот зусім блізка ў лазе. Я туды — яно далей. Я далей за лазу, а яно ў алешнік. Я за ім — яно к самай рацэ. Думаю — што гэта за ліха? Забыўся я і пра квас, хочацца мне пераканацца, якое гэта ліха. Вот я нібыта пайшоў назад, а тым часам ціхенька, на пальчыках давай падкрадвацца праз алешнік к рацэ. Зірнуў я, аж каля ракі на бабровай хаце сядзіць голая жанчына з распушчанаю касою, а на руках трымае маленькае дзіцятка. Гэта, мабыць, яно і плакала, думаю сабе. Тым часам яна палажыла дзіця побач ды давай шчупаковым грэбнем расчэсваць валасы, а я стаю ды дзіўлюся, хто б яна была такая і чаго яна сядзіць тут на бабровай хаце? Толькі

я тое падумаў, як зноў пачало плакаць дзіця. Яна давай яго хістаць, палажыўшы на ногу. Тым часам мае дзецюкі з другога боку пачулі, што ў алешніку плача дзіця, дый падышлі туды. Як толькі тая расамаха прыкмеціла, што праз алешнік ідуць людзі, усхапілася сама, схапіла сваё дзіця дый шабултых у воду, толькі шчурачкі пайшлі. Падбеглі дзецюкі, сустрэлі мяне дый пытаюць, ці не бачыў я якога дзіцяці. А мне няма чаго і казаць, бо яны не паверацъ. Вярнуліся мы на сенажаць дый пайшлі палуднаваць. Прыходзім на грудок, аж там зноў хтось пачапаў нашы торбы. Здагадаўся я, які гэта злодзей, дагадаўся, што пачапала расамаха, але прамаўчаў.



## ПРА СТРАЛЬЦА І ЗМЕЯ

Аднойчы адзін стралец ішоў па сваім абрубе, прыглядаўся ды прыслухоўваўся, ці дзе які лень-злодзей лесу не сячэ. Позняй вясной гэта было. На палянах трава ды квецце ў калена, а вакол птушыны рознагалосы хор. Ідзе так ён, ідзе і раптам чуе: недзе далёка ў глыбі абруба нехта свіснуў. Стралец затрымаўся, прыслухоўваецца: ажно зноў чуе свіст. Западозрыўшы, што гэта нейкі злодзей падае знак свайму сябру, стралец таксама свіснуў. «Ану ж,— падумаў ён,— зладзюга сам да мяне ў пастку прыйдзе». І пачалі яны так перасвіствацца: свісне той у абрубе, і стралец яму ў адказ свісціць. І стаў стралец заўважаць, што свіст усё бліжэй і бліжэй у яго

бок падыходзіць. Схаваўся ён за камель тоўстай елкі, наставіў стрэльбу, але на кожны той свіст сваім свістам адказвае. І тут чуе, што свіст зусім блізка, бадай, у яловым маладняку, які ля далінкі кусціцца. Выглянуў стралец з-за камля — аж выпаўзае з гушчару аграмадны змей, вочы бліскучыя ў яго а на галаве залатая карона, і свішча. Атрупянеў стралец, мурашкі па спіне забегалі ў яго, ды шапка на валасах узнялася. Але ўсё ж прыцэліўся ён між змяіных вачэй і націснуў спуск. Гукнуў стрэл. Змей роспачна свіснуў, скруціўся ў аграмадную пружыну і пачаў вобзем біцца. Дзе ні ўдарыць — іскры з яго цела сыплюцца і сыры лес загараецца. Кінуўся стралец наўцёкі. Доўгі час здалёк абыходзіў тое месца. Толькі назазімку, калі чорная стопа пасля замаразкаў надобра стала, рашыўся туды заглянуць. Зайшоў, а там ні ельніку густога, ні алешніку, ні нават тае тоўстай елкі — адно пні абгарэлыя навокал. І след па змею таксама прапаў.



## БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ

У Тураве жыў калісьці князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры і людзей каля сябе збіраў усё разумных ды моцных.

Неяк князь з гасцямі сваімі паехаў на ўловы біць цяцераў і дзікіх вепраў. Многа было ўжо набіта ўсялякай дзічыны, але Яраслаў, якраз калі хацеў даць загад трубіць на збор, убачыў вялізнага старога тура і пагнаўся за ім. Некалькі гартоўных княжых стрэл упі-

лося ўжо ў цела тура, але звер з падвоенай сілай уцякаў ад лаўца. Тады князь пачаў паганяць свайго каня, каб дагнаць тура.

Раптам тур спыніўся і павярнуўся ў бок князя. Конь з разгону наскочыў на тура і зваліўся, прабіты рагамі, прыціскаючы сабою седака. Яшчэ момант, і князь паплаціўся б жыццём. Але на гэтую хвіліну падаспеў загоншчык Ранцэвіч. Ён зняў з сябе світку і накінуў яе туру на вочы ды хутка нажом ударыў звера ў самае сэрца. Тур нежывы рынуў на зямлю. Князь выбавіўся з-пад каня і, дзякуючы загоншчыку, сказаў, каб той прыйшоў у абоз па ўзнагароду.

Калі загоншчык прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім скрынку з золатам і сказаў:

— Бачыш, многа тут золата, але жыццё даражэй золата, бяры, колькі хочаш.

Загоншчык быў чалавек мудры. Ён узяў кіёк, разгарнуў чырвонцы, каб кіёк упёрся ў дно скрынкі, і сказаў:

— Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэта тваё залатое багацце не вечнае, калі-небудзь прыйдзе канец яму. Дый золата больш патрэбна князю, як простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Князь задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзеш.

Засмяяўся загоншчык:

— Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацце.— І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і ўвесь усунуў у зямлю.— Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма: яно ратару больш вартае, чым тыя чыр-

вонцы. Грошы могуць украсці, а гэтае ніхто не ўкрадзе.

Засмяяўся князь, спадабалася яму загоншчыкава мудрасць, і ён кажа:

— Праўду гаворыш, дам табе зямлі на дзесятае пакаленне.

І, зайшоўшы ў шацёр, напісаў князь Яраслаў дарчую грамату мудраму загоншчыку Ранцэвічу на ўсю ваколіцу Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у вёсцы Вялемічы, жывуць Ранцэвічы ў вялікай пашане. У цынкавай трубцы перадаюць яны з роду ў род дарчую грамату князя Яраслава, а паказваючы яе, апавядаюць паданне пра свайго мудрага прашчура.



## ПРАМОВА

Гэй, хлопцы, брацця мае, сыны Зямлі Беларускай, каторая раскінулася ад Гродны да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася. Кіньце ўвакол вокам, сабярыце харашэнька думкі і скажэце, ці павінна так быць, як цяпер ёсць? Ці справядліва гэта — усяго, што сваё, чурацца: і мовы сваёй, і звычаю свайго, і апраткі сваёй? А ведаеце тое, што мова наша калісь слаўнай была і быў час, калі наша мова працвітала пры дварэ каралёў польскіх. Ведайце, што спамеж вас больш, як спамеж другіх народаў славянскіх, слаўных людзей выходзіла даўней і цяпер выходзіць і розумам і ваеннымі заслугамі.

Колькі-то вучоных людзей, колькі-то слаўных казакоў, ваявод і гетманаў наша зямліца выгадавала?

Адно нядобра, што кожны славу прыносіць не сваёй старонцы, а ўсё чужым. Прымерам кажучы, як той Галубок, просты селянін зямлі Наваградскай, што са сваёю сотняю казакоў — ці мала славы прыдбаў палякам так, што і песні аб ім складалі. А ў нас? Ці ведае хто яго?

І бяру я гэта ўсё на розум, і здаецца мне, што хутка саўсім загіне наш народ, бо яшчэ за гадоў трыста таму, як паны, так і халопы свае мовы не саромеліся: і гаварылі, і пісалі ўсё па-свойму. Потым мала-памалу паны сталі сваіх звычаяў чурацца, сталі свае парадкі і мову сваю пакідаці ды польскую пераймаці і так, што далей — болей, аж саўсім палякамі сталі. На паноў гледзячы, пачалі і сяляне апратку сваю мяняць на нямецкую і мову калечыць. Нават сваіх спяванак пачынаюць саромецца, мужыцкімі называюць.

Але не! Наш народ не загіне, а прыйдзе такая часіна, што прачнецца наш народ і скажа суседзям так: «Служылі мы вам — заплацеце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажэце нам толькі: «Беларусы вы!» Вось толькі!»

Дый красна ж бо наша зямліца, усе выгады мае: і рэскіба ўрадлівая, і лесу багата, і сена аж надта. І рэчак сплаўных многа, а па краёх, як бы ад ворага абгароджаная пяском, балотамі ды цёмнымі лясамі. Вось выйдзі толькі дзе-небудзь на гару, пад гай зялёны, ды азірніся на свет божы! Так душа твая і зарадуецца.

Бач! уніз ад рэчкі гара зáраснікам пакрытая, уся арэшнікам, чаромхай, каліннікам ды маліннікам зарасла. А чаромха-то цвіце — няйначай хто пухам лябяжым укрыў, і пах за вёрсты ветрам нясе. А рэчка

сама — моў стужка блакітная, між верб ды альшын ветрам раскінутая. А за рэчкай лука аж зіхаціць кветкамі. А далей за лукай поле зелянее. А ўвакол усяго цёмны лес сінее. Глянь улева — панскі двор бялее і тапалі тырчаць, моў на старожы стаяць; а ўправа сяло ціха лягло, паўз раку на беразе. У сады прыбрана яно, а ў сяле хлопцы, як дубкі, а дзяўчаты, як ягадкі. Пазіраеш на ўсё гэта, і штось за сэрца шчэміць і грудзі шырака раздымае, і ляцеў бы, здаецца, над палямі, над лугамі, па-над лесам сінім...

І на гэтай нашай зямлі спрадвеку нашы дзядыпрадзеды жылі, каторыя не раз грэкамі, немцамі і рымлянамі траслі...



## СКАЗ МАЦІ ПАРТЫЗАНА

— Сын мой Андрэй нарадзіўся ў горы і гадаваўся ў горы, пасвіў скаціну ў шляхты і ў кулакоў і браў па тры рублі за лета. Як падрос, працаваў на млыне. Сам ён быў граматны, чытаў кніжкі розныя і хаваў і нам не паказваў. Бывала, піша што-небудзь, я падыду, а ён захінецца, каб я не чытала. Дык я кажу:

— А каб ад цябе, мой сынку, дзеўкі захіналіся! Ён засмяецца і піша далей. Тады ён рабіў добрую справу для людзей.

Я яму іншы раз кажу:

— Чаму ты, сынок, не жэнішся?

А ён:

— А, мама, нічога! Багаты ці будзеш, а жанаты бу-

дзеш. Жанюся я — і на цябе забудуся, і на бацьку, і дзела маё ўбок бы пайшло. Дачакаем лепшага дня, тады пабачым.

Хутка ўзялі яго ў армію. Як ён быў на флоце, дык служыў на крэйсеры «Рурык». І на караблі ён быў рэвалюцыянерам. Пісьмы адтуль бацьку прысылаў і прасіў, каб пісьмы гэтыя не хавалі, а палілі. Ён пісаў, што цара скінулі, і раіў бацьку, каб уступаў у партыю бальшавікоў, і ў лістах сваіх тлумачыў нам, што яны волі дабіваюцца для ўсяго народа.

Ну, а як мой сын з флоту вярнуўся, зноў заняўся гэтай справай, народ падгаворваў хіліцца к савецкай уладзе. Зброю даставалі, развінчвалі чыгунку, панства гналі прэч з Беларусі. Дома ён ніколі не стыкаўся, а ўсё быў у лесе. Часта прыбягалі людзі і пыталіся, дзе ён. А мне сын наказваў, каб усім гаварыла, што пайшоў у Смілавічы карову купляць. А гэта ўсё хадзілі правакатары, шукалі яго слядоў. Бывала, прыйдзе сынок пад раніцу ці ўначы — з ім чалавек пяць-шэсць — і кажа мне:

— Маці, накармі маіх таварышаў.

Я пытаюся:

— Хто такія?

А ён:

— Гэта мае таварышы-матросы.

У сына майго быў рэвальвер, і ружжы яшчэ былі пазакапаны ў нас у садзе. Хадзіў ён у чорным шынялі флоцкім, і быў ён моцны, бо абы-якіх на флот не бралі. Як першы год прыйшоў з арміі, дома працаваў на гаспадарцы, хоць і рабіў дзень і ноч, а хадзіў заўжды чысты, прыбраны — сам бялізну памые, высушыць, прыбярэцца. Парадак дома вялікі навёў. Бывала, увечары сабярэ хлапцоў і песні пяе з імі флоцкія, у яго на ўсё мястэчка першы голас. З мужчы-

намі ўвесь час гаварыў то пра зямлю, то пра волю. Добры быў для народа, з усімі дружыў. Бывала, у адну мінуту разгоніць бойку, такі быў разважлівы і сур'ёзны.

Доўга яго не было дома, як у партызанах ваяваў, плакалі мы па ім, а тады аднойчы прыйшоў уначы яшчэ з адным і лёг спаць. У тую ж ноч, як світаць стала, акружылі нашу вёску белапалякі, паставілі кулямёт і стралялі ўсіх, хто бег з вёскі.

У нашу хату ўварваліся і схапілі яго, беднага, і таварыша яго. Білі сыночка прыкладам у грудзі, а тады вывелі на вуліцу, пасадзілі на аўтамабіль і павезлі ў панскі двор на расправу. А галоўны начальнік белапаляцкі, прозвішча яго Цяпліцкі, кажа:

— Спаліце ўсю вёску, трэба гэта зелле бальшавіцкае з коранем вырваць.

Чатыры жандармы засталіся ў нашай хаце і пачалі пароць усё. Картачку майго сына знайшлі і парвалі на кавалкі. Я кінулася, хацела сабраць і пасля склеіць, каб захаваць на памяць, дык яны, гады, вярнуліся, узялі гэтыя кавалачкі і спалілі, каб і следу не было.

У панскім двары сынок сядзеў за кратамі. Паны хацелі, каб выдаў усіх партызанаў; яны і кармілі яго добра, і казалі — дай спісы, а ён нікога не выдаў і спісаў не даў.

Белапалякі прыходзілі да мяне, білі і ўсё пра спісы тыя дапытваліся. А адзін раз уначы з'явіўся да нас нейкі чалавек, палез на гару, знайшоў там паперы, спаліў іх у печы і моўчкі пайшоў.

У партызанскі атрад пралезлі гады-правакатары, якія выдалі планы партызанскага атрада белапалякам...

Але ні адзін з партызанаў не здрадзіў...

Мяне білі, мужа майго білі і дзяцей білі, усё хаце-

лі, каб мы выдалі таварышаў нашага сына. Мне нават горб набілі прыкладам.

Я хадзіла да сына і прасіла, каб ён нікога не выказваў, бо пабралі б усіх людзей з ваколіц. Тады ён кажа мне:

— Дарагая матуля, я словы вашы разумею.

Я панясу яму есці і плачу, а ён:

— Не плачце, маці, маю магілу людзі лапкамі і кветкамі закідаюць, а пра вас савецкая ўлада паклапоціцца. Памру, але таварышаў не выдам.

Пасля быў суд. Іх білі перад судом, дык ён дачцэ маёй, сваёй сястры, аддаў кашулю памыць і прасіў, каб мне не паказвала. Дачка мне бялізну аддала, я як убачыла, дык абамлела: на кашулі было 28 скруткаў скуры, як яго білі шампаламі, і ўся кашуля была пакрываўлена. Мыла я кашулю тую і слязамі і вадой.

Яму можна было ўцячы, і гаварыла я яму пра гэта, дык ён казаў:

— Вы, матуля, не ведаеце, чым я займаюся. Каб я быў злодзей, уцёк бы, а як я змагаюся за праўду народную, уцякаць мне не трэба. Уцёк бы я, а вы ўсе забітыя праз мяне былі б.

Пасля суда прывялі папа, каб ён спавядаў. Андрэй мой адмовіўся. Прыгаварылі сыночка, яго таварышаў, усяго адзінаццаць чалавек, да расстрэлу, іншых на вечную катаргу асудзілі.

Хацелі расстраляць іх уначы, але ноччу быў дождж страшэнны, быццам слёзы людскія ліліся. Павялі іх раніцою, закавалі ў кайданы па два чалавекі і ў пушчы расстралялі.

Казалі людзі, якія магілу капалі, што ім вочы пазавязвалі, а перад гэтым яшчэ раз папа прывялі, а тады пабілі, пастралялі, некаторых жывымі закапалі ў магілу.

Як яго пахавалі, я хадзіла шэсць начэй на мо-

гілкі, не магла дахаты пайсці, сына свайго аплакала. Казала я сама сабе:

«Папухнеце вы, белапалякі, а мы сыноў сваіх дастанем».

Аднойчы ўначы я была ля могілак, чую, ідзе польскі патруль.

Гавораць яны між сабой:

— Тут нехта бывае, злапім, будзе яшчэ адна магіла.

Уцякла я адтуль, як на голубу ляцела.

Хадзіла тры разы тапіцца — не магла гора перажыць, але людзі стрымалі мяне.

Белапалякі магілу зраўнялі з зямлёю, каб і знаку не было. Але скора ворагі ўцяклі, і праз тры дні прыйшла папера, каб магілу адкрыць. Чырвоная Армія пахавала нашых дзяцей з музыкай.

Кожны год на могілках свята наладжваецца ў гонар дзяцей нашых; усе ідуць — і старыя і малыя — з чырвонымі сцягамі і мяне вядуць на пачэснае месца.

Я сама жыла ў бядзе і ў горы, мой бацька быў бядняк з беднякоў, толькі на дзеці і быў багаты — у яго было трынаццаць душ. Елі мы мякіну, мяшаную з грэчкаю, і так гадаваліся. А як Андрэй падрос мой, дык казаў:

— Маці дарагая, не бядуйце, скора будзе шчаслівае і добрае жыццё для ўсяго народа.

Я адна цяпер жыву, уся сям'я мая загінула, а савецкая ўлада дала мне пенсію.

Дзеці мае, чатыры душы, памерлі праз пабоі белапалякаў, і муж мой, пасля таго як сына расстралялі, счарнеў ўвесь, так перажываў, знясілеў і хутка памёр.

Дзеці мае рабочыя людзі былі — і касілі, і малацілі, усякую работу рабіць маглі, але не дажылі яны да нашага часу.

Мяне піянеры вазілі ў Мінск і пра сына расказаць прасілі, а я плакала болей, чым гаварыла. Горка мне на сэрцы маім.

Але цешыць сэрца тое, што сын мой, якога я выхавала, за народ змагаўся; хоць кроў сваю праліў, але ўнукі нашыя знайшлі долю на вольнай ад панскай нечысці зямлі.



## САМАЕ МОЦНАЕ СЛОВА Ў СВЕЦЕ

Калі немцы ў Беларусь улезлі, як зброддлівыя свінні ў чужы агарод, пачаў самы галоўны іхні, Гітлер, выхваляцца на ўвесь свет — і па радыё гаварыць, і ў газетах пісаць:

— Няма такой сілы, каб маю сілу змагла адолець, і народа такога, якога б я не сагнуў у тры пагібелі.

А ў нашым сяле пастух быў. Не сказаць каб асілак які: і росту сярэдняга, і ў плячах не надта шырокі. Праўда, бычка-трацячка за рогі на калені ставіў. Слухаў ён, слухаў Гітлера дый кажа:

— Каб ты на свеце так жыў! Хто многа хваліцца, той хутка паваліцца. Хваліўся і воўк, што ў жывога каня падковы з ног здзярэ, але сам дамоў без зубоў прыйшоў. Будзе гэтак і табе.

Дайшло яго слова да Гітлера, загадаў ён схапіць пастуха і прывесці да сябе.

— Ты,— кажа,— у маю сілу не верыш?

А пастух — яму:

— Дзед мой і бацька ўсім праўду у вочы казалі і мне так загадалі. Не веру!

— А чаму? — пытаецца Гітлер.— Ці ж ты не чуў, што я — другі Напалеон?

— Не ведаю,— адказвае пастух,— можа, на полі ён і быў, а толькі на Бярозе ў нас ад яго шапка ды рукавіцы засталіся. Дзед мой яго там цэпам біў.

— Я мацней за Вільгельма! — упёрся Гітлер.

— Гэтага не ведаю,— кажа пастух.— Не быў я, калі вы з Вільгельмам дужаліся. Але мой бацька і Вільгельма біў.

— А ты сам маю сілу бачыў?

Паскроб пастух патыліцу:

— Бачыць-то бачыў... Толькі да сілы яшчэ розум трэба, а вось розуму я і не бачыў.

Зарагатаў Гітлер:

— На чорта мне той розум? Без яго я ўсю Еўропу зграб і палову Расіі ўжо ўзяў.

— Узяў, ды не панёс...

— А чым жа вы такія моцныя? — пытаецца Гітлер.

— А мы слова адно ведаем: калі скажаш яго, дык у ворага сілы ўбавіцца, а ў нас прыбавіцца.

— Скажы мне гэта слова,— пачаў прасіць Гітлер,— можа, яно і мне прыдасца.

— На пятлю хіба? Ад гэтага слова ты скапышся. Ад яго рэкі разліваюцца, пушчы з месца крануцца, віхры ды мяцеліцы ўзнімаюцца і ўсё на ворага рушыць. Яно крэпасці разбурае. Гэта самае моцнае слова ў свеце.— І, не чакаючы больш, як крыкне: «За Радзіму!»

У Гітлера адразу палова цела аднялася, вочы на лоб палезлі. А на ўсёй Беларусі пушчы ажылі — і лес, і людзі на немца пайшлі. Зямля пад нагамі ў ворага загарэлася. І ўсё таму, што нашы людзі самае моцнае слова ў свеце ведалі.

# ЗМЕСТ

Асілкі 3
Палешукі і палевікі 5
Векавечная мяжа 10
Чортаў мост 11
Дзяды расказвалі 18
Адкуль Рубеж 20
Капцы каля вёскі Сукрэмна 20
Пра татарскія курганы 21
Вітаўка 22
Бітва пад Лясной 24
Пра шведаў 24
Пявун-звон 25
Казацкі гаёк 26
Пакаранне 27
Месяц 30
Вось як даўней старых бацькоў кідалі 31
Адкуль сяляне і паны 33
Пра пана Кошчыца 33
Пра пана Оштарпа 35
Пра пане Каханку 37
Пра Чорную Даму 38
Дуб і сасна 41
Легенда кахання 41
Помнік вернаму каханню 42
Марысін парк 43
Пра бярозу Міцкевіча 44
Пра князя Слуцкага і яго замак на Князь-возеры 45
Пра пана Карпінскага і Чортава вакно 46
Як пры панах жылося 47
Каменная труна 48
Прылукі 51
Чаму кажуць: у Падцацкіх жывымі хаваюць 53
Адкуль зязюля ўзялася 54
Пра зязюлю 56
Як дзеці гадаваліся 57
Як мы вучыліся 57
Здарэнне з прыставам 59
Пан Багушэвіч вас слухае 60
Дзядзіна 61
«Богамаленне» 62
Як Мікола і Пётр коней на Украіне куплялі 64
Ілья і Пятро 65
Правільны суддзя 69
Бутрымава прыгода 70
Чорт дурыць падарожных 72
Пра чартоў 73
Нечысць заманьвае ў балота 74
Чорт у віхры 75
Чорт у постаці цяляці 77
Чорт скінуўся бараном 78
Дамавік ездзіць на конях 81
Хут 82

Як чорта выганялі 83
Скрыпач і ваўкі 84
Нядзеля 87
Серада і Пятніца 88
Халера 40-га року 90
Чаму воўк з сабакам ды з кошкай і мышкай варагуюць 92
Чаму заяц, ліса ды воўк разам не сыходзяцца 94
Чым болей хто мае, тым болей жадае, або Адкуль мядзведзі на свет узяліся 96
Адкуль узяўся мядзведзь 98
Адкуль мядзведзь 99
Адкуль пайшлі буслы 100
Чаму конь ніколі не пад'есць 101
Чарадзейнік замовіў стрэльбу 101
Моцны чарадзей 103
Удзеяна 105
Прыгожая Кінгі 106
Пра рэчку Арыштантка 109
Сож і Дняпро 109
Паходжанне ракі Віліі 111
Як нарадзіліся Нёман і Лоша 113
Нёман і Лоша 115
Пра возера Свіцязь 116
Чырвонае возера 120
Нарач 125
Вялічкаўскае возера 129
Возера Бяздонка 131
Возера Красны стаў 131
Сіняе возера 132
Сіні калодзеж 133
Паненчына бухта 134
Жывая вада 135
Паданне пра заснаванне Менска 137
Паданне пра Магілёў 137
Паданне пра заснаванне Бярэсця 142
Адкуль Гомель 143
Як паўстаў горад Браслаў 143
Валожын 144
Пра Давыд-Гарадок 145
Адкуль Івянец 145
Пра Кажан-Гарадок, Майдан і Відушаву гару 146
Адкуль Капыль 147
Як узніклі Клімавічы 148
Лунінец 149
Адкуль Нясвіж 150
Стоўбцы 151
Адкуль Узда 151
Адкуль Багатырэвічы 152
Бакшты 153
Вёска Варанілаўцы 154
Дафарэнцыя 155
Сяло Дольск 156
Заблудаў 157
Залатая Горка 157
Камень 159
Адкуль вёска Клепачы 160
Вёска Князева 160
Крайск 161
Крывазнакі 162
Адкуль назва вёскі Кукаўка 162
Лазовы Куст 163
Лебедзева 165
Пра мястэчка Леніна 166
Ліпень 167
Вёска Лышч і прозвішча Прыгодзіч 168
Марс 169
Налібакі 170
Пра вёску Падкамень 170
Перуноў Мост 171
Пестунь 172
Порплішча 174
Салтаны 175
Пра вёску Сейлавічы 177
Чаму наша сяло называецца Скупава 177
Трохгранны Дуб 178

Аб паўстанні Трывежы 179
Тыневічы 180
Адкуль Ухвала 181
Харошае 181
Вёска Холмеч 183
Адкуль назва Целяханы 184
Пра вёску Чэрнятын 184
Шведы 185
Як утварылася вёска Якшыцы 185
Адкуль узялося прозвішча Капач 186
Адкуль пайшло прозвішча Рубцоў 187
Адкуль прозвішча Хамутнік 187
Папова горка 188
Рымшава гара 189
Дзявочая гара 190
Мамчына горка 191
Пра Мір-гару 192
Перунова гара 192
Гара Княжа Магіла 193
Гара Княгінька 194
Багатыр-Гара 194
Красная горка 195
Мацейкава гара 195
Навасадскае замчышча 196
Відагоршч 199
Пра ўрочышча Галодныя могілкі 200
Курані 200
Урочышча Крычаў 201
Урочышча Акопы 201
Ад чаго высахла рэчка 202
Як зрабілася балота каля Кленікаў 203
Як узнікла Кабылічча балота 204
Альхімкіна балота 205
Скарб у балоце 205
Скарб-пярэварацень 206
Як скарб з-пад печы выходзіў 206
Заклятая магіла волата 207
Дзе цень сягае 209
Пра скарб закляты 211
Пра скарб, закапаны на Азярыйскім гарадзішчы 212
Заклятае багацце 213
Закляты скарб 214
Курган каля Заслаўя 216
Лоскія паданні 216
Змееў камень 221
Камень-кравец 223
Камень-шавец 224
Цудадзейны камень 225
Пра камень у Валілах 225
Літоўскі камень 226
Тураўскія саркафагі 227
У ноч на Купалу 232
Русалчын востраў 233
Русалкі 234
Начніцы 235
Ваўкалакі 237
Расамаха 240
Пра стральца і змея 241
Бяздоннае багацце 242
Прамова 244
Сказ маці партызана 246
Самае моцнае слова ў свеце 251

**Бяздоннае багацце: Легенды, паданні,
Б 99 сказы / Склад. А. І. Гурскі.— Мн.: Маст.
літ., 1990.— 255 с.: іл.**

ISBN 5-340-00254-3.

Бездонное богатство: Легенды, предания, сказания.

У зборнік увайшлі беларускія народныя легенды, паданні, вусныя сказы, у якіх адлюстроўваюцца нацыянальныя рысы жыцця народа, выяўляецца яго светапогляд. Творы ўзяты з рукапісных архіваў, а таксама з фальклорна-этнаграфічных зборнікаў Е. Раманава, П. Шэйна, А. Сержпутоўскага, М. Дабравольскага, М. Федароўскага, з літаратурных крыніц і запісаў самога складальніка.
Тэксты адаптаваны з разлікам на масавага чытача.

**4702120205—055
Б ——————————— 138—90 ББК84Бел7
М 302 (03)—90**

*Литературно-художественное издание*

**БЕЗДОННОЕ БОГАТСТВО**
**Легенды, предания, сказания**
**Составитель Гурский Антон Иванович**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ**
**Легенды, паданні, сказы**
**Складальнік Гурскі Антон Іванавіч**

*Рэдактар У. А. Арлоў. Мастак В. А. Губараў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Я. Ф. Харко.*

ІБ № 2961

Здадзена ў набор 21.07.89. Падп. да друку 13.12.89. Фармат $70\times108^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура кудрашоўская энцыклапедычная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,20. Ум. фарб.-адб. 11,20. Ул.-выд. арк. 9,35. Тыраж 50 000 экз. Зак. 2764. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.